


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

15 СНЕЖНЯ 2000г. № 50/4082 КОШТ 110 РУБ.







# Дом мастака




Гэты дом знаходзіцца непадалёк ад новага аўтавакзала "Маскоўскі" і станцыі метро "Усход". Ён мае статус помніка сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Дом збярогся, прынамсі — вонкава, адносна някепска, бо ў савецкіх граданачальнікаў і падначаленых ім архітэктараў папросту не дацягнуліся да яго рукі. Крэмзалі, перабудоўвалі, "пасацыялістычнаму" рэканструявалі ў асноўным цэнтр Мінска. А вуліца Парніковая, на якой стаіць гэты сядзібны дом, доўгі час была далёкай ускраінай, а яшчэ раней — прыгарадам з назваю Вялікая Сляпянка. Парку, што атачаў сядзібу, цяпер няма, дом знутры перабудаваны і прыстасаваны пад офісы. Калі наш фотакар рабіў здымкі, з дома выйшлі нейкія людзі і, не павітаўшыся, нервова пацікавіліся, чаго яму тут трэба — мабыць, прыняўшы журналіста за шпега падатковай інспекцыі...

Архітэктурнай спадчыны XIX стагоддзя ў Мінску няшмат. Ужо адна гэтая акалічнасць вымагае ставіцца да гэтага дома як да фамільнай каштоўнасці. Сядзіба ў Вялікай Сляпянцы належала Ваньковічам, слаўнаму беларускаму шляхецкаму роду, з якога выйшаў вядомы мастак, якога лічаць сваім беларусы, жамойты, палякі. Энцыклапедыя сцвярджае, што гэтая сядзіба звязана з яго жыццём і творчасцю. Калі б у гэтым доме нават праездам спыняўся які-небудзь палітычны дзеяч кшталту Мяснікова альбо Калініна — можна не сумнявацца, быў бы мемарыяльны музей. А Валенты Ваньковіч — мастак, ды яшчэ беларускі... Хацелася б думаць, што такое стаўленне да нацыянальнай спадчыны ўсё ж паступова адыходзіць у нябыт. Зрэшты, і краіне, што не так даўно аднавіла суверэнітэт, і гораду, што мае гонар быць сталіцай краіны, трэба прыстойны радавод. Увасоблены ў помніках і музеях.

**П. В.**



# КОЛА ДЗЁН

**Да пачатку трэцяга тысячагоддзя засталося шаснаццаць дзён. Здаецца, ужо ўсе змірыліся з тым, што час ляціць хутка і яго трэба выкарыстоўваць належным чынам, бо заўтра можа быць позна. І ўсё ж канца свету не будзе. А свята ў кожнага сваё... У Амерыцы пяць тыдняў лічылі галасы і судзіліся, каб вызначыць, каго амерыканскі народ выбраў сабе ў прэзідэнты, і нарэшце далічыліся — новым прэзідэнтам ЗША стаў Буш-малодшы.**

### КАНГРЭС ТЫДНЯ

У Мінску прайшоў трэці Міжнародны кангрэс беларусістаў. Гэтай асацыяцыі сёлета споўнілася 9 гадоў. Яе членамі з'яўляюцца каля 650 чалавек з 24 краін свету. Тэмай кангрэса была "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый". На працягу двух дзён прагучалі даклады і навуковыя паведамленні аб творчасці Францішка Скарыны ў кантэксце рэнесансу і аб значэнні статутаў Вялікага Княства Літоўскага як праявы культуры рэнесансу; аб ідэі дзяржаўнай незалежнасці ў славянскай супольнасці народаў і ролі культуры ў развіцці беларускай нацыянальнай свядомасці на мяжы стагоддзяў і тысячагоддзяў; аб беларускай супольнасці на постсавецкай прасторы, яе праблемах і перспектывах і новай эліце беларускай дыяспары, яе адметных рысах і асаблівасцях і інш. На кангрэсе выступілі больш за 50 даследчыкаў з Расіі Украіны, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Англіі, Чэхіі, Славакіі, Японіі і іншых краін свету. Кангрэс беларусістаў яшчэ раз пацвердзіў, што наша беларуская грамадства разумее сітуацыю, у якой цяпер знаходзіцца, і гатова да шырокага супрацоўніцтва з цывілізаваным светам. На жаль, праца трэцяга Міжнароднага кангрэса беларусістаў не знайшла належнага адлюстравання ў сродках масавай інфармацыі...

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Чарговыя выбары прэзідэнта Беларусі пройдуць у верасні 2001 года. Пра гэта ў інтэрв'ю "Інтэрфаксу" паведаміла старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына. Дакладную дату выбараў, згодна з Канстытуцыяй, павінен пазначыць парламент. Аднак выбары павінны адбыцца да 27 верасня, "таму што паўнамоцтвы дзеючага прэзідэнта заканчваюцца 27 лістапада 2001 года", — сказала Л. Ярмошына. Правядзенне датэрміновых выбараў, па словах старшыні ЦВК, беларускай Канстытуцыяй не прадугледжана, "за выключэннем выпадкаў, калі месца прэзідэнта вакантна". У той жа час, удакладніла Л. Ярмошына, закон не забараняе прэзідэнту звярнуцца ў парламент з ініцыятывай правядзення датэрміновых выбараў.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

Цэнтральная выбарчая камісія Беларусі прыняла рашэнне правесці паўторныя выбары ў ніжнюю палату парламента 18 сакавіка 2001 года. Паўторныя выбары пройдуць у 13 акругах. Для правядзення выбараў будзе створана 5000 участковых выбарчых камісій. Выбары "будуць каштаваць" 279 мільёнаў рублёў, пры гэтым ЦВК выкарыстае 150 мільёнаў, "зэканомленых" у час галасавання 15 кастрычніка. Кандыдатамі ў дэпутаты могуць вылучацца і тыя, хто не здолеў трапіць у парламент з першага разу. Але, як кажуць, калі ўжо адзін раз далі па лобе, то ці варта зноў падстаўляць балючае месца...

### ПЛАНАВАННЕ ТЫДНЯ

Які ўжо год будуецца новы чыгуначны вакзал нашай сталіцы. Але, як кажуць, рана ці позна ўсяму прыходзіць канец. Здаецца, нарэшце, мяркуючы па дадзеных спецыялістаў Беларускай чыгункі, з канца 2000 года плануецца паэтапнае ўвядзенне ў эксплуатацыю новага вакзальнага комплексу. У прыватнасці, будзе завершана будаўніцтва другога падземнага тунеля, які вядзе да платформаў, і ўведзены падземны ўзровень галоўнага корпуса, дзе будуць размешчаны эскалатары, камера захоўвання і санвузлы. Акрамя ўсяго, плануецца цалкам закончыць добраўпарадкаванне вуліцы Кірава. За 10 месяцаў гэтага года на ўсё будаўніцтва патрачана ўжо больш як 8 мільярдаў рублёў. Праўда, з іх прыблізна 5,5 мільярда рублёў — з рэспубліканскага бюджэту, а астатняе фінансаванне зрабілі самі чыгуначнікі. Цалкам вакзальны комплекс у Мінску будзе збудаваны ў 2001 годзе. Але, як кажуць, не кажы "гоп", пакуль не пераскочыў... І ўсё ж...

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

У друку з'явілася пастанова "Аб павышаючых каэфіцыентах і штомесячных даплатах да тарыфных ставак (акладаў) работнікаў арганізацый, якія фінансуюцца з бюджэту і карыстаюцца дзяржаўнымі датацыямі". Пастанова дзейнічае з 1 снежня 2000 года. Словам, крыху ізноў пабагацеем. Ці ж надоўга?

### КЛОПАТ ТЫДНЯ

На прэс-канферэнцыі для журналістаў намеснік начальніка Упраўлення спажывецкага рынку харчовых тавараў Міністэрства гандлю РБ Любоў Язэпчык паведаміла, што ў пераднавагоднія дні ніводны прадукт харчавання не трапіць у разрад дэфіцытных тавараў. І хаця калядных распродажаў, якія шырока практыкуюцца на Захадзе, мы сёлета не дачакаемся, усё ж тое-сёе будзе. Напрыклад, ЦУМ з 18 па 24 снежня правядзе пераднавагодні пашыраны продаж абутку айчынных вытворцаў, на якім кожны 20-ы, 30-ы, 40-ы і 50-ы пакупнік будзе атрымліваць бясплатную пару абутку. 29 і 30 снежня буйныя сталічныя універмагі збіраюцца працаваць да 22 гадзін, а 31 снежня — да 21 гадзін. 1 студзеня універмагі працаваць не будуць. Харчовыя магазіны будуць працаваць 31 снежня да 21 гадзіны, а 1 студзеня — з 10 да 18 гадзін. Словам, святкуйма!

### ПОСПЕХ ТЫДНЯ

За часы незалежнасці наша краіна здолела даказаць, і ў першую чаргу сама сабе, што яна сапраўды можа існаваць самастойна, зразумела, не забываючы пра тое, што нельга хавацца за высокім плотам ад усяго свету. Мы паказалі, што наша краіна не толькі зборачны цэх, але і вытворца тралейбусаў, аўтобусаў і іншай тэхнікі, якая не горшая, чым дзе. І вось нядаўна паспяхова прайшоў выпрабаванні і рэкамендаваны да запуску ў вытворчасць збожжаўборачны камбайн КЗС-7, распрацаваны на вытворчым аб'яднанні "Гомсельмаш". У параўнанні з папярэднім камбайнам "Гомсельмаша", КЗР-10, новая мадэль больш эканамічная. Так што, не трэба плакаць, што не будзе чым жыта жаць, было б само жыта...

### ЦУДЫ ТЫДНЯ

Сярэдзіна снежня. Звычайна ў гэтую пару з-за снегу ні прайсці, ні праехаць. А сёлета — цёпла. І не проста цёпла, а так, што на адным з хутароў Лідскага раёна паблізу вёскі Рылаўцы зацвіла вялікая колькасць рамонкаў і васількоў. У мінулы год такі цуд адбыўся і ў Слоніме, дзе на прысядзібным участку аднаго гараджаніна зацвіла яблыня. Акрамя кветак у полі, у лесе растуць грыбы. Цуд! Але ў такі час гэта ўсё адбываецца неспроста, таму ўсё ж варта задумацца: а ці не на бяду якую ўсё гэта? Зрэшты, нам да бедаў не прывыкаць...

### ПЕРАНОСЫ ТЫДНЯ

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб пераносе рабочых дзён у 2001 годзе. Згодна з гэтай пастановай пераносіцца рабочы дзень з аўторка 2 студзеня на суботу 20 студзеня; з панядзелка 23 красавіка на суботу 21 красавіка; з панядзелка 30 красавіка на суботу 28 красавіка; з панядзелка 2 ліпеня на суботу 7 ліпеня; з панядзелка 24 снежня на суботу 22 снежня; з панядзелка 31 снежня на суботу 29 снежня 2001 года. Пераносаў шмат. Глядзіце, не праблытайце!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Памяці Івана Гаўрылавіча Чыгрынава будуць прысвечаны чытанні, якія пройдуць 26 снежня ў канферэнц-зале Дома літаратара. Ладзяць мерапрыемства Саюз пісьменнікаў і Беларускі фонд культуры. Як вядома, наш славуты пісьменнік быў адным са стваральнікаў і першым старшынёй Беларускага фонду культуры. У чытаннях прымуць удзел вядомыя літаратары, дзеячы культуры, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

●

Сярод прадстаўнікоў рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі, якія пабывалі ў мінулую нядзелю ў Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, былі і пісьменнікі. Яны прынялі ўдзел у праграме "Сувязь пакаленняў", якую вёў ст. навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея П. Броўкі Міхась Пратасевіч. Перад будучымі афіцэрамі выступалі Уладзімір Паўлаў, Міхась Пазнякоў, ансамбль "Менскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука, салісты сталічнага Дома афіцэраў.

●

Вечар італьянскай паэзіі ў перакладзе на беларускую мову — такі адзін з канкрэтных вынікаў сустрэчы прадстаўнікоў нашага творчага саюза з паслом Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джавані Чаруці. Гутарка, у якой прынялі ўдзел В. Іпатава, Н. Гальпяровіч, А. Карлюкевіч, Л. Рублеўская, насіла нязмушаны сяброўскі характар і мела на мэце больш актыўна спрыяць культурным стасункам нашых дзяржаў і народаў, у прыватнасці — літаратараў.

**Н. К.**

●

На чарговым пасяджэнні бюро секцыі перакладаў абмяркоўваліся пытанні тэорыі і практыкі перакладчыцкай дзейнасці. Пра неабходнасць збірання і ўпарадкавання неабходных матэрыялаў гаварылі Іван Чарота, Міхась Кенька, Уладзімір Мархель, Леанід Казыра, Уладзімір Казбярук, Уладзімір Анісковіч, Кастусь Цвірка. Беларускае прыгожае пісьменства цесна звязанае з роднаснымі славянскімі літаратурамі, таму перакладчыцкая праца займае асобнае месца ў літаратурным працэсе, набывае вялікае значэнне для ўзаемаўзбагачэння культуры і мовы розных народаў.

●

Цяжка пераацаніць значэнне асобы і творчасці Максіма Багдановіча для беларускай дзяржавы, для сучаснасці і будучыні, для нас і нашых далёкіх нашчадкаў, — падкрэслілі на сустрэчы з нагоды 109-й гадавіны з дня нараджэння славутага творцы паэты Леанід Дранько-Майсюк, Антаніна Хатэнка, Валянцін Тарас, дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Мікалай Трус.

**М. Р.**




# Адданасць музыцы

Баяніст, педагог, арганізатар і кіраўнік калектываў мастацкай самадзейнасці. Прафесар Беларускай акадэміі музыкі. Стваральнік арыгінальнай методыкі развіцця музычных здольнасцяў у дзяцей. Аўтар апрацовак і пералажэнняў, арыгінальных твораў для розных інструментальных складаў і салістаў. Асветнік і музычны крытык — дарэчы, адзін са сталых аўтараў "ЛіМа"...

Сур'ёзны, загартаваны франтам, сціплы, адданы музыцы чалавек, Міхал Рыгоравіч Солапаў заслужыў павагу ў асяроддзі калег, удзячнасць вучняў, студэнтаў. І вось — знак афіцыйнага прызнання яго творчых і педагагічных заслуг: указам Прэзідэнта Беларусі Міхал Солапаў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Прымаючы віншаванні ад тых, хто пачуў прыемную навіну па радыё і парадаваўся за Міхала Рыгоравіча, расчулены прафесар шчыра заўважыў: "У маім узросце ўзнагароды — не галоўнае. Галоўнае — запатрабаванасць. Адчуваць, што ты патрэбны".

Вялікі жыццёвы і прафесійны досвед, творчае светаўспрыманне, чалавечая чуласць, — сапраўдны скарб 76-гадовага музыканта, і гэты скарб заўсёды патрэбны тым, хто побач з М. Солапавым.

**С. Б.**



*На здымку: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі М. Солапаў са студэнтамі.*




# Праз год — з'езд

## 8 СНЕЖНЯ АДБЫЎСЯ IV ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МУЗЫЧНЫХ ДЗЕЯЧАЎ

Быць або не быць?" — гэтае, і зусім не філасофска-рытарычнае, а канкрэтнае пытанне трывожыла чальцоў праўлення саюза ў сакавіку 99-га, калі яны праводзілі свой, можна сказаць, надзвычайны пленум. Тады сітуацыя вымушала абмяркоўваць праблему самароспуску БСМД, існаванне якога ў жорсткіх (і недарэчных для грамадскай суполкі) фінансавых варунках, пры адсутнасці на той час закона аб творчых саюзах, рабілася немажлівым. Толькі апошняя надзея на ўвагу і мудрасць улады ўтрымала тады ад "самагубства"...

Час мінуў, сёе-тое змянілася да лепшага, Саюз музычных дзеячаў здолеў сябе захаваць, правесці перарэгістрацыю сваіх сяброў і зрабіць нямала добрага для беларускай культуры. Як адзначыў у справаздачным дакладзе старшыня праўлення БСМД прафесар М. Дрынеўскі, шматгадовае супрацьстаянне творчых саюзаў і чыноўнікаў скончылася тым, што дзякуючы ўмяшальніцтву Прэзідэнта была ўстаноўлена льготная плата за арэнду памяшканняў, саюзы пачалі атрымліваць дзяржаўныя субсідыі на забеспячэнне статутнай дзейнасці. Шчыра клапаціўся пра гэта першы старшыня канфедэрацыі творчых саюзаў нашай краіны М. Яроменка.

Паляпшэнне фінансавага становішча паспрыяла паслядоўнай рэалізацыі творчых планаў. Сваёй актыўнасцю вылучыліся асацыяцыя цымбалістаў на чале з Я. Гладковым, асацыяцыя дамрыстаў і мандаліністаў пад кіраўніцтвам Г. Асмалоўскай, Беларуская перкусійная асацыяцыя, якую ўзначальвае У. Судноўскі. Нямала зроблена саюзам для павышэння прафесійнага майстэрства музыкантаў (арганізацыя кансультацый, курсаў, канферэнцый, майстаркласаў, у тым ліку разам з Беларускай акадэміяй музыкі, Польскім інстытутам у Мінску і г.д.). Падтрымліваецца правядзенне музычных мерапрыемстваў, фестываляў не толькі ў Мінску ("Снежаньскія музычныя вечары" ў Брэсце, фестываль імя І. Саляргінскага ў Віцебску, "Убельская ластаўка" ў Чэрвені, "Сымон-музыка" на Стаўбцоўшчыне)...

На жаль, нагадаў М. Дрынеўскі, працаўнікі культуры апынуліся на апошняй прыступцы па заробках, і даводзіцца паўтараць банальныя яшчэ ў часы СССР словы пра ганебны для грамадства рэштквы прынцып фінансавання найважнейшай галіны нашага нематэрыяльнага жыцця. У сваёй працы Беларускі саюз музычных дзеячаў сутыкаецца з мноствам праблем не творчага, а эканамічнага кшталту. Пра гэта гаварылася і ў дакладзе, і ў спрэчках...

Саюз пачынае рыхтавацца да свайго другога з'езда. І праблемы, якія хвалююць музычных дзеячаў Беларусі, "ЛіМ" не пакіне без увагі.

**С. Б.**




# Наўздагон Рушчыцу

***Навуковымі чытаннямі і выставай з пленэрных твораў суполкі "Пагоня" адзначыў Нацыянальны мастацкі музей 130-ыя ўгодкі з дня нараджэння славутага мастака. Творы М. Купавы, А. Марачкіна, А. Пушкіна, В. Мікіты, Р. Мяжуева, М. Аўчыннікава, К. Харашэвіча, Ф. Ладуцькі і іншых мастакоў прадстаўлены і ў малой зале Нацыянальнага мастацкага музея, і ў зале філіяла музея ў памяшканні былога францішканскага кляштара ў Гальшанах.***

Суполка прапанавала гледачам натурныя, большай часткай акварэльныя замалёўкі, створаныя падчас жнівеньскага пленэру ў Рушчыцавых мясцінах.

Імя Фердынанда Рушчыца упрыгожвае беларускае мастацтва памежжа XIX і XX стагоддзяў і з'яўляецца адной з лепшых яго старонак. Значэнне Рушчыца як мастака, выкладчыка, актыўнага дзеяча на ніве беларускай культуры дасюль не раскрыта цалкам. На жаль, на Беларусі захоўваецца толькі адна яго карціна "Ля касцёла" — у экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея. Іншыя — у прыватнай калекцыі Літвы і Польшчы. Нарэшце выдадзеныя ў Польшчы нашчадкамі Рушчыца дзённікі мастака апавядаюць пра шчырую любоў яго да роднай зямлі, да мясцін яго дзяцінства і сталага жыцця — Багданава, Вішнева, Гальшанаў. Некалькі экземпляраў двухтомных дзённікаў, прывезеных сынам і ўнукам Рушчыца, дырэктарам Нацыянальнага музея ў Варшаве, падчас наладжанага ў верасні Беларускай акадэміяй выяўленчага мастацтва пленэру, не трапілі ў рэспубліканскія бібліятэкі і азнаёміцца з імі даволі складана. Але хочацца думаць, што распачатае двума пленэрамі і навуковымі чытаннямі вяртанне гэтага мастака будзе штуршком для стварэння новых твораў мастакамі і пісьменнікамі.

Матэрыял пра жыццёвы шлях мастака і святкаванне яго юбілею будзе прапанаваны ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа".

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# Адказ на выклік часу

## НА ПЫТАННІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ НАДЗВЫЧАЙНЫ І ПАЎНАМОЦНЫ ПАСОЛ УКРАІНЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Анатоль ДРОНЬ

***Два тыдні таму ўвага беларускай грамадскасці была прыцягнута да прыезду ў Мінск высокіх гасцей з Украіны на саміт СНД. У гэтыя дні адбылася і цырымонія афіцыйнага адкрыцця новага пасольскага комплексу Украіны ў нашай дзяржаве.***

***Адкрываючы новабудоўлю, Прэзідэнт Украіны Л. Кучма падкрэсліў: "Гэтым цудоўным будынкам мы сведчым павагу да Беларусі і яе народа, да нашых агульных векавых традыцый". Прэм'ер-міністр Беларусі У. Ярмошын, які ўдзельнічаў у цырымоніі адкрыцця, адзначыў, што ўзровень супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі павінен быць такім жа вялікім, як гэты велічны будынак, а самі стасункі — такімі ж светлымі і празрыстымі, як яго архітэктура.***



**— Паважаны спадар Пасол, напярэдадні заканчэння XX стагоддзя і другога тысячагоддзя якую знакавую падзею вы адзначылі б у гісторыі Украіны?**

— Перш за ўсё — абвяшчэнне незалежнасці Украіны 24 жніўня 1991 года Вярхоўнай Радай Украіны і пацвярджэнне Акта аб незалежнасці на ўсеўкраінскім рэферэндуме 1 снежня таго ж года. Яшчэ раз хачу нагадаць пра тое, што на ўсёй постсавецкай прасторы толькі Украіна правяла рэферэндум па пытанні аб незалежнасці. І тое, што пазітыўны адказ дало 90,3% грамадзян Украіны, было яркім сведчаннем таго, што XX стагоддзе, як бы хто ні ацэньваў яго, для нас сталася стагоддзем адраджэння Украіны.

**— Чарнобыльская катастрофа сталася вялікай бядой і для Украіны, і для Беларусі. Нашым краінам давядзецца штогод выдаткоўваць значныя сродкі на ліквідацыю наступстваў аварыі, і дата 15 снежня — закрыцця ЧАЭС — не будзе, на жаль, азначаць кропку ў чарнобыльскай праблеме.**

— Так, ваша праўда. Працы тут хопіць і наступным пакаленням, але, усведамляючы свой абавязак перад імі, гэтак жа, як і перад краінамі — нашымі суседзямі па кантыненце, Украіна пайшла на датэрміновае вывядзенне з эксплуатацыі ЧАЭС. Выкананне гэтага абавязацельства паставіла перад Украінай шэраг новых праблем, у прыватнасці, кампенсацыі энергетычных магутнасцяў, сацыяльнага ўладкавання значнай колькасці работнікаў станцыі і іх сем'яў. Трэба выканаць велізарны аб'ём работ па рэканструкцыі аб'екта "Сховішча".

На міжнародных парламенцкіх слуханнях па чарнобыльскай тэматыцы ў Кіеве 5 снежня прыводзіліся звесткі пра тое, што, акрамя страты даходаў ад зніжэння выпрацоўкі электраэнергіі мінумум 6 млрд квт/гадз. штогод, закрыццё станцыі звязана і з іншымі выдаткамі: правядзеннем комплексу работ на працягу 30-40 гадоў па пераўтварэнні ЧАЭС у экалагічна бяспечную сістэму, на што неабходна каля 2 млрд. долараў; будаўніцтва аб'екта "Сховішча-2"; выдаленне і пахаванне радыеактыўных адходаў — 1,2 млрд. долараў. Велізарных сродкаў вымагае падтрымка і развіццё інфраструктуры горада Славуціча. Вядома, такія фінансавыя аб'ёмы проста не па сіле бюджэту нашай краіны.

Важным крокам па адшуканні неабходных сродкаў можа стаць сумесная рэзалюцыя Украіны і Беларусі аб закрыцці ЧАЭС, якую ўкраінскі бок будзе ўносіць на разгляд 56-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Мы спадзяёмся, што міжнародная супольнасць не пакіне без увагі чарнобыльскія праблемы і пасля закрыцця ЧАЭС, чакаем безумоўнага выканання сваіх абавязкаў і з боку краін "вялікай сямёркі", членаў Еўрапейскага Саюза.

Нагадаю, што на саміце СНД, які нядаўна адбыўся ў вашай сталіцы, была падпісана сумесная заява кіраўнікоў дзяржаў СНД адносна закрыцця ЧАЭС. Прэзідэнт Украіны Л. Кучма на заключнай прэс-канферэнцыі назваў гэтую заяву знакавай і накіраванай на тое, каб увесь свет усвядоміў, што праблема Чарнобыля — гэта не толькі праблема Украіны і Беларусі, а й усяго чалавецтва. Адначасова Прэзідэнт заявіў, што Кіеў не лічыць неабходным звяртацца па дапамогу да краін Садружнасці, бо і Беларусь, і Расія пацярпелі не менш, чым Украіна. Мы добра ведаем, падкрэсліў Прэзідэнт, у якой эканамічнай сітуацыі знаходзяцца цяпер краіны Садружнасці, а таму з боку Украіны было б некарэктна ўздымаць пытанне аб дапамозе перад нашымі суседзямі па СНД.

Не магу тут не прывесці словы Прэзідэнта Л. Кучмы з яго паслання Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнку пра тое, што "на Украіне высока ацэньваюць супрацоўніцтва з братняй Беларуссю ў справе ліквідацыі наступстваў самай вялікай тэхнагеннай катастрофы ў гісторыі чалавецтва. Мы спадзяёмся на яго далейшае паглыбленне ў будучым, асабліва там, дзе гаворка ідзе пра каардынацыю намаганняў нашых краін на міжнароднай арэне".

І на заканчэнне гэтай тэмы хачу сказаць наступнае. Не Украінай створана чарнобыльская праблема. Гэта станцыя задумвалася і праектавалася не ў Кіеве, кіраўніцтва яе эксплуатацыяй ажыццяўлялася з саюзнага цэнтра. Але бяда прыйшла на Украіну і закранула сваім чорным крылом Беларусь. Вынікі гэтага нам выпала перааддольваць разам.

**— Ці ўмацавалася Украіна за мінулыя гады ў веры аб правільнасці свайго выбару? Ці не з'явіліся слабыя духам, тыя, хто перастаў верыць? Ці дасягнула грамадства міру і згоды, унутранай стабільнасці?**

— Думаю, што сам факт паўторнага выбрання Л. Кучмы Прэзідэнтам Украіны сведчыць аб імкненні ўкраінскага грамадства да стабільнасці, да ўмацавання грамадзянскага міру і згоды. Ажыццяўленне яго перадвыбарчай праграмы дазваляе нармалізаваць стасункі паміж галінамі ўлады, паміж палітычнымі партыямі, грамадскімі арганізацыямі, на ўзроўні міжэтнічным і міжканфесійным.

Сёння практыка пацвярджае — упершыню за гады незалежнасці нармалізаваліся адносіны паміж Вярхоўнай Радай і Кабінетам Міністраў, дзейнічае парламенцкая большасць. Па ініцыятыве Прэзідэнта ў Вярхоўную Раду ўнесены законапраект "Аб палітычных партыях", закліканы адрэгуляваць гэтую важнейшую сферу грамадскіх адносін.

Прыкладам таму — гарманізацыя дзяржаўна-царкоўных і міжканфесійных стасункаў у нашай краіне. За гады незалежнасці вернікам вернута 3,5 тысячы культавых будынкаў, узведзена больш за 3 тысячы новых храмаў і яшчэ каля 1000 знаходзяцца ў працэсе будаўніцтва. Адроджана жамчужына часоў Кіеўскай Русі Міхайлаўскі златаверхі сабор, адбудаваны і асвечаны ў 2000 годзе духоўны цэнтр праваслаўя — Свята-Успенскі сабор Кіева-Пячэрскай лаўры. Выступаючы на ўрачыстай юбілейнай акадэміі, прысвечанай 2000-годдзю Раства Хрыстова, Л. Кучма сфармуляваў тэзіс аб неабходнасці стварэння на Украіне адзінай памеснай праваслаўнай царквы, якая аб'яднала б вернікаў аўтакефальнай царквы, Кіеўскага і Маскоўскага патрыярхату.

**— Увагу беларускай грамадскасці прыцягнуў усеўкраінскі рэферэндум па народнай ініцыятыве, праведзены ў красавіку гэтага года. Як вынікі народнага волевыяўлення праводзяцца ў жыццё?**

— Безумоўна, забеспячэнне рэалізацыі народнай ініцыятывы — састаўная частка дэмакратызацыі грамадскага жыцця. Як паказваюць вынікі сацыялагічных даследаванняў, гэтыя крокі, ды й курс кіраўніка дзяржавы ў цэлым, падтрымліваюць каля 70 працэнтаў усіх грамадзян Украіны.

Л. Кучма неаднаразова падкрэсліваў, што вынікі рэферэндуму будуць увасоблены канстытуцыйным шляхам. Зараз у Вярхоўную Раду перададзены праект закона аб унясенні зменаў у Канстытуцыю Украіны. Мяркуецца, што гэты законапраект будзе прыняты на цяперашняй сесіі Вярхоўнай Рады. У бліжэйшы час у парламент будуць унесены і іншыя дакументы, неабходныя для ажыццяўлення вынікаў рэферэндуму.

Сэнс пераўтварэнняў адкрыты і празрысты — сістэма дзяржаўнага кіравання павінна быць дэмакратычнай і эфектыўнай, прадугледжваць салідарную адказнасць усіх галін улады.

**— Аднак з Украіны даходзяць і неспакойныя весткі пра новае процістаянне. Гаворка ідзе пра агучаную ў сценах Вярхоўнай Рады Украіны заяву дэпутата А. Мароза аб дачыненні да знікнення журналіста Георгія Гангадзе вышэйшага эшалона ўлады Украіны. Што вы можаце сказаць пра гэта?**

— Вядома, вельмі кепска, калі знікаюць без вестак людзі. Украінскі журналіст Г. Гангадзе пайшоў з дому 16 верасня і не вярнуўся. Глыбока заклапочаны тым, што адбылося, Прэзідэнт Украіны Л. Кучма даручыў сілавым ведамствам прыняць неабходныя меры і штодня інфармаваць яго пра ход расследавання.

Але, мяркуючы па ўсім, у Вярхоўнай Радзе знайшліся людзі, якія не змаглі змірыцца з палітычнай паразай мінулага года, дазволілі ўцягнуць сябе ў сцэнарый, які, падобна, нават напісаны не імі, бо відавочны почырк тых, хто на гэтай справе прафесійна набіў руку. Відаць, не ўсім падабаецца, што Украіна ўсё больш упэўнена становіцца на ногі — не падабаюцца зрухі ў эканоміцы, у вырашэнні сацыяльных праблем, выплаце пенсій і зарплат, у аздараўленні палітычнага клімату.

Адчуваецца, што сёй-той на Украіне імкнецца раздзьмуць палітычны крызіс, уцягнуць краіну ў доўгатэрміновыя выбары, новы віток палітычнага процістаяння. Аднак, адзначыў Прэзідэнт Украіны, "ніякія кампаніі, нічый шантаж не падштурхнуць, не справакуюць мяне на нейкія аўтарытарныя дзеянні альбо змену палітычнага курсу. Я дзейнічаў і буду дзейнічаць у прававым полі. На Украіне будуць і далей паслядоўна сцвярджацца дэмакратычныя прынцыпы".

**— Перыядычна ў СМІ з'яўляюцца матэрыялы пра становішча рускай мовы на Украіне. Відаць, да гэтай тэмы будуць яшчэ звяртацца, паколькі 2001 год быў абвешчаны Саветам Еўропы і Еўрапейскім Саюзам годам моў. Чаму па моўным пытанні часта ўспыхвае такая вострая палеміка?**

— Мы павінны ўлічваць тое, што і ў Расіі, і на Украіне сёння існуе разнастайная палітра грамадскай

(Працяг на стар. 4)

# АБСЯГІ

## ГОМЕЛЬШЧЫНА...

### Новая праграма

У Гомельскім дзяржаўным цырку — новая праграма: атракцыён сусветных зорак манежа, уладальнікаў прызоў "Залаты леў" і "Залатая тройка", заслужаных артыстаў Расіі, братоў Запашных. Назва атракцыёна — "Усурыйскія тыгры" (мастацкі кіраўнік народны артыст Расіі Вальтэр Запашны). Сенсацыйнасць атракцыёна ў тым, што ўпершыню ў свеце звяры з дрэсіроўшчыкамі запрашаюць самых смелых гледачоў у клетку на кубак кавы...

Арганізаваў прадстаўленне заслужаны дзеяч культуры Беларусі, дырэктар Гомельскага цырка Я. Лабовіч.

### Вернісаж светлагорцаў

Шмат мастакоў працуе ў Светлагорску. Мастакоў яркіх, самабытных. Доказам таму — выстава іхніх работ у карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Тут экспануюцца карціны В. Баранава, М. Кухарэнкі, М. Дакучаева, А. Сідарэнкі, М. Пранішнікава.

### Яшчэ адзін цэнтр культуры

Былы кінатэатр "Юбілейны" пасля рэканструкцыі перададзены ў распараджэнне Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Францішка Скарыны. Тут адкрыўся культурны цэнтр, дзе будуць праводзіцца розныя мерапрыемствы для моладзі ўсяго горада: спектаклі, конкурсы, выставы, сустрэчы з літаратарамі, мастакамі, музыкамі.

### Слаўныя шляхі капэлы

На Гомельшчыне добра ведаюць народную харавую капэлу абласнога Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці работнікаў асветы. Яе слава выйшла за межы Беларусі. Капэла давала канцэрты ў Расіі, на Украіне, у Польшчы, былой Чэхаславакіі, Францыі.

Сёння капэле — 25 гадоў. Яе стваральнікам з'яўляецца заслужаны работнік культуры Беларусі Уладзімір Курылін, выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. У рэпертуары калектыву значнае месца занялі творы сусветнай класікі і беларускіх кампазітараў. У 78-ым капэла стала народнай. У наступным годзе яна выступіла на Рэспубліканскім конкурсе самадзейных харавых калектываў у Брэсце. Гомельскія спевакі былі ўзнагароджаны дыпломам.

Канцэрты на роднай Гомельшчыне, у тым ліку ў чарнобыльскай зоне, на Браншчыне, Чарнігаўшчыне, у Мінску, Адэсе, Калінінградзе, Мурманску, Яраслаўлі, Клайпедзе, краінах далёкага замежжа... На рэспубліканскім фестывалі "Спеўнае поле", на фестывалі народнага мастацтва "Беларусь — мая песня" капэла атрымала дыпломы першай ступені.

**А. ШНЫПАРКОЎ**

## МАГІЛЁЎШЧЫНА...

### "Адкладзены партрэт"

На мінулым тыдні глуская раённая газета "Радзіма" адзначыла 70-гадовы юбілей. Да гэтай знамянальнай даты было прымеркавана выданне кнігі нарысаў і вершаў рэдактара газеты Навума Сандамірскага. Назва кнігі — "Адкладзены партрэт". Чытачы, прачытаўшы кнігу, змогуць дастойна ацаніць прафесіяналізм Сандамірскага не толькі як журналіста, але і як удумлівага і шчырага паэта.

### Харавы сабор

У абласным цэнтры адкрыўся фестываль царкоўнай музыкі "Магілёўскі харавы сабор", прысвечаны 2000-годдзю Раства Хрыстовага і памяці архіепіскапа Георгія Каніскага. На фестывалі будуць гучаць праваслаўныя спевы і паэтычныя творы самога Каніскага. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі ўпраўленне культуры гарвыканкама і гарадскі Цэнтр культуры і вольнага часу.

На фестываль запрошаны дзевяць харавых калектываў, восем з якіх — магілёўскія. Гэта хоры дзіцячай школы мастацтваў, гімназіі-каледжа музыкі і харэаграфіі, педфакультэта Акадэміі музыкі, музвучылішча, аўтазавода імя Кірава, гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу, Магілёўскай гарадской капэлы і царкоўны хор з Мінска.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## ГРОДЗЕНШЧЫНА...

### Пераможцы конкурсу

Як паведамлялася, абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў і рэдакцыя газеты "Гродзенская праўда" абвясцілі конкурс на лепшы мастацкі твор, прысвечаны юбілею Францішка Багушэвіча. Нядаўна былі падведзены вынікі конкурсу, у якім прынялі ўдзел студэнты, работнікі культуры, пенсіянеры. Першае месца вырашана не прысуджаць. Другое падзялілі паэты Васіль Гойда і Браніслаў Ермашкевіч. Трэцяе месца прысуджана студэнтцы Іне Мароз (таксама за паэзію). Пераможцы атрымаюць кнігі з пісьменніцкімі аўтографамі.

**НАШ КАР.**

## ВІЦЕБШЧЫНА...

### Ідэі авангарда

XIII Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі, што прайшоў у Віцебску, назваў імёны пераможцаў. Побач з прызнанымі мэтрамі авангарднага танца на сцэнічнай пляцоўцы Культурна-дзелавога цэнтра "КІМ" паказвалі сваё майстэрства дзесяць маладзёжных калектываў з Мінска, Гродна, Гомеля, Віцебска. Журы пад старшынствам народнага артыста Беларусі Валянціна Елізар'ева ўзнагародзіла спецыяльным прызам ансамбль Беларускага універсітэта культуры, дзве прэміі атрымалі мадэрн-балет "Галерэя" і група "Тад" з Гродна за творчы рост і арыгінальную пастаноўку. З аншлагам прайшла прэм'ера фестывалю балет-фантасмагорыя "Шчаўкунчык" у выкананні артыстаў Пермскага дзяржаўнага тэатра "Балет Яўгена Панфілава".

— У Віцебску нараджаецца новае ў адрозненне ад Заходняй Еўропы і Амерыкі бачанне сучаснай харэаграфіі, спецыфічнае для Беларусі, — адзначыла мастацкі кіраўнік групы сучаснага танца з Любліна, арт-дырэктар польскага міжнароднага фестывалю Ханна Стржэмеска.

**Святлана ГУК**

# "А праўда ўсё-такі жыве!"

## НАТАТКІ ПРА НЕАБЫДЗЁННАЕ

Ніл ГІЛЕВІЧ

### Гэта нашы людзі, нашы продкі...

Глыбокай ноччу, ужо амаль на додніку, прачнуўся, доўга варочаўся, кідаўся, адчуваючы, як "гараць мазгі", і нарэшце ўключыў лямпачку над галавой і працягнуў руку да нататніка. Ён таксама ў галавах, на падстаўнічку, бо здараецца са мной такое часта, і ўсё павінна быць напагатове... Узяў нататнік і запісаў:

"Дарагія браты мае, сябры і паплечнікі! Пра кожнага з нашых вялікіх землякоў, каго ў нас адабралі і прысвоілі сабе, перапісалі на свой адрас суседзі, — тады, калі мы былі бяспраўныя, — пра кожнага мы мусім, мы павінны, мы абавязаны напісаць на некалькі кніг. У розных жанрах: раманаў, аповесцей, паэм, п'ес, эсэ, — але не абы-якіх, а такіх пераканаўчых, яркіх і моцных, якія нельга аспрэчыць, якія скажуць усяму свету: гэта — наш гістарычны дзеяч, бо ён нарадзіўся і вырас тут, на гэтай зямлі і ў сям'і тубыльцаў гэтай зямлі, быў патрыётам гэтай зямлі, і не мае значэння, як тады гэта зямля называлася. Яна заўсёды была беларускай зямлёй — хоць і ў складзе Рэчы Паспалітай, хоць і ў складзе Расійскай імперыі. Пра кожнага з такіх сыноў і дачок беларускай зямлі і пра іх час трэба напісаць яркія дакументальна-мастацкія творы! І для сваіх чытачоў, перш за ўсё, і для цэлага свету.

Мы самі, самі ўжо так доўга паўтараем хлусню нашых незычліўцаў, што ў нас да Кастрычніка нічога не было, што мы пачаліся з Кастрычніка 1917-га года, — што людзі і паверылі нам: вас да Кастрычніка не было! Што вы цяпер прэтэндуеце, каб нехта лічыў Льва Сапегу ці братоў Тышкевічаў вашымі, ліцвінамі-беларусамі? Вас тады яшчэ не было! Што вы прэтэндуеце, каб мову Скарыны, Буднага, Цяпінскага прызнавалі за беларускую? Вас, беларусаў, тады яшчэ не было! Адкуль жа быць беларускай мове?

Сябры мае дарагія! Назва краіны можа мяняцца і нават не адзін раз — такое і са школьных падручнікаў вядома. Ну і што? Але сутнасць, але дух, але гісторыя народа і яго культуры — неперарыўныя! Чыё было Полацкае княства? Каму, якому сучаснаму народу прыпісаць яго? Наша было яно, дарагія мае, наша! Пачаткам **нашай** дзяржаўнасці было. Першай беларускай дзяржавай было. Ды якой дзяржавай! Не тое, што нейкае там дробнае, карлікавае княства ў цэнтры тагачаснай Еўропы. Было знанай і моцнай дзяржавай, з якою лічыліся ўсе суседзі. А Вялікае Княства Літоўскае — чыя гэта была дзяржава? Каму належала? Тагачаснай Маскоўі? Ці Жамойці? Ці Каралеўству Польскаму? Ды ні ў якім разе! Было самастойнай вялікай і магутнай дзяржавай, якою кіравалі нашы продкі ліцвіны, а не жамойцы і не маскоўцы. (Тады мы называліся ліцвінамі. Гэта імя настолькі было зраслося з нашым народам, што беларуская пісьменніца і фальклярыстка Марыя Косіч яшчэ ў 1901 годзе сваю навуковую кнігу выдала пад назвай "Ліцвіны-беларусы Чарнігаўскай губерні, іх побыт і песні". Бачыце, аднаго "беларусы" ёй было недастаткова, баялася, што могуць не зразумець, пра які народ ідзе размова). Так што — этнічна-гістарычная тэрміналогія нас не павінна бянтэжыць і ўводзіць у зман. Былі крывічамі, дрыгавічамі і радзімічамі, затым — ліцвінамі, а пасля нас "ахрысцілі (нас! — а не мы самі сябе) беларусамі, і мы паступова змірыліся, звыкліся. Так і існуем, і жывём. Але помнім: тыя выдатныя людзі, што жылі на этнічнай тэрыторыі беларускага народа ў X—XII стст., і ў XIII—XVI стст., і ў XVII—XVIII стст., і ў XIX ст., і ў XX ст., — гэта нашы людзі, нашы продкі, якія закладалі асновы і нашай дзяржаўнасці, і нашай матэрыяльнай і духоўнай культуры, і нашай нацыянальнай самасвядомасці. Людзі, якім мы павінны быць вечна ўдзячнымі і пра якіх мы абавязаны напісаць шмат добрых, вартых іх памяці, кніг.

Дзе і калі я скажу вам усё гэта, сябры мае?.."

*1980*

### Стаім у пярэднім пакоі

Аб тым, як мала мы перакладаем твораў мастацкай літаратуры з іншых моў на сваю родную, — пісалася і гаварылася ў нашым друку безліч разоў. Праўда, апошнім часам нейкі зрух адбыўся, — як гэта кажуць: вада і камень дзяўбе. Трохі да нечага дадзяўбліся: перакладных кніг прозы і паэзіі стала выходзіць больш. *Трохі* больш. Бо да тых маштабаў, якімі могуць пахваліцца сёння Эстонія, Арменія, Украіна, не кажучы пра Расію, Балгарыю, Польшчу, Славенію і г. д. — усё роўна яшчэ вельмі далёка.

Але я хачу тут сказаць пра іншае, што мяне засмучае не менш, чым малая колькасць перакладаў мастацкай літаратуры. Мяне надзвычай засмучае, што мы ніяк і ніколькі не перакладаем на беларускую мову замежныя творы па гісторыі і філасофіі, па эстэтыцы, па літаратуразнаўстве і літаратурнай крытыцы, творы эсэістычныя, публіцыстычныя, мастацка-дакументальныя і навукова-папулярныя. Усё тое, што перакладаюць з моў усяго свету і выдаюць і чытаюць на роднай мове тыя ж эстонцы, чэхі, славенцы, балгары або нашы зусім блізкія суседзі палякі. Чаму мы не асвойваем у роднай мове **гэту** літаратуру і, значыць, не развіваем належным чынам мову, фразеалогію, стылістыку **такой** літаратуры? Што — не дараслі? Даць на роднай мове чытачу вялікую літаратуру свету па філасофіі, па эстэтыцы, па гісторыі, па літаратуразнаўстве не можам?

Ну, тады, выбачайце, мы стаім яшчэ толькі ў пярэднім пакоі Вялікай Культуры. Калі хочаце далікатней — толькі ў прытворы Храма.

І як доўга будзем стаяць?

*1987*

### Усё яшчэ хацелася верыць...

Страшны архіўны дакумент апублікавалі ў "Звяздзе" (4.1.1996) вядомыя вучоныя-архівісты В. Селяменеў і Я. Бараноўскі. Страшны тым, што яшчэ раз, на прыватным выпадку, высвеціў, які жорсткі, які нялюдскі рэжым быў усталяваў у краіне бальшавікі, якая глухая, непрабіўная сцяна нянавісці аддзяляла іх ад таго, чым жылі, пра што клапаціліся найслынныя, найвялікшыя сыны Беларусі. Гаворка ідзе пра ліст Янкі Купалы, Якуба Коласа і Змітрака Бядулі да тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі, напісанага і пасланага яму восенню 1939 года — зусім неўзабаве пасля ўз'яднання Беларусі.

У лісце сваім тры жывыя класікі нацыянальнай літаратуры вельмі просяць кіраўніка рэспублікі вызваліць арыштаванага ў Маладзечне органамі НКВД Аляксандра Мікітавіча Уласава. (Іменна НКВД, а не НКУС, бо ні адна душа ва ўсёй Беларусі інакш гэту ўстанову не называла, усе трымцелі, трацілі спакой і самавалоданне, пачуўшы абрэвіятуру ЭНКАВЭДЭ). Хто такі А. М. Уласаў — сёння можна даведацца не толькі з энцыклапедычнай навуковай літаратуры, але і са школьных падручнікаў: адзін з арганізатараў і актыўных супрацоўнікаў газеты "Наша доля", а затым, на працягу сямі з гакам гадоў — рэдактар-выдавец знакамітай, сапраўды народнай беларускай газеты "Наша Ніва", імем якой названы цэлы перыяд у гісторыі нашага нацыянальнага адраджэння. Але мы, тагачасныя школьнікі ўсходняй, савецкай Беларусі, тады, у канцы 1939 года, гэтага імя не ведалі: як і дзесяткі іншых, яно было пад забаронай і нідзе ў друку не ўспаміналася. Дык дзіва што! Выдаваў буржуазна-нацыяналістычную газету "Наша Ніва", выхоўваў будучых "ворагаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, бальшавіцкай улады, Расіі". Затое вельмі добра гэтае імя ведалі "органы" — яшчэ да таго, як чырвонае войска рушыла вызваляць Заходнюю Беларусь. Яно ўжо даўно было ў іх спісках. 6-га кастрычніка, праз паўмесяца пасля ўз'яднання краіны, чаму так радаваўся Уласаў, яго "загрэблі". Яго — хто ўсё сваё жыццё ахвяраваў роднаму краю і народу, усе сілы паклаў на тое, каб будзіць і распальваць нацыянальна-патрыятычны дух у сэрцах братоў-беларусаў. Так, усё жыццё: у 1939-м яму ўжо было шэсцьдзесят пяць гадоў, ён ужо быў пажылы і не зусім здаровы.

Ах, як жа шчыра прасілі знакамітыя пісьменнікі галоўнага партыйнага боса рэспублікі! Як стараліся пераканаць яго, што А. М. Уласаў ні ў чым не вінаваты, што ён выдатны працаўнік на ніве беларускай культуры і мае перад ёю вялізныя заслугі! Дазволю сабе працытаваць некалькі радкоў з ліста Купалы, Коласа і Бядулі. "Мы хорошо знаем Власова, как человека, преданного трудовому народу, как культурного работника и собирателя разрозненной белорусской интеллигенции с тем, чтобы поставить ее на службу народу. Против русской культуры Власов никогда не относился отрицательно и в своей деятельности не ставил вопроса об отрыве белорусского народа от народа русского. В настоящее время Власов уже старик, и было бы несправедливо для него, если бы он на склоне своих лет не принял участия в строительстве новой, социалистической культуры народа, за которую он боролся и отдал много лет своей жизни".

Як паведамляюць аўтары публікацыі, на лісце ніякай рэзалюцыі Панамарэнкі няма. Так бы мовіць, і не падумаў уважыць просьбу трох знакамітых літаратараў (два — са званнем "народны" і ўсе трое — ардэнаносцы, што па тым часе многа значыла). Яшчэ чаго не хапала! Не для гэтага далучалі Заходнюю да Усходняй, каб тут нацыяналізм разводзіць! Вельмі заслужаны перад культурай, кажаце, перад збіраннем беларускай патрыятычнай інтэлігенцыі? Але ж менавіта за гэта і трэба помсціць і знішчаць такіх, як Уласаў! Каб не ўздумаў свае ідэі, свой досвед выкарыстаць для абуджэння і распальвання духу беларушчыны, выкараніць якую дарэшты — наша задача.

Пратрымаўшы Уласава трынаццаць месяцаў у Вілейскай турме, яго асудзілі як нацыяналіста — за любоў да Беларусі і вернасць ёй — на пяць гадоў нявoлі і выслалі ў глыб Расіі, дзе ён летам 1941-га памёр, паводле афіцыйнай даведкі, ад "паралiча сэрца".

А яны спадзяваліся — Купала, Колас, Бядуля. Нават пасля таго, што на іх вачах рабілася ў БССР з 1930-га па 1939-ы — пасля жахлівага татальнага выкарчавання нацыянальнай мастацкай і навуковай эліты, — яны ўсё яшчэ думалі, што іх імёны нешта значаць і да іх просьбы прыслухаюцца. Аўтарытэты ж якія! Самыя вялікія! Ім усё яшчэ хацелася верыць у законнасць, у справядлівасць, у чалавечнасць...

У законнасць звяругаў.
У справядлівасць вылюдкаў.
У чалавечнасць катаў.

А можа, і не верылі, і не спадзяваліся. А проста не маглі інакш. Не маглі існаваць далей, не праявіўшы хоць бы такую мужнасць.

Зрэшты, тады, у тых варунках, гэта была не такая ўжо і малая мужнасць.

*1996*

### "І паслухайце, што яны вам адкажуць"

У пачатку снежня 1961-га года ў Эстоніі адзначалася 100-годдзе "Калевіпоэга" — вялікай кнігі эстонскага нацыянальнага эпасу, роднай сястры карэла-фінскай "Калевалы". Ад Беларусі ўдзельнічаць у юбілейных урачыстасцях выпаў гонар мне. З Расіі былі Міхаіл Святлоў, Уладзімір Дзяржавін, Марк Максімаў. З Літвы — Ваціс Рэймерыс. З Туркменістана — Керым Курбаннепесаў, амаль мой равеснік, на два гады старэйшы. З туркменскім калегам і пасялілі мяне ў адным нумары гасцініцы.

Вечарам, калі мы ўжо добра разнаёміліся і засімпатызавалі адзін аднаму, Керым раптам спытаў: "Слухай, што гэта вы так узвышаеце свайго Янку Купалу? Па-мойму, вельмі слабы паэт. Я чытаў — там амаль ніякай паэзіі. Адна ідэалогія!.." Страшна ўражаны такім нечаканым выпадам супраць вялікага песняра Беларусі, я што называецца наліўся гневам і, наколькі мог спакойна, адпарыраваў: "Ну, ва ўсякім разе больш таленавіты, чым ваш Махтумкулі". Трэба было ў гэты момант убачыць Керыма, зірнуць на яго фізіяномію. "Што?! Што ты сказаў? — падхапіўся з-за стала Керым і ўставіўся ў мяне разлютаванымі чорнымі вачыма. — Я... я цябе зараз паб'ю! Ды ты... ды ты... — задыхаючыся крычаў мне Керым, — ды ты знаеш, што Махтумкулі — гэта самы вялікі паэт у свеце! Гэта ж Махтумкулі! Гэта вялікі Махтумкулі! Як ты можаш параўноўваць яго з Купалам? Я ж чытаў!"

Тады я і сказаў туркменскаму сябру: "Супакойся, Керым. Давай пагаворым без эмоцый. А то і сапраўды, не паспеўшы пасябраваць, ворагамі станем. Ты па якім выданні чытаў Купалу?" — "У мяне ёсць яго томік паэзіі, выдадзены ў Маскве, здаецца, у 1943 годзе..." — "Невялікага фармату, у чырвоным каленкоравым пераплёце?" — "Так, так, у чырвоным пераплёце, такі тоўсты томік". — "Ну вось цяпер мне ўсё зразумела, Керым, чаму ты так цэніш паэзію Купалы. Гэты зборнік, выдадзены ў ваеннай Маскве, пасля трагічнай смерці паэта, быў састаўлены з наспех і неахайна перакладзеных яго твораў, як наўмысна — адной тэмы: сацыяльна-класавай. Сапраўднага аблічча Купалы ў гэтым выданні не ўбачыш. Вось і ўсё. І наогул сапраўднага Купалы на рускай мове яшчэ няма. Нават ён і блізка не прадстаўлены ў сваёй рэальнай велічы рускамоўнаму чытачу..."

Курбаннепесаў выслухаў усё з увагай і з разуменнем, і канфлікт быў вычарпаны. Гадоў праз дваццаць ён стаў народным паэтам Туркменіі, узнавіў са мною сувязь, прысылаў свае кнігі з сяброўскімі дарчымі надпісамі. А я ўспомніў нядаўна гэты эпізод, пачуўшы ад аднаго інтэлігента ў "шчырай размове" спачувальна выказанае мне, беларусу, пярэчанне: "Рэч у тым, разумееце, што ў нас ёсць Пушкін. А ў вас — хто? Купала? Прабачце і не крыўдуйце, але ж гэта не Пушкін..." Так і сказаў, спачувальна ўсміхнуўшыся. І ў які раз за жыццё мне прыйшлося падзяліцца думкамі.

"Паслухайце, васпан! У вас Пушкін, а ў нас — Купала. А ў украінцаў — Шаўчэнка, а ў балгар — Боцеў, а ў венграў — Пецёфі, а ў славенцаў — Прашэрн, а ў туркменаў — Махтумкулі, і г. д., і г. д., і г. д. І паспрабуйце сказаць венграм, што Пушкін вышэй за Пецёфі. Паспрабуйце! І паслухайце, што яны вам на гэта адкажуць. Ці тыя ж балгары. Ці славенцы. Ці туркмены... Не ўзрадуецеся, пачуўшы. І гэта натуральна. І справядліва. Таму што кожны народ не толькі мае права, але і абавязаны сказаць: "У нас ёсць свой нацыянальны геній, і мы ні з кім яго параўноўваць не хочам і не будзем. Для нас ён вышэй за ўсіх, і даражэй за ўсіх, і радней за ўсіх. Бо іменна ён, а не Шэкспір, не Дантэ, не Гётэ, не Пушкін ці нехта іншы з вялікіх, выявіў душу і характар нашага народа, паказаў яго гістарычны лёс, увасобіў у несмяротных вобразах яго высакародныя рысы. Бо іменна ён прасвятліў, абудзіў і павёў за сабой народ — на барацьбу за свабоду і незалежнасць. Бо дзякуючы яму і такім, як ён, мы сталі тым, кім ёсць, — народам са сваім уласным абліччам. Бо калі б не ён — дык яшчэ невядома, ці была б наша краіна на свеце ўвогуле, ці прызнавалі б нас і паважалі, — ці толькі з гістарычных крыніц даведваліся, што некалі вось тут жыло адно племя, існавала народнасць, але, але..."

Керыма Курбаннепесава ў 1961 годзе я пераканаў у сваіх довадах лёгка. Гэтага ж суразмоўцу — у 1997-м — не. Па-мойму, ні трохі. Усё, што я пачуў нарэшце, — гэта: "Добра, давайце не будзем, а то яшчэ пасварымся..."

*1997*

### Дзве любімыя беларускія песні Андрэя Германава

Адзін з самых выдатных балгарскіх паэтаў другой палавіны XX-га стагоддзя Андрэй Германаў меў вялікі дар філолага-лінгвіста, быў надзелены ад прыроды надзвычай тонкім чуццём слова, фразы, інтанацыі, асабліва ў дачыненні да моў славянскіх, якімі ён амаль усімі валодаў. Мы пазнаёміліся з ім у канцы сакавіка 1963-га ў крыху незвычайных абставінах: у турыстычнай прагулцы па Віташы — невысокім горным масіве пабліз Сафіі. Было нас, са мною, чалавек сем — мае першыя балгарскія знаёмыя і сябры, новым сярод іх быў Андрэй. І менавіта ён, яшчэ па дарозе на Віташу, пачаў праяўляць настойлівую цікавасць да беларускай мовы, літаральна закідваў мяне пытаннямі, паўтараў уголас каларытныя беларускія словы, стараўся перадаць і беларускае вымаўленне, што яму давалася надзвычай лёгка. Нярэдка, вылучыўшы ў слове корань, усклікваў: "А-а-а, дык і ў нас у радопскім дыялекце ёсць падобнае!". Або: "Дык гэта ж і па-польску амаль аднолькава!" Ці: "Гэты корань і ў сербскай ёсць!.." Прабылі мы на Віташы цэлы дзень (ракійку і закуску на падмацунак бралі з сабой) — і цэлы дзень Андрэй так і не адступіўся ад мяне, нават трохі на крыўду іншым, і ўсё пытаўся пра Беларусь, пра гісторыю нашай краіны, пра этнічныя асаблівасці беларускага народа і яго адрозненні ад украінскага і рускага.

Пазней Германаў неаднойчы прыязджаў у Беларусь, бываў у нашым каралішчавіцкім Доме творчасці, дзе напісаў цудоўны верш "Беларускі снег", пазнаёміўся і пасябраваў з многімі беларускімі паэтамі. Ездзілі мы з ім і Найдзенам Вылчавым на Гомельшчыну, у Чачэрск, дзе наведалі магілу адважнай балгаркі-партызанкі Ліліі Карастаянавай. Там упершыню я ўбачыў, як ён цяжка пакутуе ад высокага крывянога ціску.

Падчас аднаго з яго гасцяванняў у Мінску мы былі разам на вялікім канцэрце, дзе ў выкананні розных харавых калектываў гучалі беларускія народныя песні. Помню, як уважліва ён слухаў знакаміты шэдэўр нашай фальклорнай класікі "Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець?". Калі ўлягліся воплескі — ціха, з відочным неўразуменнем на твары, спытаў у мяне: "Прабач, чаму гэту песню аб'явілі як жартоўную? І чаму спявалі з усмешкай? І ў зале смяяліся..." — "Дык яна, кажу, ідзе ў нас па разраду жартоўных, як гумарыстычная..." — "Якая ж яна жартоўная?! — яшчэ больш здзівіўся Андрэй. — Гэта ж вельмі трагічная песня! Якая страшная трагедыя народа адлюстравана ў ёй! Ды і мелодыя зусім не вясёлая, не забаўная, а горкая, балючая..." Нейкі час ён глядзеў мне ў вочы і паўтараў: "Не разумею, не разумею... Нешта вы, беларусы, тут наблыталі..." — "Мусіць, ты праўду кажаш, — заківаў я яму ў адказ, — можа, і наблыталі. Тым больш, калі пераблытана ўсё жыццё наша. І ўся гісторыя. Што сама, а што іншыя памаглі..."

На тым жа канцэрце ён пачуў яшчэ адну песню, якая таксама стала яго любімай:

***Іванька малодзенькі ідзе зажурыўшыся.***
***Ой лі, люлі, ой лі, ой люлі,***
***ідзе зажурыўшыся.***
***Чаго зажурыўся ты, чаго замаркоціўся?..***

Андрэй прыйшоў ад гэтага "Іванькі" ў захапленне — перастаў пляскаць у далоні апошні. "Ты яе ведаеш? І мелодыю і тэкст? Абавязкова запішаш мне тэкст! Мелодыю я, здаецца, запомніў", — сказаў Андрэй і пачаў ціхенька гудзець сабе пад нос матыў "Іванькі". Калі вярнуліся ў гасцініцу, я перапісаў яму тэкст і "Іванькі" і "Чаму ж мне не пець", і мы колькі разоў узапар праспявалі іх. "Якія песні! Якія цудоўныя песні! — усё не мог супакоіцца сябра. — Слухай, вы, беларусы, страшна таленавіты народ! Такімі песнямі можна пакарыць свет!.."

*(Працяг на стар. 15)*

## "Ігуменскі блакнот"




**Не засталіся незаўважанымі чытачамі і крытыкамі зборнікі гісторыка-краязнаўчых нарысаў Алеся Карлюкевіча "За Цітаўкаю — Слабада", "Літаратурная карта Пухаўшчыны", "Далёкія і блізкія суродзічы". Адметнасць гэтых выданняў не толькі ў тым, што аўтар пільна прыглядаецца да падзей мінуўшчыны, да воблікаў тых, хто ўнёс важкі ўклад у агульнанацыянальны набытак, а цяпер часта, на жаль, незаслужана забыты. Перадусім у А. Карлюкевіча інтарэс да даўніх падзей, так сказаць, канкрэтызаваны. У першую чаргу яго цікавіць тое, што адбывалася ў розны час на роднай яму Пухаўшчыне. Гэта не праяўленне "мясцовага патрыятызму", як каму-небудзь можа падацца, а ўсвядомленая перакананасць (і з гэтым нельга не пагадзіцца), што калі кожны з нас зробіць як мага больш для таго, каб не заставалася "белых плям" на карце тых мясцін, адкуль ты родам, будзе іх менш і на карце ўсёй Беларусі. У гэтым сэнсе асаблівую вартасць набывае новая кніга А. Карлюкевіча "Ігуменскі блакнот", выпушчаная "Беларускім кнігазборам". Гаворка ў ёй ідзе пра падзеі, што адбываліся на тэрыторыі колішняга Ігуменскага павета, пра людзей, якія нарадзіліся там, ці звязалі свой лёс з гэтым кутком, альбо наведваліся туды. У цяперашнім адміністрацыйным падзеле — гэта тэрыторыя Пухавіцкага, Чэрвеньскага, Бярэзінскага і Асіповіцкага раёнаў. Жанр матэрыялаў А. Карлюкевіч вызначыў як краязнаўчыя замалёўкі. І сапраўды — яны надзіва лаканічныя, але гэта не на шкоду насычанасці фактамі. Больш таго, А. Карлюкевіч не проста расказвае пра цікавыя лёсы, а ў многіх выпадках выступае першаадкрывальнікам, знаёмячы з тымі, пра каго мы не ведаем ці ведаем мала, але гэтыя людзі вартыя ўдзячнай памяці. Дарэчы, першы раздзел і скіраваны на тое, каб можна было даведацца як мага больш пра тых, хто пакінуў пасля сябе добрыя справы, адсюль і назва "Штрыхі да партрэтаў". Вельмі насычаным на значныя факты атрымаўся артыкул "Праз лёс адраджэнца", у якім асэнсоўваюцца традыцыі Аляксандра Ельскага ў пухавіцкім краязнаўстве. Праўда, з-за сваёй сціпласці аўтар ставіцца да прыведзеных фактаў толькі як да "кароткага агляду работы, здабыткаў краязнаўцаў, які носіць самы агульны характар". Агляд і сапраўды — кароткі, але ён — падказка і іншым зацікаўленым асобам, у якім накірунку весці свае пошукі, каб лепш і глыбей асэнсаваць значнасць мацерыка, які называецца пухавіцкім краязнаўствам. А што ў А. Карлюкевіча, пазнаёміўшыся з кніжкай "Ігуменскі блакнот", знойдуцца паслядоўнікі, сумнявацца не даводзіцца. Каторы матэрыял ні возьмеш, абавязкова ўзнікае жаданне больш даведацца пра тое, пра што паведамляе аўтар. Настолькі А. Карлюкевіч умее ўзрушыць, нагадаць: не забывайцеся, што мы жывём на зямлі, на якой, куды ні ступіш, абавязкова, пры жаданні, адкрыеш для сябе нешта вартае ўвагі. І напаткаеш лёсы, судакрананне з якімі ўзбагаціць цябе духоўна. У гэтым лішні раз упэўніваешся, калі чытаеш такія краязнаўчыя замалёўкі (будзем прытрымлівацца аўтарскага вызначэння жанру), як "Бацька блоньскага рэвалюцыянера", "Яшчэ адна блоньская загадка", "Любоў Белкіна — паэтэса з мястэчка Пухавічы", "Ёсць такія Пясковічы"... Другі раздзел — "Сцежкамі Ігуменшчыны" — у чымсьці яшчэ больш прыцягальны, бо абсягі гаворкі А. Карлюкевіча пашыраюцца. І зноў жа ён паўстае першаадкрывальнікам: "Хто ў Ігумене ў XIX стагоддзі гандлем правіў?..", "Гаспадары на чыгунцы: пухавіцкі адрэзак", "Фрагменты паштовай гісторыі". Але, хоць дарагая яму ўся колішняя Ігуменшчына, родная Пухаўшчына ўсё ж бліжэй, таму і застаецца А. Карлюкевіч паслядоўным летапісцам яе: "З гісторыі цэркваў Пухаўшчыны", "Знаёмцеся, жыхары Зацітавай Слабады. Год 1779-ы" (з гэтай вёскі аўтар "Ігуменскага блакнота" родам), "Паблісквае на сонцы Балачанка".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# "І постаць светлая радзімы..."

Паэзія В. Коўтун прасякнута невымерным пачуццём любові да роднага краю. І любоў гэтая мяжуе з пачуццём трывогі за лёс радзімы і ўсёй планеты, якая з'яўляецца адным жывым арганізмам. "Пра што б ні пісала яна, яе ні на хвіліну не пакідае шчырая трывога за лёс чалавека, Радзімы, планеты. Такія інтанацыі можна знайсці нават у тых вершах, якія на першы погляд здаюцца наскрозь лірычнымі..." — пісаў В. Кіеня ў артыкуле "За всех как за себя". Радзіма для лірычнай гераіні В. Коўтун перш за ўсё казачны свет маленства з ранішнімі туманамі, з пеўнямі, якія "гімны дню спяваюць", мурашкамі "першых промняў на падваконні, з даматканымі ручнікамі, са светлай "як лён" хатай, "з буслíхай белай над калыскай", калодзежным цыбатым жураўлём і гнёздамі "пад самым сэрцам хаты", а таксама кроснамі, што выткалі жыццё, лёс, у якім, акрамя сонца і блакіту, ёсць звітая з палын-травы чорная нітка.

*І напаследак, напаследак —*
*Тугая нітка сівізны...*

Ужо свет маленства высвечвае колеры сонца, блакіту, туману, палын-травы і сівізны, якія стануць асноўнымі колерамі паэзіі В. Коўтун.

Маленства лірычнай гераіні напрамую сутыкаецца з казкай, якую, разам з лекавымі зёлкамі, прыносіць у сваім гарбе старэнькая бабуля ("Казачніца"), і якой упрыгожвае жыццё дзяцей, выхоўвае іх, даючы першыя ўрокі дабра і зла.

*Мы ў свет выходзілі, нібы асілкі,*
*з казкі,*
*не баяліся, што ў казачніцы горб.*

Неад'емнай часткай дзяцінства была і "жанчын стамлёных песня", што "ішла ў сяло праз вечары". І гэтая песня ўвабрала ў сябе ўвесь вопыт папярэдніх пакаленняў, іх мудрасць, боль і радасць, яна прымушала плакаць і смяяцца, суперажываючы лёсам людзей, пра якіх расказвала. Песня выхоўвала будучых Бетховенаў і Растрэлі ў "галодных" і "цесных" сёлах, каб у "светлы шлях сяло пайшло!"

Выказваючы сваю любоў да роднага краю, нельга не захапіцца прыгажосцю яго краявідаў, яго адметнасці. Але ў вершах В. Коўтун няма пейзажных замалёвак, насычаных фарбамі, канкрэтнымі малюнкамі і вобразамі. У яе вершах прысутнічаюць асобныя мазкі, дэталі, якія пераплятаюцца з рэфлексіямі лірычнай гераіні. І выбар фарбаў у паэтэсы абмежаваны. Яна карыстаецца белым, сінім, сівым, рэдка зялёным колерамі, час ад часу паэтка звяртаецца да чырвонага ці барвовага. Нават такія, зыходзячы з назвы, "пейзажныя" вершы, як "Лета", "Арабіны", "Восеньскі матыў", "Вясенняя мелодыя", прымушаюць чытача задумацца над хуткаплыннасцю жыцця, яго сэнсам, паразважаць над праблемамі экалогіі ("Цябе, рачулка, пэўна выпрамлялі, І выпрамлялі не адну цябе"), і толькі потым падаецца (быццам выхаплены) адзін істотны штрых лета, рэалістычны і рамантычны адначасова:

*І касары, вясковыя Гамеры,*
*Стагуюць песні*
*ў спелы сенакос.*

У вершы "Арабіны" аўтарка застаецца вернай сабе. Яна выдзеліла каларытную дэталь восені — "прабіта восень градам арабін", дадала яшчэ некалькі штрыхоў: "пожню раніц", "жураўліны клін" і гэтая пейзажная замалёўка стала фонам для разваг пра свечку "ўсіх надзей і безнадзей" лірычнай гераіні, пра лёс вёскі, якую пакідаюць унукі і ў якой памірае адзінокая бабуля. (Дарэчы, да лёсу занядбанай, пакінутай вёскі паэтэса звернецца яшчэ не раз і назаве сваіх равесніц падчарыцамі сяла.)

Ёсць у В. Коўтун і сваё бачанне вайны. Выкрываючы яе як жорсткую, абсурдную, антычалавечую з'яву, паэтка ні на хвіліну не забывае пра людзей і зямлю, што вынеслі цяжар вайны на сваіх плячах. Ствараючы вобраз вайны, В. Коўтун звяртаецца да вершаў-балад, што з'яўляецца традыцыйным для нядаўняй савецкай паэзіі. Зварот да балады, магчыма, абумоўлены яшчэ і тым, што аўтарка сама даследавала баладу, і ведае яе асаблівасці. Арганічнае паяднанне элементаў эпасу, лірыкі і драмы ў баладзе прыводзіць да ўшчыльнення сюжэта, дынамізму, фрагментарнасці. Зварот да балады абумоўлівае зварот да рамантычных сродкаў вобразнасці. "У чалавека, які знаходзіцца на мяжы жыцця і смерці, рэальнае і ўмоўнае часта судакранаюцца, зрушваюцца, мяняюцца месцамі" (Т. Чабан). І вось такі малюнак "зрушанай" рэальнасці паўстае перад хлопчыкам, які перажыў трагедыю спаленай вёскі (балада "Сонца"). Ён бачыць загінуўшую маці, якая "ў чорнай хустцы з хаты пайшла па прысаку, пайшла..." Боль, трагізм светаадчування хлопчыка сімвалізуе незвычайны вобраз спаленага сонца. Мелодыя вальса "Асенні сон" стала той ніццю, што звязала мірны час з вайною і нагадала нашчадкам пра смерць трубача, які музыкай падтрымліваў байцоў у змаганні з ворагам, уносячы такім чынам свой уклад у перамогу ("Балада пра "Асенні сон"). І смерць яго — быццам прыгожы, рамантычны сон:

*Не пальцы нібыта ў знямозе,*
*Не рукі нібыта ў крыві,*
*А поўня лісцяў на дарозе*
*Ці ў лесе кіпень журавін.*

А мелодыя, развітаўшыся з музыкам, "услед за жураўлямі" прыляцела "на мірны сённяшні парад", каб яшчэ раз нагадаць свету пра трагедыю.

Казачна-рамантычныя вобразы Івана ды Мар'і, Смерці малюе аўтарка ў вершы "Балада франтавога медаля", да не казачным трагізмам напоўнены ён. Жудаснае рэха вайны гучыць і пасля яе, патрабуючы новых ахвяр. Сюжэт балады апавядае пра доўгі і геройскі (аб чым сведчыць медаль) шлях Івана да Мар'і праз вайну ("адолеў доўгі шлях"). Спадарожніцай Івана была Смерць, што ўвесь час ішла за ім следам і крычала: "Усё роўна даганю!" Скончылася вайна і, здаецца, усё павінна закончыцца па-казачнаму шчасліва. Мар'я з сынам дачакаліся свайго вызваліцеля і карміцельца. Але Смерць страшная і падступная. Яна пераўвасабляецца ў міну і даганяе Іванавага сына, забіваючы адначасова і душы яго бацькоў:

*...Вясною так нязвычна*
*Ударыў гром вайны*
*На ўзгорку ідылічным,*
*На міне ля сасны.*
*Дагнала смерць-нябога:*
*Плаці, раз бацькаў сын,*
*За мір і перамогу,*
*За той медаль адзін!*

Але верш заканчваецца жыццесцвярджальна: застаецца памяць аб хлопчыку ("Сын Мар'ін ды Іванаў Усё жыццё бяжыць"), нагадваючы нашчадкам пра "боль акопных ранаў і дымныя крыжы". А лепшым помнікам яму з'яўляецца мір на планеце.

І ўжо зусім незвычайна, натхнёна, рамантычна гучыць "Балада белай лілеі", у якой зніітаваны гісторыя Францыі, спаленая Хатынь, атамная пагроза. Вобраз Жанны Д'Арк — белай лілеі — сімвал няскоранасці, гераічнасці, вернасці народу і народа сваім героям.

Малюючы вайну, В. Коўтун застаецца вернай асноўным колерам сваёй паэзіі: беламу, сіняму, зялёнаму (белы сад, конь, бяроза, аблокі; сіні верас, вачэй васількі; дол зялёны, руні зелянявы клін), толькі ўсё часцей у палітру паэтэсы ўліваецца крывавы і барвовы (крывавая зямля, акопы, барвовы выбух, агнём абліты сцяг), якія разбаўляюць шэры, сівы і як іх разнавіднасць — дымны (дымныя крыжы, літары; пасівелыя вёскі, сівыя бярозы, зямля, баліць сівізной галава; шэры ліст, дзень, боль, неба, ранак), ды чарнеюць у вершах коміны, агні і вішні. А на гэтым фоне, як цуд, успрымаецца вішнёвая вясна з серабрыстым жаўранкам. Колеры выступаюць як эпітэты, зрэдку паэтка выкарыстоўвае іх як параўнанні ("ранак шэрым паўзе ваўком").

Вечная, невычэрпная тэма кахання, зразумела, не змагла не аздобіць паэзію В. Коўтун. Лірычная гераіня вершаў разнапланавая як па экспрэсіўнасці пачуцця, так і па яго праяўленні. Пачуццё ў асобных вершах дасягае такога напалу, што, чытаючы, міжволі хочацца аддыхацца, перавесці дух. Няма ў вершах канкрэтных, яркіх вобразаў каханага і каханай, у іх прысутнічае адзіны вобраз — само каханне ва ўсіх яго праяўленнях. Лірычная гераіня не ставіць за мэту спасці-

*Паэтычная творчасць В. Коўтун прадстаўлена зборнікамі "Каляровыя вёслы" (1977 г.), "На ўзлёце дня" (1977 г.), "На зломе маланкі" (1981 г.), "Метраном" (1985 г.), "Лісты да цябе" (1988 г.).*

# На якой мове ствараюцца шэдэўры, або Як "Тэрмапілы" аспрэчылі "Літэкспрэс"

Англійскі паэт, які наведаў сёлетнім ліпенем з так званым Літэкспрэсам "Еўропа—2000" нашу Беларусь, шчыра здзіўляўся не столькі з нашай моўнай сітуацыі наогул і нашых літаратурна-моўных праблем у прыватнасці, колькі з таго, чаму яны, гэтыя праблемы, маюць такое вялікае значэнне для пісьменнікаў. "Моўныя праблемы — гэта толькі праблемы моўныя, але калі ты сапраўдны творца, то што перашкаджае табе ствараць шэдэўры на сваёй роднай мове, нават у варунках яе заняпаду?" — пытаўся ён. І даволі катэгарычна сцвярджаў: "А калі цябе не чытаюць па-беларуску, то пішы на рускай мове".

Што тут скажаш?! Сапраўды, комплекс праблем і чыннікаў выяўленчага плана, з якімі сутыкаўся (і сутыкаецца сёння) беларускі пісьменнік, мала зразумелы, відаць, прадстаўнікам цывілізаваных народаў, тым, што не перажылі, а калі перажылі, то паспелі забыцца на часы каланізацыі. Беларусаў, і праўда, могуць зразумець толькі тыя, хто мусіў на працягу стагоддзяў змагацца за сваю самастойнасць, за сваё этнічнае выжыванне.

Духоўны вопыт гэтых народаў, адлюстраваны ў мастацкай літаратуры, сведчыць адно: пакуль застаецца нявырашанай праблема нацыянальнае вольнасці і этнічнай тоеснасці, датуль пісьменнік, хоча таго ці не, з'яўляецца вязнем гэтай праблемы, закладнікам і нявольнікам адной-адзінай думкі пра далейшы лёс свайго краю і свайго народа. Згадаем тут купалаўскую "Бацькаўшчыну":

*Грудзьмі тулюсь к ёй,*
*як да матчыных грудзей.*
*І калі здзекуецца нада мною хтосьці —*
*Над Бацькаўшчынай здзекваецца*
*ён маей,*
*Калі ж над ёй —*
*мяне тым крыўдзіць найцяжэй.*

А лёс Бацькаўшчыны, пэўна ж, — і аб'ектыўна і, трэба думаць, паводле ўсведамлення творцы, — непарыўна звязаны з лёсам роднай мовы. Нездарма ж наступ на этнічную тоеснасць заўсёды, як паказвае адпаведны гістарычны досвед, пачынаецца найперш з наступу на мову. І раз так, то праблема лінгвістычная перарастае тут пэўным чынам у праблему палітычную.

Выходзіць, зусім не так проста, як гэта здалося нашаму заходняму літэкспрэсаўскаму госцю, пэўны пісьменнік у пэўнай сацыяльнай сітуацыі можа вырашыць праблему, на якой мове яму лепш пісаць, на якой мове ствараць свае шэдэўры. Зусім не проста, і зусім не вольны ён тут у сваім выбары. Выбар гэты ў дадзеным выпадку яўна дэтэрмінаваны — не без карысці для творцы.

Пра што, да прыкладу, красамоўна сведчыць вопыт творчага развіцця ранняга Янкі Купалы, яго шлях да беларускасці ад польскамоўнага верша "Bialorusin" да беларускага шэдэўра "А хто там ідзе?" Аналізуючы гэты шлях, прыходзіш да высновы: належныя натуральнасць, арганічнасць і свабода ў самавыяўленні, у выяўленні запаветных пачуццяў і думак робяцца для паэта мажлівымі толькі ў слоўнай абалонцы роднай мовы.

Атрымалася так, што амаль адначасова з Літэкспрэсам "Еўропа—2000" у Мінск прыйшоў з Беластока і чарговы, трэці па ліку, нумар літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы" (заснавальнік і рэдактар Ян Чыквін). І вось, знаёмячыся з нумарам, з самымі рознымі ў тэматычных і жанравых адносінах яго матэрыяламі, нельга было не звярнуць увагу на тое, што тут таксама ледзь ні лейтматывам праходзіць гэтая самая "моўная праблема". Паўстае раз-пораз у той альбо іншай сувязі, у тым альбо іншым кантэксце.

Беластоцкі паэт Уладзімір Гайдук, нізкай твораў якога адкрываецца нумар, у вершы "Ціхае — юбілейнае" прызнаецца, што "з пацерак слоў думкі складае" і што вершы яму сняцца са "спевам ранняга пеўня". Цікавае сведчанне адносна так званай псіхалогіі творчасці знаходзім і ў "Лірычных запісах" Янкі Брыля. Тут ужо непасрэдна закранаецца тэма полілінгвізму і даецца, па сутнасці, адказ на пытанне, ці з'яўляюцца моўныя праблемы толькі моўнымі праблемамі.



ЧАСАПІС

## "Сто хрустальных родничков"



"Любіць прыроду — любіць Радзіму" — гэтае выслоўе згадваеш, калі знаёмішся з кнігай Хведара Гурыновіча "Сто хрустальных родничков", выпушчанай выдавецтвам "Юнацтва". Аўтар яе — вядомы беларускі "дарослы" і дзіцячы паэт — гэтым разам выступае ў крыху іншай творчай іпастасі, бо кніга складаецца і з вершаў, і з апавяданняў. Апошнія маюць дакументальную аснову і дапаўняюць паэтычныя творы. І першыя, і другія — цікавая, захопленая гаворка аб прыродзе. Х. Гурыновіч знаёміць з жывёльным і раслінным светам Беларусі. Пры гэтым ідзе ад уласных назіранняў, бо з'яўляецца вялікім аматарам і знаўцам красы роднага краю. Любіць пахадзіць з паляўнічай стрэльбай, пасядзець на беразе ракі з вудай — ды мала які занятак можна знайсці, калі душа прагне яднання з навакольным хараством.

Творы пададзены ў алфавітным парадку, таму атрымалася і свайго роду паэтычна-празаічная энцыклапедыя. Пачынаецца яна назвай "Аисты". Зразумела, гаворка пра добра вядомых кожнаму вясковаму хлопчыку ці дзяўчынцы буслоў. А калі сярод гарадскіх дзяцей ёсць такія, хто не чуў пра іх, Х. Гурыновіч ахвотна прыходзіць на дапамогу:

*Зарос в деревне старый пруд*
*Осокой и травой.*
*Тут летом аисты живут*
*На липе вековой.*

*С утра летят на росный луг,*
*И клювами трещат.*
*Подняться в небо учат двух*
*Трусишек аистят.*

Празаічная частка матэрыялу пазнавальная: "Вот что интересно. Если у маленького певца-соловья мощный голос, то большие аисты совсем безголосы. Они общаются друг с другом, треща клювами. Закинет аист голову назад и трещит, зовет подругу". А яшчэ Х. Гурыновіч расказвае аб тым, што, "если белый аист выбирает в соседи людей, то его черный брат прячется от человеческого ока. Говорят, черный он потому, что давным-давно, когда враги жгли деревни, обгорели у белых аистов крылья. С той поры они стали черными, и не доверяют людям. Потому и живут в темных лесах, где редко бывает человек". Героямі кнігі Х. Гурыновіча з'яўляюцца таксама вавёрка, зязюля курапатка, ластаўка, лось, мураўі, чапля, шчупак... Расказвае ён пра вецер і град, пра дождж і іней, пра снег і туман... Усе гэта, безумоўна, пашырае кругагляд дзяцей. Знайшлося ў кніжцы месца і гаворцы пра фауну і флору:

*Аист, окунь, волк, жучок,*
*Мышка, жаба, зайчик,*
*Черепаха, паучок —*
*Фауна, мой мальчик.*

*Ну а лес, полянка, луг,*
*Речка в бликах лунных —*
*Это Флора, помни, друг,*
*Мой приятель юный.*

*И за мною повтори*
*Две строки, в которых*
*Неразлучны две сестры —*
*Фауна и Флора.*

Знаёміць Х. Гурыновіч і з экалогіяй, тлумачачы, што "это наука об отношении живых организмов с окружающей средой. И когда мы говорим, что экология в нашей стране ухудшилась — это значит, что от ядохимикатов погибли птицы в поле, в результате выброса в атмосферу вредных веществ из заводских труб засохли растения, а из-за попадания в речку стоков химической фабрики задыхается рыба". Кніга не толькі з цікавасцю чытаецца, а і прыемна глядзіцца — пастараўся мастак У. Малахаў. А ў тым, што з'явілася такое патрэбнае дзецям выданне, заслуга не толькі "Юнацтва", а і прэзідэнта фірмы "Дзіяна" М. Гарбацэвіча, дырэктара фірмы "Арві" В. Кучынскаса, прадстаўніка гэтай фірмы Н. Парфёнавай, якім Х. Гурыновіч і выказвае падзяку.

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Алесь ПІСАРЫК



# Носіць доля жарыны...

## *Зорная малітва*

ТРЫПЦІХ

I

*Сцеражы мяне, Божа, ад зла*
*Бласлаўлёнаю мамай бажніцаю,*
*Каб маланка не апякла*
*Нагаворнаю навальніцаю.*

*Каб з прынёманскіх рукавоў*
*Чуўся смех малады лукавінамі,*
*Мне па сэрцу вітаць жаравоў*
*Васільковымі лугавінамі...*

*Сцеражы нас, Гасподзь, ад сноў*
*З берагоў пасівелай Прыпяці,*
*Не дазволь анікому зноў*
*Крыж заступніцтва нашага выкрасці.*

II

*Беларусь,*
*Будзі ў нашчадках веру,*
*Сэрцы іх спагадай асвяці,*
*Каб у кожным слове зналі меру*
*І прыйшлі да Бога пры жыцці.*

*Каб жылі — чужога не прасілі.*
*Мова маці — мова дабрыні.*
*Божа, нагадай аб Еўфрасінні,*
*Годнасць пуцяводную вярні!*

III

*Беларусь пачула б гнеў Рагнеды —*
*Закіпела б слёзамі душа!*
*Чэлядзі і ў шчасці сняцца беды,*
*Чужаніцай — княжая мяжа...*

*Краю лёс княжны накананаваны?*
*Не ўтапілі маці ў слёзах зла?*
*Палачанка выстагнала раны,*
*Меч — багіня Волі! — узняла.*

●

*Пярун ляскоча ў сухім бары,*
*А не расплюшчаць вачэй крыніцы.*
*Вятры аслеплі, як гусляры,*
*Не чуюць жалю сасён званіцы.*

*З душой наросхрыст гудзе народ:*
*Людзьмі ўсе звацца па праву сталі!*
*Адкуль мы выйшлі і дзе наш род,*
*Аднак мы самі ў сябе спыталі.*

*Сабор сумлення без святара.*
*Пярун ляскоча з-пад аблачыны.*
*Паходняй волі гарыць зара*
*Над курганамі маёй Айчыны.*

●

*Маланкі сярпы пагублялі на ніве.*
*Аблокі растрэслі чарнявыя коскі.*
*Пшанічныя вусы падкручвае жнівень:*
*Нарэшце — дажынкі,*
*Нарэшце — дакоскі!*

*Капа напусціла намітку на вочы.*
*Касец малады, ад маланкі ўцякай жа!*
*Намітку залева да ніткі прамочыць,*
*Валошкам блакітныя хусткі падвяжа.*

*Паклікалі жнейкі і жнівень да гурту,*
*Капа распанела ад смеху і жартаў:*
*Абколецца жнівень аб дзікую руту,*
*Якую крадком за каленца пакратаў!*

*Чароўная чарка на пальчыках скача.*
*У шчоках жаночых амурная чырвань.*
*Сялянская доля смяецца і плача,*
*Смяецца і плача залеваю шчырай.*

## *Залессе*

*Азёрная туга люляе лес,*
*Выходзіць з цемры месячык з лучынай.*
*Крануў струну душы ўсівелы бэз.*
*І гэта — развітальны паланез*
*Агінскага з агоранай Айчынай.*

*Зямля віжам вылечвала гарбы.*
*Тут валуны кароны не прасілі,*
*Аседлыя, але пры княжай сіле.*
*Ніхто не скажа, што яны — рабы,*
*Бо кайданоў ніколі не насілі!*

*Адамаў цень. І голас Кастуся.*
*Сплываюцца вякі ў надрыўным гудзе.*
*Калі б не боль — жамчужная краса*
*Гучала б у застольных галасах...*
*І будзе так!*
*Шкада, што нас не будзе.*

●

*Слова крэпла, дыханне займала.*
*Нагадала пра сілу зямля.*
*"Не дабра — дабрыні ў свеце мала!" —*
*Павучала матуля мая.*

*Доля — доляй!*
*Душа б не драмала!*
*З Божай ласкай да іншых жыві!*
*Жорсткі век, усяго яму мала:*
*Слёз і гора, агню і крыві.*

## *Дзве страфы*

*Носіць доля жарыны ў падоле?*
*Лёс, як ветразь, на сямі вятрах?*
*Каб не стаць рабом — пераадолей*
*Рабскі страх!*

*З вякоў прыходзяць прадзеды —*
*Бажніцы ў сне дрыжаць:*
*Крыж Еўфрасінні скрадзены,*
*Радзіма без крыжа?*

●

*З торбай зрэбнаю ды з сярмягаю*
*Правіў Вільняю, правіў Прагаю,*
*Замаўляў мячом за Масковіяй,*
*А зазнаць каму долі ўдовінай?*

*Беларус упаў гордым сокалам,*
*І крыжы, крыжы — скрозь, навокала.*
*Сталі дзетухны разбягаціся,*
*З мовы матчынай насміхаціся.*

*Вільня з полацкай, бач, Пагоняю,*
*Пачуваецца паннай вольнаю.*
*Грунвальд помстаю ў сэрца цэліцца,*
*Бел-чырвоны жар ледзьве цепліцца...*

## *Паводка*

*Вербы ўсплылі з карэннямі,*
*Крыж спачувае бядзе.*
*Вёсачкі закарэлыя*
*Плёскаюцца ў вадзе.*

*Жаўранак з неба падае —*
*Неба зілося ў вачах!*
*Дзе берагі? — разгадвае*
*Рэчанька па начах.*

*Хвалі ў далоні просяцца,*
*Вецер на крыгах аглох.*
*Чоўны без рыбы посцяцца —*
*Рыба сплывае ў лог.*

*Бога згадала раніца,*
*Заломвае рукі царква,*
*Плынь на майдан падбіраецца*
*З пушчанскага рукава...*

●

*Хада падзей. Вякоў хада.*
*І толькі вецер студзіць памяць.*
*Ці вам нічога не шкада?*
*Душу душа крывёю пляміць.*

*Ад болю скурчыўся лісток,*
*Душу знямоглую хавае,*
*Бо нейкі блудны сыч пад бок*
*Бярозку, як дзяўчо, штурхае.*

*Нямігі боль і дрэўца боль...*
*Але пакуль гняце сумленне,*
*Трымаюць наша пакаленне*
*Надзея, Вера і Любоў!*

## *Дома*

*Атаву да ночы звозім.*
*Месяц на возе не месціцца.*
*Просіць прадыху восень.*
*У Бога спагады просім.*
*Аблокі ў весніцах.*

*На сон забывае будзень.*
*Слота пад вокнамі сцелецца.*
*Выстыла неба — будзе*
*Чырванашчокім студзень.*
*Снежнай — аселіца.*

*Туманы сарочкі белыя*
*Сушаць на плотчыку,*
*Ноччу, як хлопцы смелыя,*
*Мацаюць пераспелыя*
*Грушы ў гародчыку...*

*Цягнуцца хмары воламі,*
*Сум следам сцелецца.*
*Як яно будзе на золаку?*
*Бог пазяхае на воблаку —*
*Блізка мяцеліца.*



*У паходзе...*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

ВІНШУЕМ!

# Паяднаны з роднай зямлёй

## Міколу АРОЧКУ — 70

***Сярод тых, хто ў розны час працаваў у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", і Мікола Арочка. Праўда, працягвалася гэта нядоўга, але ўсведамляць сваім калегам такога слыннага пісьменніка — для лімаўцаў гонар. А нарадзіўся Мікалай Мікалаевіч 10 снежня 1930 года ў вёсцы Вецявічы цяперашняга Слонімскага раёна. Пасля заканчэння Азярніцкай сярэдняй школы паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, працаваў у часопісе "Сельская гаспадарка Беларусі", у газеце "Літаратура і мастацтва". У 1966 годзе скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, пасля чаго звязаў лёс з гэтай навукова-даследчай установай. Пазней абараніў доктарскую дысертацыю. Цяпер жыве ў роднай вёсцы — не на словах, а на справе засведчыўшы любоў да роднай зямлі, аб чым шмат пісаў у сваіх паэтычных творах.***

***Як паэт М. Арочка дэбютаваў у 1949 годзе на старонках тагачаснай баранавіцкай абласной газеты "Чырвоная звязда". Выдаў кнігі "Не ўсе лугі пакошаны", "Ветраломная паласа", "Крылатае семя", "Кветкі бяссмертніка", "Матчына жыта", "Колас на ржышчы", "Бяздонне", "Падземныя замкі"... Асобнымі кніжкамі выйшлі драматычныя паэмы "Кургане. Крэва", "Судны дзень Скарыны". Мікалай Мікалаевіч з'яўляецца аўтарам зборніка вершаў для дзяцей "У птушынай вёсцы" і аповесці "Хай расце маладая таполя". Добра зарэкамендаваў сябе і як крытык, літаратуразнавец, даследчык літаратуры: кнігі "Валянцін Таўлай", "Галоўная служба паэзіі", "Беларуская савецкая паэма", "Саюз часу і майстэрства", "Максім Танк. Жыццё ў Паэзіі", "Паэзія і вайна" (на рускай мове). З'яўляецца адным з аўтараў "Истории белорусской советской литературы". Вядомы і як перакладчык з англійскай, латышскай, польскай, рускай моў.***

***З 70-годдзем, шаноўны Мікалай Мікалаевіч! Моцнага здароўя Вам, новых поспехаў у галіне літаратуры і ў адраджэнскай дзейнасці на карысць Бацькаўшчыны!***

Мікола АРОЧКА

# СУСТРЭЧА З ВОГНЕННЫМ ПРЫВІДАМ ПАЭТА



*Пішу "самааповесць" "Вымярэнні майго свету" (з небяспекай разрастання ў эпапею). Форма трохі нязвычная: спрабую спалучыць абразкі, карціны з выхадам у свой паэтычны і літаратуразнаўчы досвед. Душы зажадалася нязмушана пераносіцца ў розныя ўзроставыя дачыненні з часам, па-за рамкамі хронікі і мемуарыстыкі. Гэта як бы споведзь творчай практыкі. З захопам новых кавалкаў жыцця. Справа ў тым, што, нягледзячы на невымерную ёмістасць і "круцізну верша" (Гётэ), яму (вершу) усё ж не заўсёды падуладны цяжкія пласты жыццёвых рэалій. Па сваёй прыродзе яго "круцізна" больш імкнецца да неба, да ідэальнага. Па-за творам, у выніку, застаецца столькі жыццёвай прадгісторыі і пратапыннага матэрыялу, што, як любіў казаць Максім Танк, яны часта куды больш цікавыя, чымся сам твор. Грэшна аддаваць іх небыццю. Прапаную ўвазе чытачоў "ЛіМа" адну з частак твора.*

**Аўтар**

Да мяне на падворак скіраваў з роварам Эдуард (па-свойску Эдзя). Гадаваліся па-суседску. Хаты поплеч, уздоўж. Асеў у недалёкіх Міжэвічах, у мястэчку. У хату заходзіць адмовіўся: трэба ў вёсцы адведаць многіх родзічаў, таму — ненадоўга. Ды на падворку ў засені яблыні не нагаворымся. На пару гадоў старэйшы за мяне Эдзя паспеў, як кажуць, з галавой акунуцца ў розных плынях жыцця раёна. Добра абазнаны ў гаспадарчых і кіраўнічых справах. З твару не сыходзяць абветранасць, густая засмужанасць, здабытыя на розных старшынёўскіх пасадах (калгаса, сельсавета), — на іх растрачаны лепшыя гады жыцця.

Сёння ж я зачапіўся пытаннем за іншае:

— Ці помніш, у часы нямецкай акупацыі прабегла чутка: нашы Вецявічы будуць выбіваць?

Эдзя, прысадзісты, рухавы нават пры неважнецкім самаадчуванні (з бутэлечкі на далонь сыпнуў нейкіх таблетак, глынуў без вады). Дзейна-цікавы ў размове. Толькі стаў больш перарывіста-задыханы, нібы ад шпаркай хады па палетках, якія ўдосталь прыйшлося абхадзіць-перамераць. Уздыхнуў:

— Мы ў вёсцы — цудам уцалелыя смяротнікі, — Эдуард горка прыморшчыўся, нібы разжаваныя таблеткі запярыўшылі ў горле. — Ты помніш селяўскага Турца, нямецкага солтыса? — і спахапіўся. — Даруй, ты ж яго вунь як апісаў у паэме...

Слоўца "апісаў" кальнула іроніяй. Гэта ён — пра маё "Кургане".

— Ну, я там трохі ўтрыраваў яго. Вобраз-шарж, як з лубка. Родзіч Калабка з "Трыбунала" Макаёнка, помніш?

— У Турца не проста прага ўлады... Гэта больш складаная натура, — далікатна зазначыў Эдуард.

У мяне ж ён — антыпод умоўнага эпічнага героя — бохана хлеба, а яшчэ — дзеля кантрасту вядучага вобраза: вогненнага прывіду паэта. Хоць разумею: нават такі тып нельга было адной фарбай. Няхай і дзеля мастацкай умоўнасці... Бо які ж ён, у жыцці, антыпод хлеба? Трывалы колішні гаспадар, сам спаконны хлебадар. Нешта ж выбіла яго з каляіны?.. Так, зло ў пары з дабром. Толькі розныя порцыі гэтых якасцяў няроўны час змяніліся кідае на шалі: каму больш, каму менш, то адно пераважыць, то другое. Найгорш, калі чалавек не заўважае ў сабе гэтага, апускаецца, як у бяздонь.

Уваччу на імгненне — не твар, а спітая абразіна, што, прыўзняўшыся над сталом у нашай хаце, плюе ў твар маёй маме (яна паднесла, дагаджаючы, як ліхой скуле, скупаватую закусь).

— Усім вам капут!..

Словы брыдка слюнявяцца — ад іх дрыжыкі. Тады мы яшчэ не здагадваліся пра ўвесь злавесны сэнс выплюнутых слоў. Хоць і даўно прадчувалі наша пагібельнае становішча.

— Прыехаў ён у той дзень да майго бацькі, — голас Эдуарда перарывіста-напяты. Ён упершыню рашыў даверыць штосьць важнае. — З бацькам маім здаўна ён быў у прыязных адносінах, звяртаўся з лагодай: "Мой Язэпе". Угаварыў перад гэтым стаць яго заступнікам па Вецявічах...

Наместнікі-заступнікі солтыса былі тады ў нашай вёсцы часовыя: праз месяц-другі солтысаўства перадавалася далей, па чарзе, хоць і не кожнаму (майго малапісьменнага бацьку, дзякаваць, абмінула). Язэп Якавін (так па-вясковаму) быў у нас найбольшым аўтарытэтам. Яшчэ за польскім часам на прызбе сваёй хаты чытаў са смехам вясковай грамадзе віленскую "Маланку". Язэп мог і заступіцца, і дзельна парадзіць. Быў сам сабе наўме. Умеў жыць і ўжывацца з кожнай уладай, трохі хітрыць. У яго ўмельстве дастасавацца надарыўся кур'ёзна-дзікі выпадак. Пры тых Саветах (пасля верасня 39-га) Язэпа, кажуць, абралі ці не камітэтчыкам беднаты. Меў гаспадарку серадняцкую, сям'ю мнагадзетную (Эдзя быў першынцам). Згадзіўся на камітэтчыка, пэўна, не без разліку (можа, не запішуць на вываз!). Хадзіў заступацца за тых, каго мясцовыя актывісты ўпяклі ў спісы высялення. Заступніцтва не спадабалася ўверсе. І Язэпа, кажуць, цішком самога ўвялі ў тыя спісы. Ды яшчэ як! Пад слупком імёнаў знізу пакінулі адзін пусты радок. Калі ж прымусілі падпісаць тыя спісы, то ў пусты радок дапісалі і Язэпава прозвішча. Пацяшаліся: ах, лоўка як! Сам сябе, уласным подпісам — на высяленне. А Язэп і не здагадваўся, што і ён ужо там, у слупках імёнаў, нібы ў брацкай магіле... Зрэшты, і мае ж бацькі апынуліся там, і я з імі — у тых спісах. Неўзабаве яны, размешчаны вайной на сельсавецкім дварэ, вусцішна чыталіся многімі вяскоўцамі ды ветрамі. Дрыготка рабілася ад усведамлення, што чарга няўмольна падступала і да нас. Нават у першыя дні вайны: над Азярніцкай станцыяй і над шашой унізе ўзвывалі крыжастыя самалёты, а спехам схопленыя сем'і з дзецьмі ды клункамі яшчэ ўсё заганяліся ў таварняк. Яны так і не вярнуліся да родных хат, былі недзе знішчаны на дымных дарогах адступлення. Сэрца шчыміць па дзяўчынцы, з якой у пачатковай школе сядзеў за адной партай. Пасучы кароў, я бачыў здаля, як бамбілі чыгунку і шашу — у тым віры недзе, вывезеная з бацькамі, канула і маленькая выгнанніца Аленка...

Першы круг пекла тады з вайной не адкаціўся на ўсход. Не, спісы вынішчэння не раздзьмула вайной. Тыя спісы мелі ўласцівасць адраджацца бясконца на нашай зямлі, у найжахлівым выглядзе. Яны нанова былі складзены чарговымі захопнікамі, распрацаваны дакладна ў новых планах экспансіі. І неўзабаве зашугалі на зямлі нашай вогненнымі вёскамі.

Турац прынёс страшэнную навіну.

— Бяда прыйшла, Язэпе... Шкада мне цябе і сям'і тваёй, — даўка вымавіў ён у хаце свайго наместніка, кульнуўшы чарку. — Вашы Вецявічы паліць збіраюцца... Мне шапнуў адзін надзейны чалавек з ка-мандатуры. Ц-цы!.. Каб нікому — ані шэп.

Ёзуп абмяк на лаве, няўцямна і бездапаможна. Маўляў, куды ж тут дзенешся? Што ўсім, тое і мне. Поўная хата дзятвы...

— Куды? У Слоніме цяпер хапае жытла... Унь як жыдоў пачысцілі! Па пустых дамах вецер гуляе, ды сабакі каля разбітых буфетаў віжуюць... Шафы з адзежай... Колькі глуму! — угаворваў Турац. — Я цябе ратаваць прыехаў. Збірайся!

...Эдзя на хвілю прымоўк. У ім, відаць, абуджана засмылела ўсё, што тады падслухаў стоена ў куце. А ў мяне ўваччу чамусь тыя асірацела-пустыя дамы, буфеты, шафы... Некаторыя з іх зусім не патрушчаныя. Яны варушацца, няўклюдна пруцца да выхаду, абдзіраючы паліраваныя бакі аб вушакі дзвярэй. Вунь шафа з прабоінамі ад куляў. Дзе іх гаспадары? На Петралевіцкай гары? Часам пад'язджаюць фурманкі. І я бачу, як грузяцца асірацелы пажытак, буфеты, канапы... Вунь, пэўна, нехта з родзічаў таго ж Турца, з Селявіч... Я міжволі паварочваю галаву ў бок сваёй хаты: там жа праз шыбіну вакна прагладваецца, як прывід, цёмны рог колісь прывезенага буфета. Помню, пасля вайны ўжо, мой бацька прывёз яго з Селявіч. Буфет і шафу. Адкупіў іх за мяшок жыта ў аднаго з католікаў, які якраз тады, запісаўшыся палякам, выязджаў з сям'ёй, як і многія, у Польшчу (абы не быць пад саветамі).

Буфет мяне захопліваў дзівіў аздобаю, меднымі ручкамі ў шуфлядах, гранёнымі каляровымі шкельцамі ў дзверцах і асабліва вусціншай таемнасцю люстра ў праёме паміж дзверцамі — яно цьмяна паблісквала ўглыбі, вабіла і чамусьці страшыла. Зазірнуць у яго я мог толькі, стаўшы на ніжнюю частку буфета. Гляну — і адскочуся! У дымным водсвеце люстра нібыта замільгалі нейкія расплывістыя постаці. Каленькі мае задрыжэлі, і я зляцеў на падлогу. Пазней, калі я прачытаў "Шыбы старой камяніцы" Максіма Танка, "Люстры" С. Кірсанава, мяне дрыготка кальнула здагадка: люстра гэтага буфета, пэўна, бачыла трагедыю гаспадароў, яго ж ніхто не завешваў, і магічны крыштал назаўсёды адбіў у сабе ўсё жах расправы, пасля якой апусцеў дом.

Буфет стаяў у нашай хаце амаль без ужытку, пусты, бо што ў яго было стаўляць, класці — алюмініевыя лыжкі, міскі? Я начысціў крапівой з пяском бацькаву медную конаўку, адпалавіненую з гільзы, і яна адзіная таемна паблісквала ў шкляных гранях за дзвярамі буфета. Высозны, да пацёса, ён спаўняў ролю перагародкі, аддзяляючы кут з абразамі ад спальні. Пра ніжнія шуфляды і казаць няма чаго — там збліталіся ніткі, клубкі, іголкі, пруткі, грэбень... Затое верхняя шуфляда, пад люстрам, таіла прыцягальную моц. Яна была заўсёды на замку, але я ведаў хованку ключыка — і для майго дасціпнага вока прыадчыняўся цэлы свет, пазіраючы з той шуфляды: якіх там толькі не было квіткоў, пажоўклых, каляровых, з выцвілымі літарамі, лічбамі, пісанымі хімічным алоўкам. Там красамоўныя сведчанні пакінулі ўсе ўлады і рэжымы, што пракаціліся па лёсе бацькоў, цягавітых гаспадароў, якіх не забывалі на поўніцу абкладаць падаткамі, душыць бясконцымі павіннасцямі: квіткі за здачу воўны, збожжа, лёну, масла, яек, аблігацыі прымусовых пазык, паперкі на лесазагатоўкі і гужпавіннасці, нават поруч з кніжачкай на вынас малака — і "картачка канёва", як у таго Маргунка з "Краіны Муравіі" А. Твардоўскага.

Шафа поруч пуставала без вопраткі, даючы нам прытулак падчас гульні ў хованкі. Але шафа таіла ў сабе жахлівае сведчанне бяды — мяне заўсёды бянтэжыла рваная дзірка ад кулі навылёт... Людзі, на што вы спадзяваліся, везучы са Слоніма, з выбітых кватэр, гэтыя прастрэленыя рэчы? За вамі ж услед ішло тое ж вынішчальнае страхоцце — неадступна і непазбежна! Ратунку вы не мелі б, як і гэтыя звезеныя буфет з шафай — доля чакала адна ўсіх разам з попелам хат...

Я дрыготка адводжу ўнутраны позірк ад тых рэчаў, што знайшлі прытулак у нашай вясковай хаце і сталі ўжо сёння для мяне свяшчэннай рэліквіяй.

— Ты кажаш, — звярнуўся я да Эдуарда, — Турац прывёз страшную навіну са Слоніма?

— Так, ён перабраўся ўжо туды. У Селявічах яго падпільнавалі партызаны, выцягнулі з адрыны і пагналі праз усю вёску ў канец, дзе бралі пясок. Але збегліся жанкі, на каленях сталі маліць, каб адпусцілі ("За гэтага п'яніцу, падлу наша сяло выб'юць!"). Лясныя хлопцы свае ж, разумелі. Надавалі кухталёў ды моцна прыгразілі ("Помні, будзеш гадам — нашай кары не мінеш"). Можа, і добра, што з ім тады не паквіталіся: вестку вунь якую ў вёску прывёз!

— Дык гэта вам, у Язэпаву хату...

— Хто яго ведае. Не такі Турац прасцяк, каб не здагадвацца, што такую навіну не ўтрымаеш у мяху. Ён усю вёску папярэджваў. Падказваў: бяда ідзе, якнебудзь ратуйцеся!

Помню, у сяго-таго на падворку за ноч з'яўлялася свежая зямля, пясок на прызбе. Людзі тайком рабілі схованы, норы з-пад сценаў хаты ў бульнёг. Нават за гумнамі, на ўскраі поля я напатыкаўся на яміны. Мой тата чамусьці іх не ладзіў. Затое ж я, напуджаны чуткамі, нагледзеў сабе ратунак — густую паласу падстрыжанага ельніку, які ўздоўж саду ў суседа сплёўся ў жывую агароджу, што засланяла сад ад ветру і нашых набегаў. Яна павінна была цяпер ўратаваць мяне ў гушчары, ля сарочых гнёздаў (абы дабегчы!). Чамусь не думалася, што той ельнік мяне б там жыўцом падсмажыў.

— Вось жа твой бацька не пайшоў на паваду ў Турца, — кажу я Эдуарду, — не зманўся на ўцёкі ў Слонім, пад крыло акупантаў. І спрятаў, здаецца, таксама не рабіў. На што ён спадзяваўся, як трываў ён з дня ў дзень пад страхоццем той чорнай весткі?

— Найперш — ён адкінуў сваё салтысоўства, пусціў далей па чарзе. А галоўнае — рашыў: трэба чым хутчэй данесці тую вестку партызанам. Трэба неяк апярэдзіць забойцаў...

Размова наша падышла, здаецца, да самага ключавога пытання: што ж прытрымала карную акцыю спапялення нашай вёскі? Нейкая загадка...

— Няўжо ты лічыш, што тут сыгралі сваё партызаны?

— Найнаўчай. Вакол нашых Вецявіч пачалі туга закручвацца падзеі. Партызаны адразу ж пусцілі ў ход свае контрзахады, — горача вёў свой аповед Эдзя. — Не адну ноч і дзень на падыходзе да нашай вёскі карнікаў стоена чакалі партызанскія засады. Лясныя разведчыкі сачылі з-за кожнага дрэва і куста. Але не дрэмалі, мусіць, і карнікі — нешта пранюхалі.

— Ты лічыш, — працягваў я сваё, — што тыя засады маглі ўсур'ёз прыпыніць гітлераўцаў, якія так прагнулі для сябе расчысткі "жыццёвай прасторы"?

*(Працяг на стар. 12)*

аматараў (у складзе калектываў культасветвучылішча, педагагічнага інстытута, музпедвучылішча) і спартсменаў-акрабатаў у Польшчу (1957 г.) падштурхнула да думкі пра неабходнасць стварэння ў горадзе ансамбля песні і танца. У тым жа годзе пры абласным Доме народнай творчасці на базе пастаянных курсаў мастацкіх кіраўнікоў, баяністаў П. Радаліцкі, Л. Ляшэнка, С. Мачалаў, В. Шыркевіч ствараюць першы ў вобласці ансамбль песні і танца. Пазней ён атрымаў назву "Нёман" і стаўся прыкладам для стварэння такіх ансамбляў песні і танца, як імя Агінскага ў Смаргоні, "Лідчанка" і "Чаравічкі" ў Лідзе, "Свіцязь" у Ваўкавыску, "Лянок", "Ручаёк" у Дзятлаўскім раёне, "Крыніцы" ў Ашмянах, "Ніва" ў Гродзенскім раёне, ансамбляў танца "Раніца", "Вянок", "Праліца", "Мара" ў Гродне. Наша вобласць па колькасці ансамбляў песні і танца і па сёння — лідэр.

Больш як 30 гадоў таму ўпершыню на Беларусі пры абласным ДНТ быў створаны цяперашні музей сучаснай народнай творчасці Гродзеншчыны. Вопыт яго стварэння і працы перанялі арганізатары Рэспубліканскага музея народнай творчасці ў Раўбічах. Працяглы час у ДНТ працаваў лялечны тэатр (рэжысёр І. Загаруйка), студыя выяўленчага мастацтва (кіраўнік Я. Сальнікаў). Тут атрымаў пуцёўку ў жыццё і фотаклуб "Гродна"...

●

У 1980 годзе абласны Дом народнай творчасці рэарганізуецца ў абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культасветработы (АНМЦ і КАР). Новы штатны расклад, новыя напрамкі працы. Да кіраўніцтва клубамі, палацамі культуры, калектывамі і гурткамі мастацкай самадзейнасці, аматарскімі аб'яднаннямі прыходзяць выпускнікі ВНУ, сярэдніх спецыяльных устаноў культуры. Укараняюцца ў жыццё цэнтралізаваныя клубныя сістэмы.

АНМЦ аказвае арганізацыйна-метадычную дапамогу ўстановам культуры горада і сяла. Арганізуе — упершыню ў Беларусі — Дні культуры абласнога цэнтра ў раёнах, сельскіх Саветах з актыўным удзелам кампазітараў, пісьменнікаў, паэтаў, спартсменаў, медыцынскіх работнікаў, самадзейных і прафесійных калектываў. Усё гэта паслужыла прыкладам і выклікала да жыцця правядзенне Дзён культуры райцэнтраў вобласці ў сельскіх Саветах, асобных вёсках.

АНМЦ удзельнічае і ў наладжванні святаў горада, вёсак. Спрыяе шэфству дзеячаў культуры і мастацтва, вопытных спецыялістаў над народнымі, узорнымі і вядучымі калектывамі мастацкай самадзейнасці. (У свой час гэтай справай апекаваліся, напрыклад, Г. Цітовіч, А. Бальцэвіч, Ю. Семяняка, І. Хворост, К. Паплаўскі, М. Наско, І. Нісневіч ды інш.). Нездарма ў 80-х гадах Міністэрствам культуры СССР Гродзенскі АНМЦ быў вызначаны як апорны базавы метадычны асяродак Усесаюзнага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці па Заходнім рэгіёне.

Першы фестываль беларускага фальклору (1971—72 гг.), першае ў рэспубліцы абласное свята рамёстваў (1981 г., Воранава), першы семінар-пленэр рэзчыкаў па дрэве, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа (1982 г., Гродна), святы духавой музыкі, тэатральныя фестывалі і "рампы", Дні народнага майстра, фестывалі сямейнай творчасці, І-шы абласны фестываль тэатраў лялек (1993 г.) — прычым, на Смаргоншчыне, у Залессі, упершыню на Беларусі была адроджана традыцыйная "Батлейка"; фестывалі нацыянальных культур, конкурсы і святы культарганізатараў, аматарскіх аб'яднанняў, святы танца, гумару, святы і конкурсы прафесій, сумесныя фестывалі і конкурсы з органамі адукацыі, унутраных спраў, пажарнай службы, аб'яднаннямі інвалідаў, ветэранаў вайны і працы, агляды-конкурсы абрадаў (з 1994 г.), перапрафіліяванне клубаў — далёка не поўны пералік напрамкаў працы нашага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці.

Абласны метадычны цэнтр цесна супрацоўнічае з творчымі саюзамі, суполкамі нацыянальных меншасцяў, што жывуць на Гродзеншчыне. Актыўна выкарыстоўвае магчымасці музычных вучылішчаў і школ, узаемадзейнічае з Беларускім інстытутам праблем культуры, абласнымі, раённымі і гарадскімі метадычнымі цэнтрамі, наладжвае абмен патрэбнай літаратурай, метадычнымі распрацоўкамі, удзельнічае ў арганізацыі вучобы дырэктараў цэнтраў, семінараў-практыкумаў па жанрах. Наогул, сёння гэта — утульны творчы асяродак, з цудоўным інтэр'ерам, камернай залай, сучаснай апаратурай. Тут праводзяцца пасяджэнні музычна-мастацкай гасцёўні, канцэрты, сустрэчы з выканаўцамі, аўтарскія вечары і юбілейныя імпрэзы дзеячаў культуры і навукі горада. У народным музеі арганізуюцца выставы народных майстроў. Наша арганізацыя, напэўна, адзіная, якая мае абласны клуб выцінанкі (яго ўзначальвае А. Аўчыннікаў).

А ў сувязі з набыццём адпаведнай тэхнікі вось ужо некалькі гадоў вядзецца выпуск неабходнай рэпертуарнай літаратуры: зборнікаў песень, танцаў, каталогаў выстаў, сцэнарыяў абрадаў Гродзеншчыны, забаўляльна-іграваых праграм і да т. п.

"Пад дахам роднага дома" працуе абласны клуб народных майстроў, пазаштатны актыў рэжысёраў, балетмайстраў, хормайстраў, мастакоў, дырыжораў. Прыемна, што народны ансамбль "Музыкі" неаднаразова вылучаўся на Міжнародным конкурсе "Звіняць цымбалы і гармонік". Прыемна, што не прайшла незаўважанай арганізацыйна-метадычная і творчая праца Цэнтра падчас 1-га фестывалю "Беларусь — мая песня" (1997—1998 гг.) і падчас правядзення міжнароднага свята ў Навагрудку, прысвечанага 200-годдзю Адама Міцкевіча.

Зразумела, тут немагчыма расказаць пра ўсе добрыя пачынанні і ўсіх супрацоўнікаў гэтага дзівоснага творчага калектыву.

●

І цяпер я зноў хачу звярнуцца да кнігі "Памяць".

У раздзеле "Ішла вайна народная" пад рубрыкай "Яны прайшлі дарогамі вайны" асобна па Ленінскім і Кастрычніцкім раёнах апублікаваны прозвішчы ветэранаў вайны, жыхароў Гродна, тых, хто жывы, і, тых, хто, на жаль, пайшоў з жыцця. "Ніхто не зыбыты і нішто не забыта!".

Але як жа я здзівіўся, калі ў гэтым спісе не знайшоў прозвішча свайго бацькі А. С. Копа, які ўсё сваё жыццё аддаў арміі, прайшоў шлях ад салдата да падпалкоўніка, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне ад першага і да апошняга дня, прычым у складзе Беларускіх франтоў вызваляў Кёнігсберг, Берлін, Прагу. Быў узнагароджаны шэрагам баявых ордэнаў і медалёў. Пасля вайны служыў у вайсковых падраздзяленнях у Гродне, працаваў у ваенна-будаўнічым упраўленні. Аднаўляў і будаваў пасля вайны Фолюш, вул. Пралетарскую, Свярдлова, Касманаўтаў, Савецкую... Памёр у 1979 г., пахаваны ў Гродне.

А што калі не ён адзін аказаўся забытым?!

**М. КОП**

*г. Гродна*

МАНАЛОГІ

# За кожным узорам — нацыянальная традыцыя

***Мікалай БЕЛЫ. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Краснадарскім краі. Скончыў Маскоўскі хіміка-тэхналагічны інстытут. Працаваў вядучым спецыялістам на Краснадарскім фарфора-фаянсавым і Самаркандскім фарфоравым заводах. Затым галоўным інжынерам Добрушскага фарфоравага завода. Цяпер дырэктар гэтага прадпрыемства.***



— Непаўторны Добруш з маляўнічай рэчкай Іпуць, якая ўпадае ў Сож, вялікім паркам, меднастволымі соснамі, якія ўпрыгожваюць жылыя кварталы. У раёне вуліцы Лясная размешчаны мой родны фарфоравы завод. Лёсы тысячы з лішнім дабрушан звязаны менавіта з гэтым унікальным прадпрыемствам, той прыгажосцю, якая нараджаецца тут. У год мы выпускаем каля 20 мільёнаў фарфоравых вырабаў 150 найменняў. Цяпер наша прадпрыемства называецца закрытае акцыянернае таварыства "Добрушскі фарфоравы завод". На сто працэнтаў выкарыстоўваем вытворчыя магутнасці, выйшлі на вытворчыя паказчыкі пачатку 90-ых гадоў, калі развалiўся Савецкі Саюз. Асноўная наша прадукцыя — чайныя ды сталовыя сервізы. Яны задавальняюць у дастатковай колькасці беларускі рынак, вялікая іх колькасць паступае ў Расію, з ёй знаёмы пакупнікі ЗША і Францыі. Адным словам, не маем ніякіх праблем, працуем стабільна, а работнікі атрымліваюць рэгулярна неблагую зарплату.

Вядома, аўтарытэт нашых вырабаў звязаны з іх прыгажосцю, тымі роспісамі мастакоў прадпрыемства, у аснове якіх беларускія нацыянальныя матывы, у тым ліку ўзоры слуцкіх паясоў. Ажыццяўленнем мастакоўскіх задум, іх практычным ўкараненнем у вытворчасць займаецца спецыяльная лабараторыя, якую ўзначальвае вопытны спецыяліст Ганна Гагалушка.

Пра нашых мастакоў хочацца расказаць больш падрабязна. У першую чаргу назаву сябра Беларускага Саюза мастакоў Раісу Алёшыну. У Добруш яна прыехала ў 1979 годзе, калі ствараўся завод. Да гэтага шмат гадоў працавала на Хайцінскім фарфоравым заводзе, што ў Іркуцкай вобласці. Менавіта яна была арганізатарам адкрыцця мастацкага ўчастка. А ў сваіх роспісах на вырабах імкнулася перадаць каларыт беларускай прыроды, на першы погляд, няяркай і ў той жа час лірычнай. Раіса Рыгораўна зараз на заслужаным адпачынку, але пастаянна трымае сувязь з прадпрыемствам, а яе калекцыі сталі гонарам завода. Варта тут і пра пераемнасць пакаленняў успомніць: побач з маці пачала працаваць дачка Вольга, якая вучылася ў яе і з творчым натхненнем узялася за працу мастака. Вось адна з ранніх яе работ — дэкаратыўная талерка з залацістымі яблыкамі — дарамі беларускіх садоў. Цяпер Вольга ўжо не пачатковец, умела ў сваіх творах выкарыстоўвае малюнак і кампазіцыю. Любіць мастачка ўводзіць у роспісы кветкі, арнаменты слуцкіх паясоў. Прыкметная яе работа — "Край блакітных азёр".

Калі ўжо я пачаў гаворку з нашых прывабных жанчын, спынюся і на творчасці Галіны Семікашавай. Хацеў бы адзначыць яе работы: вазы "Палессе", "Нацыянальны арнамент", дэкаратыўныя талеркі "Ручнікі", "Родны кут" і каваыя сервізы, падарунаачныя сервізы "Вяселле", "Спадчына". Яна арганізавала на прадпрыемстве ўчастак падглазурнага роспісу, тэхнікай якога выдатна валодае. Нядаўна Галіну Іванаўну прынялі ў сябры Беларускага саюза мастакоў.

І іншыя нашы мастакі па натуры таленавітыя, творчыя і высокія прафесіяналы. Іван Гагалушка скончыў дэкаратыўна-прыкладное аддзяленне Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Ён спецыяліст па формах. Не саступае яму ў майстэрстве і Мікалай Арэшчанка — выпускнік вядомага Абрамцаўскага мастацкага вучылішча, што ў Падмаскоўі. Вабяць яго сервізныя наборы "Гарлачык", "Флора" і іншыя. Асабліва ён любіць роспісы цёмна-сінім кобальтам, якія надаюць вырабам асаблівую ўрачыстасць...

Вырабы завода экспанаваліся на буйнейшых выставах, у тым ліку міжнародных. Пакупнікі, камерцыйныя работнікі, бізнесмены пераконваліся ў тым, што прадукцыя дабрушан самага высокага гарту. І ў гэтым важкі ўклад нашых мастакоў, для якіх Беларусь стала імпульсам творчай работы, творчага ўздыму.

**Маналог запісаў**
**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**



*Беларуская "сям'я" нямецкай гаспадыні фраў Э. ШЫЛ*

хаў і нават фота сённяшняга нашчадка каралеўскай фаміліі. Удзельнікі ансамбля "Сірынкс" з задавальненнем сфатаграфаваліся побач з флейтамі Фрыдрыха Вялікага, які, як вядома, добра граў на гэтым інструменце.

У вольны час удзельнікі канцэртаў каталіся на веласіпедах, гулялі ў футбол і нават наведвалі боўлінг — спрычыніліся да ўмельства збіваць кеглі...

Уражанняў назапасілася мноства. Гаспадар, у якога я жыў, працуе электрыкам на фірме "Тэлекам". Ён здзівіў мяне тым, што добра спявае, у ягоным рэпертуары класікі нямецкай музыкі: Бах, Моцарт, Шуберт, Шуман. У вольны час мы з Крыштофам — такое імя ў гэтага аматара музыкі — прамузіцыравалі амаль 4 гадзіны. Крыштоф бярэ ўрокі ў прафесійнай вакалісткі з Японіі, плаціць 100 дойчмарак за гадзіну заняткаў. Вакалізы любіць спяваць падчас працы, асабліва седзячы на велізарных мачтах высакавольтных электраліній.

Размаўляючы з мясцовымі жыхарамі, мы цікавіліся іх жыццём, а яны — нашым. Калі гаворка ішла пра нашы зарплаты і цэны, у немцаў на вачах з'яўляліся слёзы і яны глядзелі на нас, шкадуючы. А мне думалася: "Чаму так?! Вось чаму нашы хлопцы і дзяўчаты, хаця граюць лепш за многіх у Еўропе, мусяць атрымліваць грошы ў 100 разоў меншыя, чым заробкі іх калегаў з Германіі ды іншых краін?"

Мне было прыемна назіраць, як ладкуецца побыт у нямецкай сям'і, як там любяць свой дом, менавіта **дом**, бо да кватэр у іх стаўленне, падобнае да нашага, а вось уласны дом — гэта рэч асаблівая. Колькі маленькіх куткоў, утульных, з прыладамі для чытання, слухання музыкі, для гатавання страў! Ну, а калі гаспадыня прадэманстравала падарунак да свайго юбілею — маленькі вадаспад і фантан, які б'е са звычайнага кашпо для кветак, дык мы проста прымоўклі.

У выхадны дзень мы вызвалілі гаспадароў ад хатніх клопатаў і прыгатавалі для іх смачны беларускі боршч, спяклі пірагі...

Калі ж надышоў час развітвацца і ад'язджаць, былі слёзы, усмешкі, пацалункі. Дамовіліся: наступная сустрэча — праз год.

**Аляксандр МІЛЬТО**

## Пра школьнае жыццё

**Сёння, перабіваючы адзін аднаго, усе загаварылі аб праблемах моладзі, для якой самае актуальнае пытанне: "Ці лёгка быць чалавекам, асобай? І як ёй стаць?"**

**На гэта пытанне і спрабуе адказаць Яўген Хвалей у новай кнізе "Прынцэса з тусоўкі", прэзентацыя якой прайшла ў Мялешкаўскай сярэдняй школе Слуцкага раёна, якую наладзілі мясцовая вясковая бібліятэка і школа.**

**У сваёй кнізе Яўген Хвалей даволі сур'ёзна даследуе жыццё і працу настаўнікаў, навучальны і выхаваўчы працэс, духоўны свет вучняў, бацькоў, адлюстроўвае рэчаіснасць, на жаль, горкую і трывожную, такую, якая ёсць на самай справе.**

**Пра ўсё гэта і адбылася шчырая размова паміж пісьменнікам, вучнямі, настаўнікамі і бацькамі.**

**Л. ЦІШКЕВІЧ,**

**загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Слуцкай РЦБС**

## У кожнай вёскі — свая літаратурная біяграфія

**Свята вёскі — добрая традыцыя ў Пухавіцкім сельскім Савеце Пухавіцкага раёна. Летась святкавалі дзень мястэчка Пухавічы. Сёлета з'явілася і свята Зацітавай Слабады. Здавалася б, не дужа вядомае паселішча, але і яно мае сваю багатую гісторыю. І літаратурна-мастацкую — таксама. У вёсцы бывалі народны паэт Беларусі Якуб Колас, паэт Кастусь Кірэенка, публіцыст Сцяпан Кухараў, празаік і публіцыст Уладзімір Саламаха, дзіцячы пісьменнік Бранніслаў Зубкоўскі. На свята роднай вёскі прыехаў і журналіст, краязнаўца Алесь Карлюкевіч, аўтар, між іншым, кнігі "За Цітаўкаю — Слабада".**

**Віталі слабадцаў са святам і самадзейныя артысты Пухавіцкага сельскага Дома культуры, а таксама музычны калектыў "Суседзі" са Станькава Дзяржынскага раёна.**

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

## "Мастацтва", N 11

**"Пратэстанцкае адраджэнне: Сымон Будны, Васіль Цяпінскі" — чарговы раздзел з даследавання У. Конана "Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесансу". Пра тое, як праходзіў нядаўні тэатральны фестываль "Белая вежа-2000", можна даведацца з матэрыялаў Т. Арловай "Агонь і вада тэатральнай сцэны" і Л. Грамыкі "Лялькі і людзі". Пра мастачку Я. Ліс расказвае Л. Салавей ("У пошуках красы"). З М. Жылюком ("Сцэна — "лобнае" месца...") гутарыць Я. Мацкевіч. Штрыхі да творчага партрэта педагога З. Качарскай "Калі на небе запальваюцца зоркі" напісала Н. Ганул. Вынікі міжнароднага конкурсу "Фартэпіяна. Мінск-2000" аналізуе С. Нямцова ("Спаборнічалі піяністы"). Змешчаны артыкулы Л. Вакар "Рэха сарматызму ў творчасці Івана Хруцкага", М. Мірошнікава "Татальны перформанс Людмілы Русавай", Алены Яскевіч "Сярэдневяковае мастацтва і духоўны ідэал", М. Жбанкова "Інфармацыйнае грамадства", В. Дашук "Тэлебачанне і ўлады ў Амерыцы". Т. Мушынская ("Танец на фоне стагоддзя") рэцэнзуе кнігу Ю. Чурко "Линия, уходящая в бесконечность". Ёсць у нумары падборкі "Хроніка мастацкага жыцця", "Старонкі календара: снежань 2000".**

## "Беларуская думка", N 11—12

**Апошні ў сёлетнім годзе нумар часопіса "Беларуская думка" здвоены. Адкрываецца ён развагамі галоўнага рэдактара "БД" У. Вялічкі "Экзамен на лепшае жыццё". У. Караткевіч як абуджальнік нацыянальнай свядомасці — на гэтым аспекце засяроджвае ўвагу ў артыкуле "Паром памяці праз раку часу" А. Марціновіч. Публікацыя прымеркавана да 70-годдзя з дня нараджэння выдатнага пісьменніка. С. Дубовік аналізуе стан карыкатуры ў перыядычным друку ("Нашчадкі Кукрыніксаў"). М. Панасюк ("Добрае слова ў любой справе") гутарыць з галоўным рэдактарам газеты "Народная трыбуна", што выходзіць у Брэсце, Р. Пратасевічам. Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з заканчэннем рамана І. Шамякіна "Губернатар" і падборкай "Адзор'і" К. Камейшы. В. Ярмалінская выступае з артыкулам Віцебская "Лялька": дзівосна, непаўторна". Свой матэрыял А. Лазараў назваў "Іконы і храмы на паштовых марках".**

# СУСТРЭЧА З ВОГНЕННЫМ ПРЫВІДАМ ПАЭТА

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

— Мусіць, не рашыліся пакуль што падстаўляць галаву, — не паступаецца сваім перакананнем Эдуард і раптам, штосьць прыгадаўшы, весялее: — Была ў партызан яшчэ адна важкая контрмера. Камандзір брыгады Бабкоў сабраў у Воўчыя норы каля Акунінава самых удатных вастрасловаў з наўкольных атрадаў ("Іскра", імя Дзяржынскага), і тыя пад агульны рогат склалі адкрытае пасланне слонімскаму гебіткамісару Эрыну — у духу пісьма колішніх казакоў Запарожскай Сечы ("Помні, гадзючы недабітак: калі ты хоць смярдзючым мізінцам кранеш Вецявічы альбо яшчэ хоць адну нашу вёску, мы з цябе, гадзежа, злупім скуру і і вырабім на ірху, пашлем на пантофлі твайму фюрэру..." і далей у яшчэ больш "моцных" выразах).

Эдуард прыгадваў па памяці той ліст і ўсе перыпетыі тых падзей з аповеду самога Бабкова, якому, дарэчы, памагаў пісаць партызанскія ўспаміны.

— Пасланне дасціпнае, але ў новым часе не дужа каб смешнае. Зрэшты, гэта несур'ёзна, — ці не залішне крытычна паставіўся я, — ні запарожскі стыль, ні тыя засады... Эрына гэтым не праймеш!

— Але ж у карнікаў выйшла асечка! — не адступаўся і Эдуард.

— Чакай... Карнікі — гэта таксама не дужа сур'ёзна. Кара — за што? Вогненнае пакаранне соцень беларускіх вёсак — дзеля чаго? За нейкую там непаслухмянасць, зрыў паставак ці нават за сувязь з партызанамі? За тое, што партызанаў вёскі не выдаюць, каб ад кары ўратавацца? Запалохванне, вядома. Каб дрыжыкі працінalі. Увагнаць страх у косці бязмоўнага раба... Так! Але карная акцыя — гэта ж зручная зачэпка, якіх можна напароць тысячы. Ахвяры заўсёды лямантуюць: за што?! З усіх вогненных вёсак, з усіх канцлагераў вырываўся, заломваючы рукі, такі стогн (дарэчы, Ларыса Геніюш ведала: за што?!). А дзейнічае, гне, мардуе мэта вынішчэння! Калі браць тэорыю ў сумоўі. Вынішчэнне — мэта ўсіх таталітарных, акупацыйных рэжымаў. Ва ўсе часы. Вынішчэнне ўсімі спосабамі і сродкамі. Душыць рэпрэсіямі, падаткамі, павіннасцямі. Каб мець права, скажам, на вываз, на загубенне. Дзеля дармовай "рабсілы" ў капальнях, на лесапавалах...

У размове мы нібыта разварушылі глабальнага вогненнага, шматгаловага змея. Ён здаўна распаўзаўся па кантынентах. Але найбольш нявечыў, пажадна грыз, паліў нашы беларускія землі (нездарма ж ні ў аднаго народа няма, мусіць, столькі пастрашлівых казак пра вогненных змеяў, як у нас!). Дарэчы, я ўжо тады асабіста сутыкнуўся з ім, вогненным...

Але Эдуард на хвілю прыпыняе тыя мае ўспаміны, што гатовы, нібы кроў, пайсці горлам. Мой сябра ўсё ж сваё даводзіць:

— Але ж, пагадзіся, нешта прышчаміла хвост таму вогненннаму змею, што поўз у нашы Вецявічы... Ды як закруціўся ён, заверашчаў! Хіба ты забыўся, як у тыя дні вакол нашых Вецявіч зачасцілі аблавы, аблогі? Прачэсвалі ўсё ланцугамі: ірвы, узлескі, лазовае кустоўе, імшарнае куп'ё... Эрын ведаў: за акцыяй яго карнікаў пільна сочаць. А гэта ўжо сур'ёзна. У любы міг гебіткамісару мог быць паднесены падаруначак больш страшны, чым тое падкінутае пасланне... Цягнікі злятали з рэек за Азярніцай... Эрынцы залічылі дачасна нас у смяротнікі, а гэтыя смяротнікі не спяшаюцца канаць — вунь як агрызаюцца! Беларускі супраціў аказаўся ярасны...

Аблавы... Эрын і Бабкоў — нарасталі два кроўна-непрымірымыя полюсы. Уваччу — маё вогненнае хрышчэнне на партызанскім Казловым хутары. Перажыты жах быў толькі прадспевам да таго, што павінна было адбыцца са мной у роднай вёсцы. Казлоў хутар — сядзіба маіх сваякоў, матчынай сястры Веркі і татулькі-хроснага Мікалая (з іх дзятвой колькі разоў я там уцешна бавіўся і гасцяваўся!). На хутар ішла аблава — абцугастым ланцугом. Каб паспець, я рвануў праз пацяроб, напрасткі: раптам там на днёўцы партызаны! Пастушок, я ведаю ўсе сцежкі, як незаўважна праслізнуць. Ды падбягаючы да сядзібы ў хвойнічку, я нібы спатыкнуўся, аж прысеў знячэўку: з-за хутарскога паркана мне загадна махае рукой немец ("Ком, ком"!). Вінтоўка на паркане трымае мяне на прыцэле — на выпадак, калі кінуся ўбок ("Яны ўжо тут, апярэдзілі!"). Цётка Верка выручае мяне, як можа ("Ён па чарніцы, тут яго кошычак!), а мне: "Уцякай!" Ды пастка захлопнулася: куды ўцячэш? Прышэльцы ў насцярозе. Гаспадыня ветліва запрашае іх у хату, на пачастунак, каб выйграць нейкую хвілінку на ратунак. На стале ўжо дыміцца яечня з кумпяком. Поруч пляшка гарэлкі — немец устрасае яе: ажно скачуць ружовыя бурбалкі моцы ("Ого!"). З каморкі плыве міса з плейстарамі свежага бурштынавага мёду (татулька толькі што падглядзеў пчол). З гарышча хаты спаўзае ражон з падсохлымі каўбасамі. Немцы заінтрыгаваны: трывалая гаспадарка! Але ж спачатку ім трэба пільна агледзець хутар, усе пабудовы. Ідуць да хлява — у хвасце цягнуся і я (цікава ж!). Рохкаюць над карытам свінні, хрумстае над яслямі жарэбчык. Немцаў разбірае цікаўная ўвага: не хутар — ферма! Ды ў крайніх дзвярах — што за коні?! Татулька: "Гаспадарскія коні, мае коні!" Немцы з падазронай прыглядкай шыбуюць да гумна на водшыбе, загадна ківаюць гаспадару. Высокія дзверы неахвоча, з рыпам расчыняюцца... У прыстаронку на саломе спяць трое, нібы пасля цяжкой малацьбы ("намалаціліся" ноччу!) Немец ківае запытальна. "Гэта мае парабкі..." — дрыготка кажа татулька. Ды адзін з парабкаў ачомаўся, за вінтоўку — і бабахнуў. Немец адскочыў за дзверы — ды ў прыстаронак гранату! Яшчэ добра, што куля яго пашкадавала. Тут і пачалося. У выбухах і страляніне зашугала полымя. Дзякаваць бакавым дзвярам у гумне, што вялі ад малатарні да манежа. Абдзіраючыся, я нізам ціснуся праз паркан. У хвойнічку, бачу, поруч са мной шыбуюць трое партызан. Ды нам перабягаць трэба лужок, потым — папар. З-пад Кракоткі, з Гарбачоўшчыны сакоча па нас кулямёт — толькі пылок, пылок каля ног. Свісту не чутно... Падаю, паўзу, абы не адстаць...

А там, у вогненным віры хутара, як жа было дзятве, іхнім бацькам, якіх паставілі каля полымя? Жыўцом укінуць ці спачатку пазабіваюць? Вось пад'ехаў на таксоўцы нейкі высокі чын. Выйшаў, накульгваючы, агледзеў, лічы, ужо смяротнікаў. Можа, гэта быў той самы гебіткамісар Эрын? Чаму ён перапыніў расправу — пашкадаваў? На яго рахунку колькі ўжо было спаленых вёсак: Акунінава, Ніз, Паўлавічы... А Петралевічы пры Слоніме! А колькі запланавана вёсак на чарзе — Вецявічы адна з наступных. Літасць незразумелая (толькі татульку пагналі ў Германію — вярнуўся з Дзюсельдорфа, каб закончыць свой шлях у Данбасе).

(Пазней, амаль праз чвэрць веку, у Германію на антыфашысцкі працэс, дзе судзілі і Эрына, быў запрошаны са Слоніма слынны лекар дзядзька Антон (бацька Алега Лойкі), які вымушаны быў аказваць медычныя паслугі галоўнаму акупанту Слонімшчыны і шмат ведаў пра яго. Шкадую, што я не паспеў распытацца ў дзядзькі Антона: можа, на тым працэсе Эрын у сваё апраўданне прыгадваў і той не выбіты партызанскі хутар і нашы не спаленыя Вецявічы?).

— Вось і твая тэорыя вынішчэння, — як бы паддзяе мяне Эдуард. — Чаму тут не спрацавала яна?

— Спрацавала б яшчэ, — адказваю, хоць міжволі таксама паціскаю плячыма. Відаць, і тут усё больш складана, як і з тым Турцам. Ды нутром чую — гарыць там усё. Кулі, кулі, пылок пад нагамі...

Я ўцалелы ці забіты?.. Працяты, працяты... Забіты мой кроўны сукродзіч — Паэт, мастак слова. Ён не выйшаў тады з вогненных сцен. Застаўся толькі яго вогненны прывід. Вунь як нематліва, не міргаючы ён глядзіць на мяне. Чаму ён так пранізвае мяне — да вусцішнага ўздрыгвання, да слязы? Я проста не мог не ўвасобіць хоць бы яго цень, здань — скразную постаць майго "Кургання". Калі пісаў, не думаў, што гэта — і пра сябе, пра сваё зусім верагоднае спапяленне. Рукой вадзіла прадчуванне той абсалютнай рэальнасці, што ўжо насоўвалася на мяне, беручы ў абоймы. Таго яшчэ не ведаў, што ведаю ўжо сёння, а вось жа цалкам апаноўвала не проста ўява ці нейкая там віртуальнасць, а рэальнасць.

Тады я сустрэў вёску Курганне, сястру Хатыні, на Магілёўшчыне. Уклаў у яе сімвалічнасць, узвёўшы да яе ўсё, што асабіста перажыў. А разам — вогненнае сумоўе панішчаных вёсак. І штосьці панесла мяне ў той свет, дзе ты згарэў, Паэце. Гэта ты поўз, смяротна працяты, з вогненнага хутара — яшчэ як рэальнасць. Поўз назад, у родную вёску, у родную хату, да маці, якая на шырокай лапаце саджала ў печ пяць боханаў хлеба — іх трэба паслаць хутчэй у пяць дарог, ва ўсе канцы свету, да пяці кантынентаў... Хлеб свяшчэнны — уратуе!.. Але табе, працятаму, не суджана было выйсці з полымя роднай вёскі, каб сведчыць.

З блакады выйшлі, каб уваскрэснуць у творчым слове. А з вогненных вёсак паэты — дзе ж вы?.. Жахлівых сведак не так і шмат — іх галасы, іх вусцішныя споведзі данеслі, пасылаючы ў свет (нібы тыя боханы хлеба з вогненнага печыва), тры партызаны, самаадданыя і таленавітыя творцы (Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік) — ім дадзена было, загадана самім лёсам, выпрабаваннямі, творчым абавязкам споўніць гэта. І яны, здзяйсняючы сваё пакліканне, гранічна наблізіліся да разгадкі нейкіх, пэўна, касмічных працэсаў, трагічных момантаў збою, зруху ў вярчэнні нашай планеты людзей — яна, як на бяду, зноў і зноў, нібы сыходзячы са сваёй восі ці з арбіты, спрычыняецца да духоўных катаклізмаў, параджае маральных калек, пачвараў фашызму, як бы перад чарговым глабальным абледзяненнем або, крый Божа, вогненным самаспапяленнем...

Але ж і яны, трое падзвіжнікаў вогненнага летапісу ў сваёй вечнай кнізе ("Я — з вогненнай вёскі"), як і Антон Бялевіч у "Гарыні", Генадзь Бураўкін у "Гарачым снезе", Ніл Гілевіч у нізцы "Гарыць, гарыць мая Лагойшчына", Іван Пташнікаў у "Тартаку", той жа Алесь Адамовіч у "Хатынскай аповесці", дый аўтар гэтых радкоў у "Курганні" не маглі цалкам дайсці да трагізму светавыяўлення таго, што маглі б вынесці твае апаленыя вусны, Паэце. І ўсё ж Ты, забіты, спапялёны, стаў нашым навечна параненым сумленнем. На крытычнай мяжы гэтага свету з тым Ты ўведаў нешта для нас недасяжнае, такое, ад чаго наша людскасць стала б сапраўды празорай.

Таму Твой дух лятучы творцы бясконца кружыць над звуглелым светам родных людзей. Ён залятае ў перакалочаныя прывідамі мае сны, у маю сённяшнюю парушанасць, каб апалыя сілы пазбавіць ад немачы, а прыдушаны стан мой ад анямення, нематы. Бывае, чую, як з Табой растваряюся ў ігліцы і моху, у жвіры і дыме (я ж таксама ўжо быў патэнцыяльна — попелам!). І тады наплывае найгоршае: навокал ужо ані вясковых сцен і дахаў, ані мяне, а толькі прывідныя рухі, абвугленыя рукі нашых мацярок і дрэў, вось гэтых галін на бацькоўскім падворку.

Калі цяжка да безвыходнасці, гэта Ты быццам падаеш мне кубак зёлкавага напою. Ты сам яго прыгубіў, засмягла глынуў, ды напой той ужо ні Цябе, ні мяне не разбірае. Бачу: дзяды-прадзеды недзе глыбока пад каранямі дрэў, у пячорах, у скляпеннях вараць у вялізных саганах тыя зёлкі, лекавыя, гаючыя. Паранейшаму яны хочуць сваім напоем прыглушыць у нас пякельную смагу, жудасць штодзённага відовішча. Яшчэ не знала такога апраметная, каб з дня ў дзень, і год, і два, і тры за вёскай вёска правальваліся ў прадонне. Каб так згаралі і бясследна знікалі людзі, канулі ў невядомасць, пагвалчаныя, растаптаныя. Каб з родных хат, родных земляў сагнаныя жыхары разам з дрэвамі, марамі, адвечнымі надзеямі вось так акрутна сыходзілі ў свінцовыя, пахмурыя хвалі Сцікса, сплывалі ў зарыве з усёй Бацькаўшчынай на мёртвы бераг...

Самае найгарчэйшае, што я ў сваім парушэнні бачу: незваротна ўслед за крэўна-блізкімі па духу людзьмі па хвалях той жа падземна-мёртвай ракі плывуць два мае сыны, Леанід, Віталік... Яны ў хісткай лодцы. Э-гэй! Хто там цяпер у ролі перавозчыка? Як бы расплывістая постаць Эрына ці то нейкага новага фюрэра, што так нагадвае тых, ганебна заклятых...

...Эдуард трасе мяне за плячо, тыцкаючы з бутэлечкі свае таблеткі. Дрыготка адводжу яго руку.

Напой у мяне ёсць свой, з садавіны, уласнага гатунку. У паграбку. Лезу. З шыпеннем адкаркоўваю. На штыкецiне пазвоньвае на ветры тая ж пазелянелая бацькава конаўка, з адпалавіненай гільзы (сястра памятнай "Конаўкі" Максіма Танка!). Наліваю сабе, шклянку — сябру. Не чокаемся, як на памінках. Напой з родных карэнняў асвяжае, штось прасвятляе ўнутры, вяртаючы сілы, моц духу... Даруй нам, вогненны Паэце!

**Слонімшчына, Вецявічы**

ПАМЯЦЬ

# Вянок кахання

ШТАБУ ЗАХОДНЯЙ асобай ваеннай акругі, які размяшчаўся ў Мінску, пагражала небяспека палону. Марудзіць не прыходзілася. Не хапала яшчэ, каб у рукі ворага трапіла высокае камандаванне ды яшчэ з сакрэтнай дакументацыяй. Эскадрон аховы штаба прыспешваў начальства, якое і без таго разумела, што адлік часу ідзе на секунды.

Нарэшце прагучала каманда, і, набраўшы хуткасць, штабная калона панеслася на ўсход.

Перажываў страту горада і Леў Гінзбург, камандзір эскадрона аховы. Горыч адступлення, бясспрэчна, востра працінала кожнага — ад шарагоўца да генерала, гнулі долу іх галовы сорам і боль за здачу сваіх пазіцый. Не проста пазіцый — сваёй зямлі... Як жа гэта здарылася, што не мы, а фашыстоўцы б'юць нас "малой крывёю, магутным ударам"?

Пад бомбамі загінула ўся ягоная, Льва Гінзбурга, сям'я, а ён нават не мог выканаць апошні свой абавязак: пахаваць родных...

І ніяк ён не мог пазбавіцца аднаго назойлівага ўспаміну, як ні гнаў яго прэч. Дагэтуль не мог дараваць сабе таго спакою і задавальнення, што вымушана трымаў на сваім твары падчас колішняга сумеснага параду нашых і германскіх войскаў у Брэсце, хаця душа ўсяляк бунтавала супраць. Два гады прайшло, а згрызоты сумлення дастаюць і па сёння. Ды інакш ён не мог. Як дысцыплінаваны салдат, абавязаны быў падпарадкавацца начальству і без сумневу выказваць спагаду саюзнікам. І ніякіх спахмурнелых твараў! Воляю савецкага кіраўніцтва мы сталіся саюзнікамі.

Леў Мікалаевіч па тым часе папраўдзе радаваўся, што на чале кавалерыйскага эскадрона браў удзел у вызвольным паходзе ў Заходнюю Беларусь, але ніяк не чакаў, што будзе ўдзельнікам паказушнай дэманстрацыі "трываласці савецка-германскай дружбы".

За свае 36 гадоў давялося зазнаць усякага ліха вайсковай службы, у тым ліку баявое хрышчэнне ў дзвюх ваенных кампаніях: вызваленні беларускіх земель і крывавых схватках з фінамі ўзімку 1939—40 гадоў. Там, на Карэльскім перашыйку, ён ненадоўга разлучыўся з любімі яму конямі, але, на ягоную асалоду, тэрміналогія ў назове падраздзялення афіцыйна засталася кавалерыйскай: эскадрон лёгкіх лыжнікаў.

Галоўным жа шанцаваннем былі для яго, вядома ж, не граматычныя і не фармальныя экзерсісы штабістаў, а тое, што з гэтай параўнальна кароткай, аднак бязлітаснай бойні ён выйшаў цэлы, здаровы і пасля зноў трапіў у конніцу.

Зрэшты, чаму б і не парадавацца? Змалку ён быў неабыякавы да разумных і чуйных да ласкі жывёлін. Сын бедных бацькоў днямі круціўся каля балаголаў, дапамагаў ім і часцяком прыносіў дамоў нейкую капейчыну, зусім нелішнюю..

А там, пасля рэвалюцыі, падлеткам ужо прыбіўся да кавалерыйскай часці, размешчанай у Мінску, якая і вызначыла працавітаму хлапчуку, што дняваў і начаваў у палкавой стайні, быць выхаванцам, сынам палка. Наступная прыступка звалася "канавод", затым ён быў курсантам Аб'яднанай беларускай ваеннай школы. (Між іншым, пазней яе скончыў будучы Маршал Савецкага Саюза Іван Якубоўскі. Цяпер у аднаўленым будынку на сталічнай вуліцы Багдановіча адроджаныя старыя армейскія традыцыі: тут месціцца суvoраўская вучэльня).

У той час, як юнак Леў Гінзбург служыў канаводам, у далёкай Вінніцкай вобласці Украіны, у маленькім гарадку Гайсіне, у сям'і рабочага цукровага завода Івана Плахатнюка нарадзілася дачка. Іван Якаўлевіч з Соф'яй Аркадзьеўнай бязмежна любілі маленькую Ганначку. Невыпадкова: прыгажунька, не па гадах кемлівая, не па гадах працавітая. Вучоба давалася ёй без цяжкасцей. Паспяхова скончыла сямігодку, паступіла без экзаменаў, як школьная выдатніца, у Тульчынскі фельчарска-акушэрскі тэхнікум і скончыла яго таксама з аднымі выдатнымі адзнакамі.

Наперадзе — захапляючая будучыня: паступленне зноў жа без экзаменаў у медінстытут, дыплом урача... Мары, мары. Не заўсёды пэўныя, аднак жа з цвёрдай упэўненасцю ў жыццёвым шчасці. А да таго, як ехаць дадому, Ганна наважылася пагасцяваць у студэнткі-сяброўкі Веры Загараднюк, якая запрасіла яе ў сваю вёску на дзень-другі. "То добра, — згадзілася Ганна, — паедзем у тваю Кунку".

І ніхто не ведаў, не чакаў ліха, як наляцела, што вусцішная завіруха, вайна! Гітлераўцы ўварваліся ў вёску. "З першых жа дзён акупацыі, — згадвае ў сваіх нататках Ганна Плахатнюк, — яны пачалі свае чорныя справы... Партыйцаў расстралялі. Збіраліся і нас, камсамольцаў, таксама... Але потым, відаць, перадумалі: моладзь была патрэбна ім як танная рабочая сіла для рабскай працы... Праз няпоўны год у адну з чэрвеньскіх начэй гітлераўцы зрабілі аблаву на сонную вёску, і нас, вялікую групу моладзі, гвалтоўна звезлі ў таварных вагонах у Германію, у канцлагер, дзе я прамучылася тры гады, пабывала ў чатырох лагерах... разгружалі вагоны... Узімку працавалі напаўраспранутыя. Адна з дзяўчат выдала мяне і маю сяброўку майстру-фашыстоўцу, далажыла, што сяброўка — былая піянерважатая, а я камсамолка. І ён біў нас гумавай дубінкай, пакідаў пад аховай на марозе. Працавалі па 12-14 гадзін. Узнімалі нас а трэцяй гадзіне ночы. Давалі есці звараны шпінат з чэрвямі і лустачку хлеба, дзе было больш, як мукі, пілавіння..."

Вайна зблытала жыццёвыя пуцявіны мільёнаў, разарвала блізкія сувязі, знітавала выпадковымі, хаця іншы раз і трывалымі, вузельчыкамі далёкія лёсы, зусім незнаёмых зрабіла роднымі, а родных раскідала па ўсёй зямлі.

Менавіта гэтай блытаніне іншы раз і абавязаны былі сваім шчасцем людзі, зусім не падобныя адно да аднаго, няблізкія па месцы жыхарства, па чыне жыцця, па сацыяльным статусе...

Хіба магла думаць Ганна Плахатнюк пра штосьці светлае, калі гналі паланянак полем да горада пад пільнай аховай паліцыянтаў з сабакамі? Ад голаду муцілася ў галаве, і дзяўчаты крадком зрэдку зрывалі каласок-другі, каб неўпрыкметку з'есці. Гаспадар фермы раптам заўважыў калівы з абарванымі каласамі пры дарозе і наскардзіўся лагернаму начальству. Адразу ж не замарудзіла грозьба: адзін сарваны колас — смерць на месцы.

Яны падтрымлівалі адна адну, каб, крый Божа, не ўпасці ад бяссілля і безнадзейнасці. Часам верылася, што ўдасца выжыць, хаця дзяўчаты марнелі на вачах, мерлі з голаду і сухотаў.

Калі ўжо чутная сталася франтавая кананада, лагерныя верхаводы наважыліся адагнаць вязняў далей на захад. 28 студзеня 1945 года ў пяць раніцы ахова на чале з камендантам павыганяла дарослых і дзяцей з баракаў на мароз і ледзь не подбегам пагнала іх у заходнім накірунку. Хутчэй за ўсё гітлераўцы меркавалі знішчыць усіх, як зрабілі гэта надоечы з палоннымі чырвонаармейцамі.

Ды не ўдалося. Калона наскочыла на нашы перадавыя часці, ахова, кінуўшы заложнікаў, часткова прарвалася да сваіх, часткова была знішчаная.

Ганне давялося шмат перажыць, пакуль, паматляўшыся па зборных пунктах, медсанчасцях, камендатурах, яна, нарэшце, не прыбыла на зборны пункт у Гляйвіц, памежны польскі горад. Тут яе афармілі медсястрой у медычную ўстанову той часці, дзе начальнікам штаба быў Леў Гінзбург.

Неяк зайшла яна ў штаб за пропускам у горад. Пропуск Ганна, вядома, атрымала. Праўда, не адно пропуск, а і доўгі ўважлівы позірк начальніка штаба, які суправодзіў яе да выхаду. Сустрэча аказалася вырашальнай.

Ягоны шлях да гэтай сустрэчы пасля адыходу з Мінска прайшоў праз усю Вялікую Айчынную, на якой ён атрымаў колькі раненняў, у тым ліку цяжкіх. Адно ледзь не скончылася ампутацыяй нагі. На ягонае шчасце, паступіла, як лічылі вайскоўцы, распараджэнне Вярхоўнага, каб урачы, як мага, захоўвалі параненым рукі-ногі: фронт, як ненажэрная пачвара, патрабаваў жывой сілы. Такім чынам, бравы ваяр дабіўся пераводу з прыфрантавога ў адзін з маскоўскіх шпіталяў, дзе і дапамаглі яму цвёрда стаць на ногі. Будучы на лячэнні, ён не траціў часу дарма, наведваў Вышэйшую кавалерыйскую вучэльню. Там адначасова з павышэннем ваеннай кваліфікацыі ён, па запрашэнні мясцовага камандавання, выкладаў тапаграфію.

І вось доўгачаканае "дабро" на перадавую. У адным з кавалерыйскіх батальёнаў, якімі давялося яму камандаваць, большасць коннікаў была з казакоў. Камандзір ведаў, што яны вернікі, праваслаўныя, бо насілі пад гімнасцёркамі крыжыкі. Беспартыйны ў той час Леў Мікалаевіч рэагаваў на гэта моўчкі. Затое адзін з палітрукоў не змоўчаў і далажыў у штаб палка пра парушэнне, на ягоную думку, вайсковага статута.

Гінзбургу абышлося гэта дорага: яго прызначылі камандзірам штрафнога батальёна. Перад штрафнікамі была пастаўлена незвычайная задача: літаральна грудзьмі прабіваць смяротныя варожыя заслоны. Страты былі, вядома ж, страшэнныя: ад васьмідзесяці працэнтаў асабовага складу аж да поўнага вынішчэння. Батальёну, апроч таго, яшчэ было загадана штоноч здабываць у тыле ворага "языкоў", каб даведацца пра намеры германскага камандавання. Гэтыя вылазкі за кароткі тэрмін скончыліся пагібеллю батальёна. У жывых засталіся нейкім дзівам двое: сам камбат і адзін з байцоў.

...Апалу з камандзіра знялі. Але фронт ёсць фронт, тут у кожнага свой шанц. Альбо ты пакуль жывы, альбо... Гінзбургу і пашанцавала, і не. Ужо на чужой тэрыторыі, хоць і не загінуў, але атрымаў цяжкае раненне ў галаву — амаль страціў зрок. Неяк выкараскаўся. На пазіцыі параненага небараку ўжо не паслалі. Прызначылі начальнікам штаба часці, што абараняла, карміла, лячыла былых вязняў канцлагераў на зборным пункце 118, што знаходзіўся ва ўжо вядомым чытачу Гляйвіцы.

...Пасля таго, як капітан праводзіў любую паланянку Ганну на радзіму, ва Украіну і ўзяў з яе слова, што выйдзе за яго, Леў Мікалаевіч не чакаў, што момант сустрэчы надыдзе гэтак няхутка. Зборны пункт расфарміравалі, капітана паставілі ваенным камендантам нямецкага горада Яўэра, а потым на такую ж пасаду ў варшаўскім гарнізоне. Усе ягоныя рапарты аб пераводзе на



радзіму "губляліся", і толькі пад канец 1946-га іх, нарэшце, задаволілі.

Пасля прыезду ў Мінск, не думаючы пра адпачынак, ён пайшоў у сталічную міліцыю і стаўся арганізатарам яе коннага эскадрона (потым дывізіёна кавалерыі, яшчэ пазней, калі коннікаў матарызавалі, — мотадывізіёна).

Мала хто з жыхароў тагачаснай беларускай сталіцы не ведаў рыжавусага капітана з ягонымі кавалерыстамі. Гэта была своеасаблівая мінская адметнасць. Што ўжо казаць пра нас, падшыванцаў, аматараў футбольных баталій. Мы па беднасці, а хто па ліхацтве, хадзілі на матчы галоўнай беларускай каманды без білетаў. І амаль заўсёды нам удавалася атрымаць абедзве асалоды: збегчы ад міліцыянтаў, што сталі ў ачапленні вакол стадыёна, і пабачыць гульню.

Лафа скончылася пасля з'яўлення ў Мінску эскадрона коннай міліцыі. Нават хвілінны позірк на капітанскія вусы "а ля кайзер Вільгельм" поўніў нас дрыжыкамі. Вусы надавалі ягонаму твару раз'юшанасць, а ліхі конь вокамгненна дастаўляў яго да месца "злачынства". Карацей, бравыя міліцэйскія коннікі значна павялічылі паступленне грошай у касы стадыёна.

— Пацаны! Шухер! На гарызонце рыжавусы! — разам са свістам разносілася па наваколлі, і таго было дастаткова, каб шматлікія групкі мінскай шпаны адкочваліся ад лазаў пад дашчанай тыльнай агароджай пасляваеннага стадыёна "Дынама", які будаваўся на месцы старога.

Ужо тады вусы капітана падаліся мне чамусь не столькі рыжымі, колькі ружаватымі, а ўсе мы, прынамсі, "камароўскія адорвы", пры бліжэйшым знаёмстве з капітанам здагадваліся, што не такі ўжо ён люты, якім хочуць выдаць ягоны калючы пагляд і літыя бронзавыя вусы. А што строгі — так, несумненна.

Шмат пазней даведаўся я ад Ганны Іванаўны, што нямала былых злачынцаў, якія не проста злавалі на капітана, а і тройчы намерваліся яго "замачыць", потым дзякавалі яму за добрае сэрца, адзін жа з іх пасыноўску даглядаў яго падчас смяротнай хваробы, ужо не капітана, а падпалкоўніка ў адстаўцы.

Шмат хто са злачынцаў, не без цяжкасцей, пад пастаянным апекаваннем Льва Мікалаевіча адыходзілі ад крымінальшчыны, стваралі сем'і і дзецям перадавалі сваю павагу да вусатага. Бо які строгі ні бываў Гінзбург, ніколі не быў жорсткі, люты помслівы. Быў справядлівы. Гэта адзначаюць былыя калегі. Пра гэта напісана ў рамане "За секунду до выстрела" Мікалая Чаргінца — прататыпам вобраза Гарчакова ў кнізе стаўся Леў Гінзбург.

Падманліва суровы твар гэтага міліцыянта не адпавядаў сапраўднай натуры. Ягоная знешнасць была даспадобы не адно жонцы. Пачуўшы знаёмы чаканы крок, суседкі любілі назіраць праз вокны прыгожую выпраўку, прыродную грацыю афіцэра. Не сказаць, каб ён быў высокі. Хутчэй складны. Плячысты, каржакаваты, спружыністы. Прамая пастаць і ганарлівая пасадка галавы. Густая шчэць гусарскіх вусаў прыхарошвала мужны твар. Упэўненая хада здавалася ледзь прыўзнятым над зямлёй палётам. І як казалі жартам паплечнікі, кавалерыя была яму да твару. Нельга не адзначыць, што ягоны выгляд годна падкрэслівала выключная акуратнасць формы, што цалкам было заслугай жонкі Ганны Іванаўны.

Яны былі прыгожай парай, любілі тэатры, іншыя відовішчы, дасціпнае слоўка. Наладжвалі вясёлыя застоллі, вырасцілі двух выдатных сыноў, кахалі і бязмежна верылі адно аднаму. Ганна Іванаўна і сёння па-трапяткому шануе памяць пра мужа.

У далёкія шчаслівыя гады сумеснага жыцця яна з сяброўкай адпачывала на Волзе ў левітанаўскіх мясцінах, дзе ў яе закахаўся вядомы мастак. Праз год, даведаўшыся пра скон Льва Гінзбурга, ён неаднойчы прасіў яе рукі і сэрца. Яна, тонкая, абаяльная жанчына, не магла, не мусіла прамаўчаць і напісала яму вялікі ліст з такімі словамі: "...калі я адчула, што ўжо нічым не здолею яму памагчы... страшэнна крычала... не я крычала, а, здавалася, крычыць мая душа, маё сэрца і, здавалася, яно не вытрывае таго вялікага болю і жудаснай тугі (пішу гэтыя радкі, а сама горка плачу). Ён мяне кахаў... да апошніх дзён жыцця... казаў: "я буду і ў труне цябе кахаць". Я і цяпер даю поўную волю маім пачуццям, маім слязам, майму, цяпер ужо хвораму, сэрцу..."

Гэтая ветлівая адмова вартая таго, каб яе цытаваць як сімвал жаночай адданасці.

Яна гаворыць пра яго, як пра жывога. Яна жыве ім, размаўляе з ім, думае пра яго. На старонках яе нататак, якія я назваў бы Летапісам кахання, ён паўстае чалавекам-легендай. У яе двухпакаёўцы ёсць столік з двума партрэтамі — ягоны і ейны, — заўсёды ў вянку кветак...

**Раальд ЛЕВІН**

*На здымках: Леў і Ганна, 1949 г.; Камандзір коннага эскадрона Мінскай міліцыі Леў Гінзбург, 1956 г.*

## Мовазнаўства — яго абсягі

БРАНІСЛАВУ ПЛОТНІКАВУ — 60

**Імя доктара філалагічных навук прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Браніслава Плотнікава займае ганаровае месца ў плеядзе аўтарытэтнейшых вучоных-моваведаў краіны.**

**Нарадзіўся Браніслаў Аляксандравіч Плотнікаў 15 снежня 1940 года ў г. Быхаве ў сям'і рабочых. Бацька загінуў у 1944 годзе на фронце, а праз год памерла маці. Выхоўваўся ў Грудзінаўскім дзіцячым доме Быхаўскага раёна. Пасля заканчэння 9-га класа вучыўся ў рамесным вучылішчы**



**г. Асбеста Свярдлоўскай вобласці (Расія). Затым працаваў машыністам электравоза, служыў у арміі, вучыўся ў вячэрняй школе. Марыў стаць журналістам, але лёс склаўся так, што ў 1964 годзе, атрымаўшы атэстат сталасці, паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, які закончыў з адзнакай, выявіўшы выключныя даследчыя здольнасці па мове. Вось чаму быў рэкамендаваны ў аспірантуру па кафедры агульнага і славянскага мовазнаўства, а ў 1971 годзе датэрмінова абараніў кандыдацкую дысертацыю, стажыраваўся на працягу года ў Карлавым універсітэце (Прага). Пасля працаваў на гэтай жа кафедры выкладчыкам, старшым выкладчыкам, дацэнтам. У 1981 годзе абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Даследаванне лексічнага значэння шляхам квантытатыўнага аналізу дыстрыбутыўных уласцівасцей слова". Праз два гады яму прысвоілі вучонае званне прафесара.**

**Браніслаў Аляксандравіч — чалавек энцыклапедычных ведаў і самага шырокага кругагляду. Незвычайна рознабаковы спектр яго навуковых інтарэсаў, дамінантнымі, аднак, сярод іх — праблемы агульнага мовазнаўства, славістыкі і беларусістыкі. Вялікую цікавасць у спецыялістаў выклікала першая манаграфія Б. Плотнікава "Дистрибутиво-статистический анализ лексических значений" (1979), у якой разгледжаны сучасныя метады даследавання лексічнай семантыкі, а таксама праблемы вывучэння сінаніміі, антаніміі, полісеміі з прымяненнем дакладных матэматычных метадаў. Звяртае на сябе ўвагу кніга "Основы семасиологии" (1984), дзе дадзены аналіз асноўных канцэпцый і аспектаў значэння, выяўлены асаблівасці семантыкі розных моўных адзінак, раскрыта прырода такіх з'яў, як полісемія, аманімія, унутраная форма слова, апісваюцца найбольш распаўсюджаныя метады даследавання семантыкі. Навізной і арыгінальнасцю вызначаецца кніга "О форме и содержании в языке" (1989), у якой упершыню ў айчынным мовазнаўстве ўсебакова асветлены пытанні суадносін формы і зместу на фанетычным, графічным, граматычным і лексічным узроўнях мовы.**

**Беларуская мова і яе сувязь з іншымі славянскімі мовамі — яшчэ адзін аспект навуковых пошукаў Браніслава Аляксандравіча. У айчынных і замежных выданнях ён апублікаваў шэраг прац, даследуючы розныя аспекты гэтай тэмы; "Статыстычныя даследаванні мовы ў Беларусі" (1975), "Однокоренная лексика болгарского и белорусского языков" (1976), "Нацыянальна-культурныя спектры беларускай безэквівалентнай лексікі" (1999) і інш.**

**На творчым рахунку вучонага каля двухсот прац, у тым ліку 20 асобных выданняў.**

**Ён аўтар падручнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ, сярод якіх "Основы семасиологии" (1984), "Общее языкознание. Семинарий" (1986), "Семиотика текста. Парафемика" (1992), "Агульнае мовазнаўства" (1994), "Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў" (1999), "Фанетыка і марфалогія беларускай мовы" (2000); сааўтарам дапаможнікаў: "Введение в специальность" (1977), "Общее языкознание" (1983), "Чешский язык" (1985), навуковых манаграфій, слоўнікаў, праграм, даведнікаў: "Библиографический указатель по славянскому и общему языкознанию" (1984), "Русско-чешский и чешско-русский словарь общегеографических терминов" (1985), "Дихотомическая лексикология" (1989), "Персональность и персона" (1999) і інш.**

**Зараз Б. Плотнікаў чытае лекцыі ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, мае добры дзесятак выхаванцаў — кандыдатаў навук, якія паспяхова і творча працуюць у розных ВНУ нашай краіны і далёка за яе межамі. Грамадская дзейнасць Браніслава Аляксандравіча цесна лучыцца з навукова-педагагічнай: ён старшыня Экспертнага савета па лінгвістычных дысцыплінах ВАК Рэспублікі Беларусь, член некалькіх спецыялізаваных саветаў па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый.**

**У сувязі з 60-годдзем ад імя калег, сяброў і шматлікіх вучняў хочацца пажадаць яму, чалавеку шчодрай і высакароднай душы, рэдкай абаяльнасці і сціпласці, яшчэ многіх гадоў плённай працы на ніве навукі, асветы і культуры.**

**Наталля ЗУБОЎСКАЯ,**
**дацэнт Белдзяржуніверсітэта**

ПЕРАКЛАДЫ

# Спалучаны з Беларуссю

*Усё, што дагэтуль гаварылася пра сувязь польскай паэзіі XX стагоддзя з Беларуссю, было звязана з ёю непасрэдна. Цяпер жа пра тое, што сёння не можа лічыцца спалучаным у польскай паэзіі з Беларуссю напрамкі. Ды — будзем аб'ектыўнымі — гэтае сёння, а дакладней — перыяд з 1940 года, калі правадырскай воляй Іосіфа Сталіна Вільня была перададзена Літве, гэтае сёння зусім не выключае прамых сувязяў з польскай літаратурай, якія да 1940 года існавалі, ішлі цераз Вільню. Існавалі да рэвалюцый 1917 года. Існавалі да 1939 года, калі Вільня была цэнтрам заходнебеларускай літаратуры. Увогуле, Вільня для беларусаў — легенда, пачатая "Нашай Нівай" 1906—1915 гадоў, прадоўжаная "Нашай Нівай" нашага часу, якую выдае моладзь 90-х гадоў на чале з Сяргеем Дубаўцом.*

*Але вернемся на пачатак стагоддзя, калі Вільня роўна была культурным асяродкам і для палякаў, і для беларусаў, і для летувісаў. З 1909 года жыла ў Вільні Ванда Станіслаўская, якая тут жа, у Вільні, у 1910 годзе выдала зборнік вершаў "Жыраўцы". З яго верш "З уражанняў" прысвечаны Фердынанду Рушчыцу — мастаку родам з Валожыншчыны.*

*З Вільні паходзіла і Ядвіга Тарнава-Чапліцкая, у Вільні ж яна выдала ў 1912 годзе зборнік вершаў "Звялыя кветкі". І калі вершы Ванды Станіслаўскай былі блізкія беларускай дэмакратычнай паэзіі пра мужыка, то Ядвіга Тарнава-Чапліцкая відавочна больш імкнулася да той паэзіі, якую называлі эстэцкай, упадніцкай, а сёння, па вершы "Сонныя ружы", выразна бачна яе пераклічка з паэтыкай "Вянка" Максіма Багдановіча.*

*З Вільні быў Ежы Янкоўскі (1887—1941). Аб ім, як аб першым польскім паэце-футурысце, неаднойчы ў сваіх "Лістках календара" гаварыў Максім Танк. Рапсодыя Янкоўскага "Смерць пілота", напісаная ў 1914 годзе, несумненна паўплывала на ўсю польскую паэзію міжваеннага часу.*

*Родам з Вільні была і такая выдатная паэтэса, як Казіміра Ілакевіч (1892—1983). Менш вядомы за яе быў Тэадор Буйніцкі (1907—1944). Казіміра Ілакевіч была асабістым сакратаром Юзафа Пілсудскага, пра яго — ураджэнца паўночнай Беларусі — пісала паэмы. Віленчук Тэадор Буйніцкі прысвячаў свае вершы "Таварышу Пазнякову" — бальшавіцкаму палітруку. Тэадор Буйніцкі быў забіты ў 1944 годзе байцамі з Арміі Краёвай. Казіміра Ілакевіч у пасляваенным часе — адна з самых слынных польскіх паэтэс. Беларускіх жа вобразаў і матываў было больш у яе ў даваенны час ("Ліцьвінскі салоўка", "Русалкі"). Асабліва моцна паэтэса перажывала за народ пушчанскі пасля Рыжскага дагавора 1921 года:*

***Грызуць праклёны і малітвы яны моўчкі...***
***За іх жа, за мяне, Літвы салоўча, —***
***За нас спявай, граніцай пашарпаных...***

*Гэтыя радкі стаяць, думаецца, упоравень з публіцыстычнымі радкамі Якуба Коласа "Нас падзялілі, хто, чужаніцы, цёмных дарог махляры...".*

*Вядома, Казіміру Ілакевіч, Тэадора Буйніцкага раз'ядноўвалі розныя палітычныя арыенціры, тым не менш Вільня-Радзіма мела іх пад сваёй страхой, як пад сваю страху яна ўзяла ў свой час і надзвычай імпрэсіяністычнага, імажынісцкага паэта Канстанты Ільдэфонса Галчынскага. Варшавяк, у Вільні ён жыў у 1934 — 1936 гадах, і віленскія, у тым ліку і беларуска-віленскія вобразы і матывы, у яго лірыцы не маглі не з'явіцца.*

*У Вільні ва універсітэце Стэфана Батуры вучыўся і ўраджэнец Загосціна, што на Дзісеншчыне, Ян Гушча (1917—1986) — адзін з дзеячаў так званай другой польскай авангарды — віленскіх "Жагараў". Ян Гушча найшчыльней звязаў сябе з беларускай паэзіяй, у сваіх перакладах выдаўшы аднатомнік Максіма Багдановіча (Лодзь, 1973). Перад гэтым — у 1971 годзе ў той жа Лодзі — Ян Гушча стаў адным з асноўных перакладчыкаў у "Анталогіі сучаснай беларускай паэзіі" і ўвогуле ініцыіраваў гэта выданне. Беларускія вобразы і матывы насычалі паэзію і прозу Яна Гушчы на працягу ўсяго яго творчага шляху.*

*Непадалёку ад Вільні — у вёсцы Зялёная — у 1921 годзе нарадзіўся выдатны сучасны польскі паэт Тымафеюш Карповіч, лірычны пачатак у творчасці якога спалучаны з ironіяй, гумарам, сатырай. Родам з Вільні і Аляксандр Рымкевіч — таксама ўдзельнік літаб'яднання "Жагары", а другі Рымкевіч — Яраслаў Марак (народжаны ў Варшаве ў 1933 годзе) — вядомы сёння сваімі манаграфіямі пра Адама Міцкевіча і таксама тым, што ў сваёй паэзіі не цураецца літоўска-беларускіх сюжэтаў.*

*З ранніх заўчасных страт польскай паэзіі XX стагоддзя — Славамір Варатыньскі (1942—1983). Ён нарадзіўся ў Новай Вілейцы, так што і яго можна лічыць віленчуком. Лічыўся самай цікавай творчай індывідуальнасцю польскамоўнай дыяспары ў паваеннай Літве. За некалькі год перад самазабойствам пераехаў у Польшчу. Пасмяротна выйшла кніга вершаў "Кантрасты і аналогіі" (1990).*

*Сённяшняя наймалодшая з польскіх паэтэс родам з Вільні — Аліса Лясота (1962 года нараджэння). Яе вершы пра Вільню вяртаюць нас і ў той час, калі кантакты польскай і беларускай паэзіі ішлі цераз Вільню напрамкі.*

**Алег ЛОЙКА**

Казіміра ІЛАКЕВІЧ

## Ліцьвінскі салоўка

***Салоўка там між голля, бы ў дзяцінстве,***
***у пушчы наднямонскай ці наддзвінскай,***
***пад ім — ляшчыннік, бэз або язьмін***
***так, як заўжды, таксамы прыпамін.***

***Лісток, другі, ўміг закалышуцца без ветру:***
***птах узляцеў або прысеў у нетры.***
***Кропля расінкі мокры дол кране...***
***...Салоўка на паўслове сціх,***
***спеў напалову тне.***

***Спявай жа далей, пташа,***
***мне спявай, малю:***
***тваю я песню паўтару, ні слова не зманю,***
***перапішу на ліст начыста***
***пытальнай, сплаканай, пярлістай.***

***І з цмантаром забытым***
***слова маё здружыць:***
***як там крыжы пападалі, здзічэлі ружы;***
***з лужком блакітным,***
***з кладкай у лес-начлег,***
***з хлапчынай светлачубым,***
***што праз лён квяцісты бег.***

***З ільном, што, церабёны,***
***абярнуўся ў ніткі***
***на палатно хаўтурнае***
***і маладым на світкі...***
***з калыскай-люлькай,***
***з мураванкай маляванай,***
***з палынам горкім і з крываўнікам,***
***што гоіць раны.***

***Спявай жа далей, штораз за ўсіх тых, хто***
***пецъ не ў змозе***
***і сум каторых давіць у дарозе-недарозе, —***
***з пушч павыходзілі — народ пушчанскі —***
***непрызвычаеныя ў службе яснепаньскай.***

***Грызуць праклёны і малітвы яны моўчкі...***
***За іх жа, за мяне, Літвы салоўча, —***
***За нас спявай, граніцай пашарпаных...***
***За нас, за нашы сэрцы,***
***салавейка наш каханы.***

## Русалкі

***Ціхшу зялёнай, голуба ціхшу***
***сплёты залеглі галля, карнявішчаў***
***над верным долам, спрадвечным днішчам.***

***Выпасажаліся ў немых крамёнах...***
***Сёння — русалкамі ў лузе зялёным,***
***спеўныя, псотныя, як і ў час Боны...***

***Гучна смяюцца прыўкрасныя вусны,***
***сочаць вачыма, поўнымі пусткі,***
***імглу валочаць... Мёртвыя хусткі.***

Тэадор БУЙНІЦКІ

●

***Айчына мая, ЛІТВА.***
***З жарам у сэрцы і проста***
***пацера нашага слова мярэжу.***
***Зямля пустая валошкаў, асоту і хвошчаў,***
***белых касцёлаў на плоскіх узбярэжжах,***
***смутнага неба, шырокай імглы,***
***вазёр, што шумяць трысцём.***

***ЛІТВА. Сухімі, горкімі вуснамі,***
***якім не стае веры і надзеі,***
***шапчу і клічу імя тваё, назву,***
***а над тапольмі вецер глыбокі вее***
***і кляскае лісцем пананахіленых дрэў.***

***Шляхамі галоднымі, на касагоры,***
***дзе хаты, бы труны, гнілыя, як пан,***
***статак вяртаецца, як па-за горам,***
***а сонца вялізнае, быццам чырвоны збан,***
***на хмары густыя жывую кроў лье.***

***ЛІТВА. Айчына непагод упартых,***
***вятрамі падзёртая, як клок,***
***сталеццямі крыўджаная і багамі,***
***вырві мячы з похваў аблок, —***
***градам сыпані, хлюсні, патокам бяжы,***
***дай нам пафасу, у вусны агню ўлажы!***

***Ціша!***

К. І. ГАЛЧЫНЬСКІ

## Ноч у Вільні

***У сэрцы — любоў, а ў паветры — жальба.***
***Вецер трашчыць у стрывожаных дрэвах.***
***А гэтае ўлева —***
***то як бы тыфозны вар'ят,***
***якому маячыцца***
***вось гэтая Вільня з улевай***

***ды з такімі на Віленцы мастакамі,***
***дзе самагубства —***
***гэта толькі рамантычнасць, —***
***з дрожкамі, што плывуць***
***у імглістасць,***
***з піўнымі, дзе п'юць жандары.***

***З плакатаў урад да пазыкі заклікае.***
***У балаголаў — мардабой на закуску.***
***Тут жа Віленка — рэчка сварлівая,***
***малая —***
***захліпаецца чорна, цёмна, па-беларуску...***

Ян ГУШЧА

## Сыракомля

***Зазімкам ранні́м, дзесь між ліпаў,***
***дзе шлях паўзе праз плойму лужын,***
***а гліна на калёсы ліпне,***
***не вельмі смутак-сум адужаць.***

***Часцей, чым досціп, скаргі голас***
***трымцеў у строфах знакамітых.***
***Вецер, што сек ягоны волас,***
***спіць, мо ў матках суровых нітак.***

## Шавец з Вільні

***Ані цвіка ў чаравіках,***
***таму я сюды прычыльгікаў.***

***Мовіма некалькі словак,***
***знаю, пра што будзе мова.***

***У дыме, іржы ўзгадкі гэты,***
***вернемся як у тыя леты?***

***Прыпамінаем знаёмых,***
***вулак рып, нібы паромаў.***

***Белая пекнасць барока***
***пырхае раптам з аблокаў.***

***Бляск Трох Крыжоў бліжай, бліжай,***
***сквер з маладосцю, як выжал...***

***Ды шыб рэальніцца цемень,***
***выйду, не стукнуцца б цкмем.***

***Спяць хай Антокаль і Трокі..***
***З дальняй вярнуся эпохі.***

Мікалайкі—Лодзь, чэрвень 1956

Ванда СТАНІСЛАЎСКАЯ

## З уражанняў

Фердынанду РУШЧЫЦУ

***О, места!***
***Блудзячы ў завулках тваіх цесных,***
***Да камяніц старых, святыняў***
***поўнай піетэту,***
***Паклон я аддаю заклятаму ў іх свету***
***Ціхай, з глыбінь душы калісь бруіўшай***
***песняй.***

***Спіш... Рукі ясныя ноч падае,***
***як індульгенцыі,***
***Блакітная ноч з поўняй... О, Радзіма,***
***Такую ж калісь ноч я бачыла***
***над думным Рымам,***
***Такую ж —***
***па-над сонечнай Фларэнцыяй.***

***Па вуліцах прыспаных***
***я блукаю, мару,***
***І бачу ўжо тваіх язычнікаў алтары,***
***Капланаў відмы, чараўніцаў чары,***

*Сын Сфорцы ў вочы пекныя*
*глядзіць Барбары...*
*Падзеі змерклыя твае жыўлю*
*са смутнага паўсмеху...*
*Крокі самотныя шкляным*
*дыгочуць рэхам.*

Ядвіга ТАРНАВА-ЧАПЛІЦКАЯ

## Сонныя ружы

*У келіху крыштальным дрэмлюць*
*сонна ружы,*
*на шыбах тчэ мароз*
*крыштальныя узоры,*
*у бляску поўні марыць*
*стэп шырокі... белазоры...*
*У келіху крыштальным*
*дрэмлюць сонна ружы...*

*З маркоты снегавой,*
*што пурпур мрояў кружыць,*
*спеў будзіцца лябежы, нібы ўжо знямелы,*
*ды ў ноч зімовую плыве ціхма, нясмелы...*
*У келіху крыштальным*
*дрэмлюць сонна ружы...*

Тымафеюш КАРПОВІЧ

## Лекцыя цішы

*Калі матыль*
*завельмі гвалтоўна*
*часам складваў скрыдлы —*
*крычалі: прашу цішыні!*

*І ледзь-ледзь пёрыйка*
*сполоханай птушкі*
*зачапілася за прамень —*
*крычалі: прашу спакою!*

*Так вучылі*
*бесшалесна хадзіць*
*слана на бубне*
*чалавека па зямлі.*

*І ўставалі дрэвы*
*без шуму над полем*
*так як устаюць*
*валасы ад страху.*

## Карабін

*моўлю проста*
*ад сэрца ў мазгі*

*калі ззатнуся*
*выбіваю зубы прыкладам*

*маю галаву на тое*
*каб разумець руку*

*маю вока за сабою*
*і тое добра бачу*

Славамір ВАРАТЫНСКІ

## Ілюзія

*Гэта мо не Бальценікі?*
*Гэта мо боль і цень.*
*Ні з кім час не вяжа венікі,*
*А церні кожны дзень.*

*Прадзе суровымі ніткамі*
*На развітанне жэст.*
*Гэта мо не Бальценікі?*
*Марылін голас адно.*

*Якім апраменьваць німбам*
*Дарог прымусовых даль?*
*Гэта мо не Бальценікі,*
*Баллады, можа, баль.*

*Услаўляе не сцэньмі*
*Імя Міцкевіча дзень.*
*Гэта мо не Бальценікі,*
*Хоць гэта і боль, і цень.*

Аліна ЛЯСОТА

•

*Паланезам праз Вільню плысці,*
*Сум распаводкавіць*
*у нактурне Шапэна,*
*Пры Вострай Браме заплакаць Агінскім,*
*А пазней выпрысьнуць настроем мазуркі!*
*Манюшку разбудзіць*
*у яго "Страшным Двары",*
*Каляды ўваскрасіць з падхмарнай зоркай,*
*З "Ave Maria" сярод начной цішы...*
*Блакітнай стужкай апаясаць*
*Тры Крыжы,*
*Стаць запявалаю песні пра Вілію —*
*струмянёў прамаці*
*І з ёй слязой мелодыі чулай*
*Цераз Старое Места плысці.*

# Мікола СЕРГІЕВІЧ

На васьмідзесятым годзе жыцця памёр нарысіст, празаік і драматург, член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1957 года Мікалай Антонавіч Сергіевіч.

Мікола Сергіевіч нарадзіўся 3 верасня 1921 года ў вёсцы Залессе Салігорскага раёна. Пасля заканчэння школы вучыўся ў Мінскім хіміка-тэхналагічным тэхнікуме, затым у Аршанскім настаўніцкім інстытуце, які скончыў у 1939 годзе. Атрымаўшы дыплом, працаваў настаўнікам ў Глоданскай сямігадовай школе Лёзненскага раёна (1939—1941). Адначасова працягваў вучобу на факультэце мовы і літаратуры Магілёўскага педагагічнага інстытута (1941). У гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанскім сувязным, рэдактарам старобінскай падпольнай газеты "Савецкі патрыёт". Пасля вайны працаваў рэдактарам раённай газеты, у рэдакцыях рэспубліканскіх і саюзных газет, на старонках якіх выступаў з вострымі матэрыяламі аб жыцці і праблемах вёскі. У 1955—1959 гг. нават узначальваў адзін з калгасаў Салігорскага раёна, не пакідаючы пры гэтым творчай працы. У 1959—1981 гг. працягваў журналісцкую дзейнасць у часопісе "Народная асвета". Узнагароджваўся ордэнам Айчыннай вайны II ступені, медалямі і граматамі.

Выступіў у друку ўпершыню ў 1947 годзе. Аўтар кніг нарысаў "На роднай зямлі", "Нашы будні", "Вясковыя навіны", аповесці "Першая вясна", драматычных твораў "Райскія пеўні", "Спалох у вялікім доме", "Смех і... толькі".

Светлая памяць пра ўлюбёнага ў родны край пісьменніка — Мікалая Антонавіча Сергіевіча назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.



**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# "А праўда ўсё-такі жыве!"

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)

Вясной 1981-га, на сорак дзевятым годзе жыцця, Андрэй Германаў памёр ад інсульту. Ён пакінуў па сабе 25 кніг арыгінальнай паэзіі (па кнізе ў год) і столькі ж кніг паэтычных перакладаў. Апошні яго прыжыццёвы зборнік называўся "Самоубийствено живеем".

Не ведаю, не лічыў, колькі ў мяне за апошнія 30 гадоў было сустрэч з чытачамі бларускай паэзіі. Вядома ж, лік ідзе на сотні. І ні разу на такіх сустрэчах я не забываў прачытаць што-небудзь з Германава. Найчасцей — вось гэтае яго "рубаі" (ён аўтар трох кніг "Рубаі"):

*Нішто паклёпу не стрымае.*
*Ды праўда ўсё-такі жыве.*
*Паклёп душу мне раз'ядае.*
*Ды праўда ўсё-такі жыве.*
*Абрабаваны, апляваны,*
*я знедужэў і паміраю.*
*Але й паклёпнік мой канае!*
*А праўда ўсё-такі жыве!*

*1998*

### А тэма, на жаль, не старэе

Што для кампазітара адсутнасць арганічнага зрашчэння ягонай душы з нацыянальным меласам, адрыў яго творчых пошукаў ад ладавых і рытмічных асноў нацыянальнай музыкі, ад яе прыроднай стыхіі? Думаю, што пытанне не дыскусійнае. Выдатнымі творцамі ўсіх краін і народаў неаднойчы пацверджана, што шлях па-за ці па-над мацерыком родных гукаў — гэта шлях няплённы, шлях у нікуды, на гэтым шляху вялікай самабытнай музыкі не створыш, а толькі эпігонскую або фармалістычную.

Слухаю па радыё песню. Не чуў аб'яўлення — чыя, але не сумняваюся, што сучаснага рускага эстрадніка. Нічога ў ёй ад ладу і складу беларускага нацыянальнага меласу не ўлавіў — нічога! На маё здзіўленне, аказалася, што прагучала песня беларускага кампазітара. На рускі тэкст нейкага пастаўшчыка песеннага тавару. Кажуць, таленавіты музыка. Можа быць. Ды і напэўна так. Дык няўжо ён сам не адчувае, што ў яго песні нічога беларускага? Што ён такімі творамі не далучае сябе да музычнай культуры свайго народа? Не думаю, што не адчувае. І адчувае, і разумее. Але яго гэта ні трохі не бянтэжыць. А якая розніца — руская ці беларуская ладавыя асновы? — шчыра здзіўляецца ён.

Так, для яго — розніцы няма. І на які — беларускі ці рускі — верш пісаць мелодыю, таксама яму ўсё роўна. На рускі, можа, яшчэ і лепш: больш гарантый выбіцца з такой песняй у людзі, — і тут ухваляць і падтрымаюць паны-начальнікі, і ў Маскве могуць заўважыць, калі пашанцуе. А што нідзе ў свеце так не робіцца, што ў любой краіне кампазітар піша песні перш за ўсё і галоўным чынам на вершы сваіх нацыянальных паэтаў, — гэта нашага музыку зноў жа не бянтэжыць. Вядома, бяруцца там для песень (рамансаў) і творы паэтаў іншых народаў, але — перакладзеныя на родную мову кампазітара, г. зн. творы, якія ўжо сталі арганічнай часткай паэзіі яго краіны. Дарэчы, у сучаснай беларускай літаратуры — сотні і сотні паэтычных перакладаў, якія самі просяцца на музыку і маглі б стаць выдатнымі песнямі. Але хто іх, тыя пераклады, чытае? Хто чытае пераклады, калі і да арыгінальнай паэзіі рукі не даходзяць? Ды і навошта? Ёсць спрытныя і нястомныя пастаўшчыкі тэкстаў (текстов), яны і забяспечаць. Толькі паспявай класці на ноты!..

І так, музыку твораць: кампазітары, якія з маленства купаліся ў купелі беларускай мовы і дзякуючы гэтаму глядзяць на свет беларускімі вачыма і ўспрымаюць з'явы жыцця беларускім сэрцам (таму што і вочы і сэрца чалавека — у мове); і кампазітары, душа якіх або зусім не фарміравалася ў беларускім слове або пазней была асімілявана іншай моўнай стыхіяй, іншай духоўнасцю і ў значнай меры адарвалася ад родных каранёў і апынулася на раздарожжы. Вось чаму на розных музычных фестывалях гучаць песні **беларускія і беларускамоўныя** і апошнія нярэдка пераважаюць. Беларускамоўныя — гэта песні не зусім беларускія, з іх не выходзіць на прастор праўдзівая душа беларуса, і нават добры выканаўца справе дапамагчы не можа. Гэта, я сказаў бы, песні псеўдабеларускія, іх тэксты складзены з мёртвых блокаў тысячу раз абкатаных "лірычна-песенных" слоў і фраз, — блокаў, ажывіць і адухавіць якія музыцы не пад сілу. І натуральна, што гэтыя нібыта-песні ёсць эстрадныя аднадзёнкі, ці, можа, дакладней — аднаразоўкі.

Колькі дзесяткаў гадоў мінула, як у беларускім друку пачала весціся гаворка аб гэтым, а тэма, на жаль, так і не састарэла. Так і не хочуць некаторыя музыкі зразумець элементарную ісціну, што ад слова залежыць надзвычай шмат. Што ўжо ў самім вершы, які мае стаць песняй, закладзена зерне будучага музычнага вобраза і мелодыі — у яго рытме, у яго інтанацыі, у яго лексіцы, у яго фразеалогіі і сінтаксісе, у яго паэтычным вобразе. У самім нацыянальным духу верша. (Гаворка ідзе пра сапраўдны верш, пра твор паэзіі, а не пра мёртванароджаны сурагат, напісаны чалавекам, у актыўным запасе якога 250-300 беларускіх слоў). Толькі з такога "зерня" і вырасце сапраўды беларуская песня — з усімі адзнакамі нацыянальнай самабытнасці. Але знайсці, убачыць, распазнаць гэтае "зерне" ў беларускім вершы можна толькі беларускай душою. (Зусім не абавязкова пры гэтым, каб і кроў у сэрцы пульсавала беларуская, — зусім не абавязкова!). Значыць, пра душу павінен быць найпершы клопат, пра душу. Каму — якой зямлі, якому народу, якой культуры душа належыць? І якой мове? Сваёй роднай, той, што ёсць асновай нацыянальнай культуры, нацыянальнай духоўнасці, ці мове іншай краіны, іншага народа, у якога — і іншыя, свае ўласныя песні?

Архіважнага значэння — для мастака-творцы — праблема.

*1999*

### Значыць, уладзім "С помощью зонта"?

Неймаверна люблю слухаць па радыё і з тэлеэкрана песні розных народаў. І не толькі фальклорныя, хоць перавагу аддаю іменна ім, але і творы прафесійных аўтараў, пры ўмове, зразумела, што гучаць сапраўдныя лірычныя шэдэўры. Любоў гэта ў мяне яшчэ з дзіцячых гадоў, з ранняй маладосці. Праз усё жыццё было так: хлебам не кармі, а дай паслухаць добрую песню, — у таленавітым, вядома, выкананні. Гатоў слухаць бясконца. Іншы раз наўмысна шукаю-лаўлю ў эфіры хвалю з песнямі.

Не лічу сябе славянафілам, але на першым месцы ў маёй душы песні славянскіх народаў. Відаць, затое, што ўсё-такі з аднаго кораня ўзраслі, і хоць гучаць розна, а голас прапрабабкаўшчыны праступае, прарываецца, і тут ужо нідзе не дзенешся — прымаеш як сваё. Іменна гэтак жа горача і любасна, як свае родныя, прымаю да сэрца многія-многія песні рускія і ўкраінскія — тут лік мог бы ісці на сотні. А балгарскія народныя песні, асабліва з Радопаў і Пірынскага краю! Божа, які гэта цуд! Душа млее і да слёз зусім не далёка. А сербскія! — падлеглыя, гэтак жа як і балгарскія, уплыву арыентальскай мелодыкі. А славенскія! Славенцы пад туркамі ніколі не былі, затое больш за тысячу гадоў былі пад нямецка-аўстрыйскай каланізацыяй, у выніку чаго ў іх песнях ні знаку арыентальскага, усходняга, затое шмат ад музычнага фальклору цірольцаў. А якія прыгожыя, лірычна-пяшчотныя песні славакаў — народа, можа, найбольш блізкага нам, беларусам, па менталітэце (ёсць меркаванне, што яны перасяліліся на схілы Заходніх Карпатаў з нашага Палесся). А песні лужычан, ці лужыцкіх сербаў? Колькі ў іх чуецца водгаласу далёкай-далёкай славянскай старажытнасці! Іншы раз мне здаецца — нешта ад нашай беларускай дахрысціянскай музыкі. Ну а польскія, польскія песні! Пасля рускіх і ўкраінскіх — самыя распаўсюджаныя ў нас, у Беларусі, і гэтак жа — найбольш любімыя. Шматвекавая супольная гісторыя тут сваё слова сказала вельмі пэўна.

Ведаючы, які гэта неацэнны паэтычна-музычны скарб — славянскія песні, і якую радасць маглі б яны прыносіць беларускім аматарам музыкі, думаю: а чаму ж яны, апрача рускіх і ўкраінскіх, не гучаць ні па беларускім радыё, ні з беларускага тэлеэкрана? Чаму грамадзяне Беларусі пазбаўлены магчымасці хоць зрэдчас гэтыя дзівосныя мелодыі паслухаць? Ды ў нашым беларускім выкананні, з перакладам тэкстаў на беларускую мову. Ды з добрым расказам-каментаром дасведчанага музыказнаўцы-фальклорыста. Вось гэта і былі б праявы нашага славянскага брацтва. Але замест гэтага — з дня ў дзень, з месяца ў месяц слухаем песні пераважна аднаго славянскага народа. Не падлічваў, але, мабыць, адсоткаў 85-90 ад агульнай колькасці песень, што гучаць у беларускім эфіры. Падкрэсліваю: у беларускім. Прычым, ну добра, калі гучаць шэдэўры, фальклор і класіка, дасканалыя новыя песні. А калі амаль штодзень гучыць "легко уладить с помощью зонта"? Вось тут ужо робіцца сумна, халерачка. Бо перш за ўсё хочацца спытаць: на якой жа гэта, выбачайце, мове? Гэта — мова песні, мова паэзіі? Мова Пушкіна, Някрасава, Ясеніна? Пасрэдная "эстрадзінка", якіх тысячы, а гучыць непараўнана часцей, чым геніяльная "Спадчына" (Лучанок — Купала) ці геніяльная "Алеся" (Лучанок — Куляшоў). Нават у канцэртах па заяўках пастаянна прапануецца. Так і аб'яўляюць: 80-гадовая бабуля Домна Карпаўна з вёскі Зарэчча хоча, каб яе павіншавалі і такім чынам задаволілі яе духоўныя патрэбы "с помощью зонта". О Божа мой! — толькі і застаецца ўздыхнуць гаротна. Думаючы і пра бабулю, і пра беларускую песню, і пра лёс нашай культуры ўвогуле.

І калі ўжо яна, гэна Домна Карпаўна, захоча паслухаць песні ў выкананні вялікага, сусветна вядомага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага? Ну хоць бы раз у год, калі нельга болей. Дык не — дай ёй "уладить с помощью зонта", і ўсё тут!

Ай-яй-яй, Домна Карпаўна, Домна Карпаўна!

А некалі ж, як ты была малою дзяўчынкай... помніш?

*2000*

Васіль ЗУЁНАК



# Прыпасы для Пегаса

## З ЛІТАРАТУРНЫХ ДОСВЕДАЎ

### *Быў бум...*

**НАСТАЛЬГІЧНЫЯ СТРОФЫ ЛЯ КНІЖНАГА РАЗВАЛА**

*Які там час! — зусім нядаўна*
*Зганяў у чэргі кніжны бум*
*І тых, хто музам быў адданы,*
*І хто кадзіў вучоны тлум.*

*Але — рэкорд забойны самы —*
*У Кнігу Гінеса на ўлік:*
*Імчаўся й той да кніжнай крамы,*
*Хто ўжо й чытаць даўно адвык.*

*Рыхт па-Някрасаву: панеслі*
*З базара мудрасці тавар*
*І прыбіральшчыца, і цесля,*
*І сакратар, і залатар...*

*Талстой там... Гогаль...*
*Хай пыліцца —*
*Абы трывалы быў кардон,*
*Абы ўмяшчаўся на паліцу,*
*Абы шпалерам быў у тон...*

*Які быў час!.. Цяпер прылаўкі*
*Ў кнігарнях гнуцца ад тамоў,*
*Але — ні мітусні, ні даўкі,*
*Ні кніжных спрэчак, ні размоў...*

*І імпарт, і свайго гадунку —*
*Сюжэты выбіваюць клёк...*
*Гартаю фаліянт, а ў думках*
*Пусты лунае кашалёк.*

*Такія загінаюць кошты*
*Сучаснай маркі выдаўцы... —*
*А ты на хлеб ашчадзіш грош той,*
*Каб з кнігай не аддаць канцы...*

*І ўсё ж, няхай і дарагая —*
*Жывот падцягнеш і бярэш,*
*Не пэўны, хто перамагае:*
*Ці голад, ці лірычны верш...*

*Такі, прабачце, невылечны —*
*Памру без кніг і пры харчах:*
*Святло адключаць,*
*дык пры свечках*
*Чытаць гатовы па начах.*

*А кнігароў чарга крутая*
*Ў прадмаг скруцілася даўно:*
*Хто не чытаў, той не чытае, —*
*Глядзіць па тэліку кіно...*

### *Верш Фета*

*"Шепот, робкое дыханье..."*
*За радком радок —*
*Дзей і рухаў называнне:*
*Па аснове ўток.*

*Без падмогі дзеясловаў,*
*Як душа, жывеш*
*Ты, натхнёны, адмысловы,*
*Фета лёгкі верш.*

*З небам крэўна паяднаны*
*Звонкі лад вянкоў:*
*Нібы храм, адштукаваны*
*З дрэва — без цвікоў...*

### *Клопат...*

*Зблажэў? Ці часу ўлішкі,*
*Што так яго гублю?..*
*А сэнс? На лёсе кніжкі*
*Зацягваюць пятлю.*

*Да чытача не выйдзе:*
*Заказ ад гандляроў*
*Не паступіў... Як злыдзень*
*Бягу шукаць сяброў.*

*Крычу аб дапамозе.*
*А крык мой, як нямы,*
*Бо і ў сяброў — у бозе*
*Спачыўшыя тамы...*

*А потым спахапіўся:*
*Задыханы рыфмач,*
*За кніжачку ўчапіўся,*
*А чуеш — гнеўны плач?*

*"Хто там ідзе?.." — з Купалам*
*Пытаецца Дашук.*
*Народ? Ці прыжывала? —*
*Бо дужа ж гнецца ў крук...*

*Якія ўжо там кніжкі!..*
*Адно і ўздыме твар,*
*Як д'яблаў — без кілішка —*
*З бутэлькі п'е адвар...*

*Хай без тваіх накладаў*
*Спіць мірна выдавец, —*
*Не прагні кнігападу,*
*Пакрыўджаны тварэц...*

*Шукай мастоў — не броду,*
*Як жыць далей, скажы:*
*Дашук — пра смерць народа,*
*А ты... пра тыражы...*

### *Партрэт Аляксандра Блока*

**ПАВОДЛЕ ВЫЯЎ МАСТАКОЎ-СУЧАСНІКАЎ**

*Зношаны, юны стары:*
*Бездань — люстэрка Блока.*
*Холадам страсці гарыць*
*Лоб, як нябёсы, высокі.*

*Сам у сябе пагляд,*
*Атрутная здань пазнання,*
*Самаспалення чад*
*І вечнасці прадчуванне.*

### *Рыфма*

*Калі ноч грахі даруе,*
*Калі ў форме я,*
*То рыфмуецца і "Друя"*
*З "Каліфорніяй".*

*А калі дзень лезе сонна*
*Пад страху маю,*
*Дык тады "бясконца" й "сонца"*
*У рыфму не ўганю...*

●

*Лес мой мудры,*
*як Цютчаў*
*З вершам філасафічным:*
*Грані дум і пачуццяў —*
*З несмяротным абліччам.*

*І таму — не разгадвай,*
*Толькі вер, толькі слухай:*
*Лес бацькоўскім паглядам*
*Сее добрыя духі.*

*Лес агорне суцехай —*
*І лагодны, і строгі.*
*Тут нячысцікі — нехаць,*
*Але ўступяць дарогу.*

### *Тоўсты і тонкі*

**З ЖЫЦЦЯ ПРАЗАІКАЎ**

1

*Што значыць*
*Эпапею*
*Напісаць:*
*Чхнуць не паспее —*
*"Будзь здароў!" крычаць!..*

2

*Які тут плён!.. —*
*Хоць галава ссівела,*
*А ён —*
*Як маладзён:*
*Адны навелы...*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**19 снежня ў канцэртнай зале "Мінск" пройдзе прэзентацыя музычнага праекта, песні з якога надоўга зоймуць першыя радкі ў беларускім хіт-парадзе. Беларускія гурты, якія бралі ўдзел у леташнім калядным "Святым вечары", гэтым разам прадставяць праграму "Я нарадзіўся тут". Абодва праекты спансіраваў уласнік буціка "Каміла" Алесь Суша. Квіткі каштуюць ад 4 да 10 тысяч рублёў.**

**РАМПА**

У снежні ў Купалаўскім тэатры адбудуцца ажно два прэм'ерныя спектаклі. Адзін з іх "Ліза і браты" (альбо "Каварства і любоў" паводле вядомай п'есы Шылера), ужо прайшла на Малой сцэне. А пад самы Новы год, 29 і 30 снежня, плануецца "Чорная панна Нясвіжа" Аляксея Дударава. Рэжысёр-пастаноўшчык — мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Раеўскі. Працаваў над спектаклем ён у традыцыйным шматгадовым дуэце са сцэнографам Барысам Герлаванам. Трэба думаць, "Чорная панна" павінна стаць нечым падобным да дудараўскага ж "Князя Вітаўта". У Гродзенскім абласным тэатры яна ідзе з аншлагам.

А вось тэатр пластычнага гратэску "Жэст" толькі пачынае тэатральны сезон, прычым 20-ы па ліку. 17 снежня ў Тэатры юнага гледача будзе паказаны бута-спектакль "Ёлка У".

**Балет**

*16 і 17 снежня* — "Лебядзінае возера" Чайкоўскага
*20* — "Карміна Бурана" Орфа і "Кармэн-сюіта" Бізэ
*27, 29 і 31* — "Тры парасяці" Кібіравай

**Купалаўскі тэатр**

*15 снежня* — "Піраміда Хеопса"
*16* — "Таполевая завея"
*17* — "Паўлінка"
*18* — "Смак яблыка"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*17 снежня* — "Greve-Goeur (Разбітае сэрца)"
*18* — "Трыстан ды Ізольда"
*22* — "Крывавая Мэры"

**Тэатр імя Горкага**

*15 снежня* — "Вольны шлюб"
*16* — "Букееў і кампанія..."
*17* — "Улюбёнцы лёсу"
*21 і 22* — прэм'ера камедыі з доўгай вершаванай назвай, што пачынаецца з "Тата, тата..."
*24, 25, 26, 27 і 28* — для дзяцей "Навагодні баль у Папялушкі" Перо

**Музычны тэатр**

*3, 14 снежня* — "Прынцэса цырка" І. Кальман. Оперэта ў 3-х дзеях
*15* — "Цыганскі барон"
*17* — "Жызэль"
*20* — "Ноч у Венецыі"
*22 і 30* — "Даратэя"
*24* — "Вясёлая ўдава"
*26* — "Шклянка вады"
*28* — "Капялюш Напалеона"

**Тэатр кінаакцёра**

*15 снежня* — "Выспа нашага кахання і надзеі"
*16 і 17* — "Таленты і прыхільнікі"
*19, 20 і 21* — "Міленькі ты мой"
*22 і 23* — "Айседора. Танец кахання"

**Малы тэатр**

*17 і 23 снежня* — "Камедыя"
*19* — "ART"

**"Дзе-Я?"**

*21 і 22 снежня* — "Дзевяты праведнік"
*23, 28 і 29* — "Зачараваная прынцэса"
*24, 26 і 27* — "Чараўнік Батафога"

**Маладзёжны тэатр**

*16 і 17 снежня* — "Жаніцьба"
*20* — "...І зноў Рамэа і Джульета"
*21 і 22* — "Узнагарода жанчыне"
*24* — "Хітрыкі Скапэна"
*26 і 27* — "Прыйшоў мужчына да жанчыны"
*28* — "Брыдкае качаня"
*30* — прэм'ера "Хохлік"

**Зьніч**

*18 снежня* — "Маленькі анёлак"
*18* — "Не праклінай, што я люблю..."
*26* — новая праграма "Духоўная і свецкая музыка беларускіх і рускіх кампазітараў, шэдэўры сусветнай класікі" ў выкананні Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь

**Тэатр лялек**

*15, 20 і 21 снежня* — "Дом, што збудаваў Свіфт"
*17* — "Русалачка"
*23 і 24* — "Прывіды ў ноч на Раство"
*28* — "Вясёлы цырк"
*29* — "Чырвоная Шапачка"
*30* — "Кот у ботах"

**Оперны тэатр**

*17 снежня* — "Кармэн" Бізэ
*19* — "Князь Ігар" Барадзіна
*21* — "Травіята" Вердзі
*23* — "Дон Жуан" Моцарта
*24* — "Чарадзейная музыка" Мінкова
*26* — "Пітэр Пэн" Будзько (ранкам)
*26* — "Яўгеній Анегін" Чайкоўскага (увечары)
*28* — "Чароўная флейта" Моцарта
*30* — "Кот у ботах" Кюі (ранкам)
*30* — "Новы год у оперы" (святочная праграма зорак беларускай опернай сцэны)

**ПРАДЗЮСЕРСКІ ЦЭНТР "АЛЬФА-РАДЫЁ"**

*15 снежня* — "Чаравікі на тоўстай падэшве"
*17, 26 і 27* — снежаньская прэм'ера "Стрыптыз" па Мрожаку
*21, 22 і 23* — "Дотык"

**ЗАПРАШАЕМ!**

19 снежня ў 17-00 у Скарынаўскім цэнтры адбудзецца прэзентацыя кнігі Э. Ажэшкі "Выбранае". (Рэвалюцыйная, 15).

# Абітурыент журфака-2001

**ПАЛАЖЭННЕ**

**аб творчым конкурсе факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і рэдакцыі газеты «Чырвоная змена»**

Творчы конкурс праводзіцца з 1 верасня 2000 года па 30 мая 2001 года.

У конкурсе могуць прыняць удзел вучні выпускных (11-х) класаў сярэдніх школ, ліцэяў, гімназій рэспублікі, а таксама юнакі і дзяўчаты з сярэдняй адукацыяй, якія цікавяцца журналістыкай і збіраюцца паступаць на журфак у наступным — 2001 годзе.

**Творчы конкурс праводзіцца ў тры туры:**

І тур — верасень — лістапад (вынікі І тура падводзяцца ў снежні),

ІІ тур — снежань — люты (вынікі ІІ тура падводзяцца ў сакавіку),

ІІІ тур — сакавік — май (вынікі ІІІ тура падводзяцца ў чэрвені).

**Пры ацэнцы творчых работ удзельнікаў конкурсу ўлічваюцца:**

— раскрыццё прапанаванай тэмы на падставе аналізу духоўна-маральнага, сацыяльна-эканамічнага, палітычнага жыцця грамадства;

— сістэмнасць, паслядоўнасць, лагічнасць у выкладанні галоўнай думкі твора, наяўнасць аргументаваных высноў і абагульненняў;

— добрая мова твора, багаты слоўнікавы запас, стылістычнае адзінства, выразнасць і вобразнасць тэксту (адсутнасць моўных штампаў);

— арыгінальнасць, творчая індывідуальнасць, інтэлектуальны патэнцыял аўтара.

Пераможца творчага конкурсу вызначаецца спецыяльнай камісіяй факультэта журналістыкі і рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» па выніках творчых работ, выкананых па заданнях трох тураў конкурсу.

Пераможца творчага конкурсу факультэта журналістыкі БДУ і рэдакцыі газеты "Чырвоная змена" ўзнагароджваецца ганаровай граматай газеты і бібліятэчкай.

Галоўнай узнагародай для пераможцы конкурсу з'яўляецца льгота пры паступленні на факультэт журналістыкі БДУ ў 2001 годзе: за пісьмовы экзамен "Творчае сачыненне" (ацэньваецца дзвюма адзнакамі — за змест, глыбіню і паўнату раскрыцця тэмы; за пісьменнасць) пераможца конкурсу аўтаматычна атрымлівае адзнаку «пяць/пяць».

**ІІ тур. Удасканальваем свет і саміх сябе**

Заданне: неабходна раскрыць адну з наступных тэм (на выбар):

1. Бацькі і дзеці — памяняемся ролямі?
2. Здаровы спосаб жыцця — новая мода.
3. Экалогія — паняцце надзённае.
4. Уладары будучыні — людзі ці машыны?

Згадзіцеся: сапраўдны палёт для творчасці і фантазіі! Як удасканаліць свет — задача не з простых. Можна пачаць з натацый і бурчання ў адрас розных інстанцый, а можна — з сябе. Удасканальваць можна ўсё, што заўгодна. Але... Ці захаваецца за ўсім гэтым чалавечая сутнасць, непаўторнасць, душа?

Пішыце! З нецярпеннем чакаем самых смелых думак і прапаноў.

Аб'ём творчых работ — не больш за 5 аркушаў (10 старонак) са школьнага сшытка.

Дасылайце іх на наш адрас:

***220013, г.Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" з паметкай «Абітурыент журфака-2001».***

У конкурсе прымуць удзел толькі тыя работы, якія будуць надрукаваны на старонках "Чырвонай змены". З нецярпеннем чакаем лістоў ад вас, юныя падпісчыкі "Чырвонай змены"!

***Кантактныя тэлефоны: 268-25-93, 268-29-45.***





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 14.12.2000 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6604

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12